–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
4
ВЕРАСНЯ
1992 г.
№ 36 (3654)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)









Паміж жніўнем і вераснем.

Фота Аляксея МАЦЮША.

# Кола Дзён

Восень затрымалася ўсяго на адзін дзень. Яшчэ першага верасня стаяла ліпеньская гарачыня.

Але надвор'е — не галоўная праблема з тых, што хвалююць зараз, на пачатку новага навучальнага года, настаўнікаў і бацькоў. Малодшыя класы ў школах сёлета перапоўнены. Не хапае самага неабходнага — нават партаў. Няма новых падручнікаў па літаратуры, гісторыі, геаграфіі Беларусі. Не хапае і настаўнікаў, асабліва ў беларускіх школах, якіх, дарэчы, не так і шмат.

Што ж, страчанага часу не вернеш. Прыйдзецца наганяць упушчанае, як кажуць, у працэсе навучання...

**27 ЖНІЎНЯ**

На прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі першы намеснік Старшыні ВС В. Кузняцоў, міністр абароны рэспублікі П. Казлоўскі, дэпутаты Л. Прывалаў, В. Паўлаў і Ю. Папоў адказалі на пытанні, звязаныя са статусам Узброеных Сіл Беларусі. Адзначалася неабходнасць больш хуткага прыняцця прававых актаў, якія б забяспечылі надзейную абарону цэласнасці і недатыкальнасці рэспублікі на падставе партнёрства з дзяржавамі СНД з улікам канцэпцыі нейтральнага бяз'ядзернага статуса Беларусі.

**28 ЖНІЎНЯ**

Старшыня СМ Беларусі В. Кебіч прыняў удзел разам з начальнікам штаба грамадзянскай абароны рэспублікі А. Панамаровым у верталётным «дэсанце» ў Глускі раён. Прэм'ер-міністр сустрэўся з пагарэльцамі з вёсак Сяльцы і Калюга, якія амаль дашчэнту спаліў адзін з лясных пажараў. В. Кебіч паабяцаў пацярпеўшым, што яшчэ да канца года яны атрымаюць новыя дамы за кошт урада.

Апублікаваны зварот групы народных дэпутатаў Беларусі ад апазіцыі да сваіх калег. Лідэр БНФ З. Пазняк, іншыя дэпутаты заклікалі спыніць нарэшце вакацыі і правесці сесію Вярхоўнага Савета яшчэ ў канцы верасня.

**29 ЖНІЎНЯ**

Пасля нядоўгага пахаладання трапічная спёка зноў вярнулася на Беларусь. Рэкордная для гэтай пары тэмпература — 35 градусаў і вышэй — прывяла да новых пажараў, у тым ліку і ў сталіцы. У выхадныя дні Мінск аказаўся ва ўладзе смогу.

**30 ЖНІЎНЯ**

У Алма-Аце (дзе, дарэчы, было куды халадней) пачалася нарада кіраўнікоў сродкаў масавай інфармацыі краін СНД, у тым ліку з Беларусі. У нарадзе прыняў удзел прэзідэнт Казахстана Н. Назарбаеў.

**31 ЖНІЎНЯ**

На Галоўным паштамце Мінска праводзілася гашэнне дзвюх новых марак Рэспублікі Беларусь, на якіх выяўлены дзяржаўныя атрыбуты—герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг. Жадаючыя атрымаць на канверце штамп спецгашэння выстраіліся ў вялікія чэргі.

**1 ВЕРАСНЯ**

На Беларусі прагучаў першы званок—у школах, вучылішчах, інстытутах і ва універсітэтах (а іх колькасць цяпер значна павялічылася) пачаўся навучальны год. У школах прайшоў «урок патрыятызму», адбыліся экскурсіі, святочныя канцэрты. Праўда, не абышлося і без канфузаў. У адной з бабруйскіх школ, напрыклад, на ўрачыстай лінейцы прагучаў... гімн Савецкага Саюза. Яшчэ не паспелі ачнуцца, ці што?

**2 ВЕРАСНЯ**

Пасля доўгага перапынку сабраўся Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі. Галоўным пытаннем на парадку дня было скліканне чарговай сесіі парламента. Вырашана пачаць сесію 20 кастрычніка г. г.

# ЗГОДЫ І ЛАДУ!

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» вітае ўдзельнікаў XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі**

Дарагія браты і сёстры!

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» горача вітае вас, удзельнікаў юбілейнай XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, і шчыра жадае ўсім моцнага здароўя і чалавечага шчасця!

Сёння разам з вамі мы радуемся, што добрая традыцыя наладжвання такіх сустрэч дажыла да тае пары, калі Беларусь атрымала рэальныя шанцы стаць незалежнай дзяржаваю і быць гаспадыняю ў роднай хаце.

Большасць з вас, шаноўныя спадарыні і спадары, былі прысутнымі і на папярэдняй, XIX сустрэчы, і таму мы рады нагодзе выказаць вам глыбокую ўдзячнасць за тое, што вы на самым пачатку зразумелі патрэбу ў нашым Згуртаванні, падтрымаўшы яго стварэнне і адпаведным пунктам Ухвалы, і тэлеграмай, дасланай на Устаноўчую канферэнцыю «Бацькаўшчыны», што адбывалася ў Менску адначасова з вашай сустрэчаю ў кліўлендскім «Полацаку».

Два гады былі нялёгкімі і няпростымі ў нашай дзейнасці, але мы ўвесь час стараліся быць патрэбнымі беларусам, дзе б яны ні жылі — ці, скажам, у адоранай дабротамі цывілізаванага жыцця Амерыцы, ці ў пазбаўленай іх, навылёт прамерзлай Якуціі.

Мы рабілі і ўсё будзем рабіць дзеля таго, каб на грунце нацыянальнага адраджэння яднаць беларусаў свету, будаваць мост лучнасці, даверу і дружбы паміж сынамі Беларусі на ўсіх абшарах планеты, каб вы і вашыя дзеці, прыехаўшы на зямлю продкаў, адчулі спрадвечную беларускую шчырасць і дабрыню, якіх вы, на жаль, былі пазбаўлены на працягу цяжкіх дзесяцігоддзяў імперскага панавання. Але вы і ў тых

# НЯМА КУДЫ СПЯШАЦЦА?

На прэс-канферэнцыю Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча, якая адбылася днямі, прыйшло, бадай, як ніколі шмат людзей. Цікавасць журналістаў зразумелая. Парламенцкія канікулы яўна задоўжыліся. Даволі доўга знаходзіліся ў адпачынку і першыя асобы дзяржавы. Між тым, ёсць шмат пытанняў у сувязі з праблемамі, што перажывае рэспубліка і адносна якіх хацелася атрымаць інфармацыю, як кажуць, з першых вуснаў.

Афіцыйнай тэмай прэс-канферэнцыі была прыватная паездка спікера беларускага парламента ў Рэспубліку Карэя. С. Шушкевіч разам з акадэмікам АН Беларусі А. Міхайлавым прыняў удзел у нарадзе кіраўнікоў дзяржаў свету па праблемах аб'яднання Паўднёвай і Паўночнай Карэі.

Здавалася б, вопыт і праблемы далёкаўсходняй краіны маюць мала дачыненняў да нашых праблем. (Хоць на прэс-канферэнцыі прагучаў такі жарт: Беларусь і Карэю аддзяляе ўсяго адна краіна — Расія.) Аднак, па словах удзельнікаў прэс-канферэнцыі, гэта не зусім так. Прыклад пасляваеннага развіцця Рэспублікі Карэя паказвае, што выдатных поспехаў у эканоміцы можна дасягнуць не за кошт адмаўлення ад культурных каштоўнасцей і нацыянальных традыцый, а, наадварот, на грунце захавання гэтых традыцый і лепшых нацыянальных якасцей — у прыватнасці, працавітасці, руплівасці. Карэйцы, падкрэсліў С. Шушкевіч, вельмі любяць і шануюць родную мову, якая доўгі час (да 1938 года) была забаронена захопнікамі.

С. Шушкевіч засяродзіў увагу на станоўчым вопыце эканамічнага планавання ў Паўднёвай Карэі. Ва ўмовах рынку, падкрэсліў ён, планаванне і кантрольныя лічбы неабходны для рэгулявання вытворчасці, яе эфектыўнасці. Карэйскі вопыт падказвае неабходнасць па-новаму зірнуць і на дзейнасць існуючых у нас структур, якія займаюцца планаваннем, але ад якіх мала аддачы.

Пытанні журналістаў найбольш тычыліся ўнутраных пытанняў сацыяльна-эканамічнай палітыкі і дзеянняў (ці бяздзеяння?) Вярхоўнага Савета Беларусі.

Старшыня парламента выказаўся ў прынцыпе за больш хуткае скліканне чарговай сесіі. І падкрэсліў, што, на яго погляд, праца ў пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета сёння ідзе так, быццам няма куды спяшацца.

Сацыяльна-эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы Старшыня ВС ахарактарызаваў як кепскую — асабліва ў сельскай гаспадарцы. Адной з галоўных прычын была названа нечуваная засуха. Выказаў спікер парламента і сур'ёзныя прэтэнзіі да дзеянняў урада, не заўсёды кампетэнтных. Адказваючы, у прыватнасці, на пытанне пра цэны, С. Шушкевіч выказаў меркаванне, што яны будуць узрастаць, прынамсі, да таго часу, пакуль не будзе сінхранізацыі дзеянняў у фінансава-банкаўскай палітыцы ўрадаў Беларусі і Расіі. у першую чаргу ў пытанні грашовай эмісіі. Калі расійскі ўрад, падкрэсліў Старшыня Вярхоўнага Савета, будзе парушаць заключаныя паміж рэспублікамі пагадненні, наогул весці сябе нецывілізавана, Беларусь будзе вымушана пайсці ў адказ на радыкальныя меры.

Застаецца спадзявацца, што за гэтымі словамі стаіць рэальная праграма дзеянняў...

**В. Т.**

# Прэм'ера на паштамце

Той, хто наведаў сталічны паштамт 31 жніўня, магчыма, быў здзіўлены відовішчам чаргі. Паштамт — не крама, тут дэфіцыту не прыдбаеш, але стаялі людзі ў чарзе (і чарга не памяншалася з дзевяці раніцы да васьмі вечара) менавіта за дэфіцытам. За сімваламі дзяржаўнай незалежнасці.

Гэта быў дзень прэм'еры паштовых марак Рэспублікі Беларусь з выявамі дзяржаўнага герба і сцяга. Разам з маркамі быў выпушчаны канверт «Першы дзень». Канверт з маркамі, пагашанымі ў гэты дзень спецыяльным штэмпелем, рабіўся гістарычнай рэліквіяй.

Марак з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам філатэлісты чакалі ўжо з верасня мінулага года. Бо ў адпаведнасці з традыцыяй і згодна логіцы першыя паштовыя маркі суверэннай дзяржавы — з дзяржаўнай сімволікай. Нашыя ж першыя маркі назваць беларускімі можна было толькі ўмоўна. І паштовая мініяцюра з крыжам Ефрасінні Полацкай, і з партрэтам Рыгора Шырмы рыхтаваліся яшчэ пры Савецкім Саюзе. А калі СССР не стала, маркі ўсё роўна выйшлі з друку, але надпіс «Почта СССР» быў заменены на «Беларусь» кірыліцай і лацінкай. Наступнай была марка з гербам Полацка, але ўсе чакалі, калі, нарэшце, можна будзе паслаць з Беларусі ліст, наклеіўшы на канверт паштовы знак з выявай выпакутаванай «Пагоні».

Цікава, што коннік «Пагоні» крыху адрозніваецца ад зацверджанага эталона. З гэтага, мабыць, вынікае, што маркі былі запушчаны ў вытворчасць яшчэ да таго, як распрацоўшчыкі эталона знайшлі канчатковае рашэнне. А потым ужо нічога нельга было змяніць. Бо друкуем у Маскве...



Усё ж такі трэба мець не толькі свае маркі, але і ўласную паліграфічную базу. Тое ж, на маю думку, датычыць і беларускіх грошай.

**В. БОГУШ.**

Фота У. ПАНАДЫ.





ненармальных умовах душой і сэрцам гарнуліся да сваёй знявоЛенай Маці-Беларусі, мроілі пра яе наяве і ў снах, рабілі ўсё дзеля яе дабра і абуджэння. Дык слава вам за гэтую любоў і адданасць, што вытрымала самыя цяжкія выпрабаванні!

Спадзяёмся, што трывалым падмуркам у супольнай беларускай лучнасці, у справе нацыянальнага Адраджэння стане Сусветны Кангрэс беларусаў у чэрвені наступнага года.

Няхай у добрай згодзе і ладзе праходзіць ваша сустрэча!

Блаславі Вас Божа!

**В. БЫКАЎ,**
**прэзідэнт Згуртавання «Бацькаўшчына»;**

**Я. ЛЕЦКА,**
**старшыня рады.**

Менск, жнівень 1992 г.

# Да юбілею Максіма Гарэцкага

На чарговым пасяджэнні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны разгледжана пытанне аб падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, якое спаўняецца ў лютым 1993 года.

На пасяджэнні выступілі старшыня камісіі Н. Гілевіч, намеснік міністра культуры Беларусі У. Гілеп, намеснік старшыні камісіі А. Трусаў. Вырашана прапанаваць Міністэрству культуры неадкладна стварыць рэспубліканскі юбілейны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні ў рэспубліцы 100-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага. Старшынёй аргкамітэта рэкамендаваны У. Гілеп.

Падтрымана прапанова выканкома Горацкага гарадскога Савета народных дэпутатаў аб пашырэнні ў Горках гісторыка-этнаграфічнага музея са стварэннем на яго базе ў кватэры, дзе ў 1926—1928 гадах жыў вялікі дзеяч нацыянальнай культуры, музея-кватэры М. Гарэцкага.

Камісія просіць Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі выпусціць юблейныя паштовую марку і канверт, а Міністэрства інфармацыі — выдаць навуковыя і метадычныя дапаможнікі для выкладчыкаў навучальных устаноў і студэнтаў па вывучэнні жыцця і творчай дзейнасці М. Гарэцкага.

Рэкамендавана кіраўнікам упраўленняў і аддзелаў культуры выканкомаў абласных, Мінскага гарадскога, раённых і гарадскіх Саветаў народных дэпутатаў правесці ў студзені-лютым 1993 года ў гарадах і раённых цэнтрах, ва ўсіх установах культуры рэспублікі юбілейныя чытанні.

# ХАЦЕЛАСЯ Б ПАМЫЛІЦЦА...

У асяроддзі мінскай навуковай і культурнай інтэлігенцыі ходзяць чуткі, што недзе ў канцы верасня ўрад нашай краіны мае намер зрабіць Рускай Праваслаўнай Царкве ў асобе мітрапаліта Філарэта да «тысячагоддзя праваслаўя на Беларусі» (хоць правільней будзе казаць аб тысячагоддзі хрысціянства) каштоўны падарунак — полацкі храм св. Сафіі. Што будзе далей, прадбачыць няцяжка: з храма будзе выкінуты арган, на фасадзе з'явіцца «праваслаўная» мазаіка, будзе збіта са сцен барочная аздоба. І ўвогуле не выключана, што з часам у выніку «рэканструкцый» з мэтай «вяртання» храму «праваслаўнага» выгляду Полацкая Сафія стане падобнай на любы сэрцу мітрапаліта Успенскі сабор Маскоўскага Крамля.

Хацелася б думаць, што ўсё гэта толькі чуткі, што ўрад не пойдзе на тое, каб абразіць нацыянальныя пачуцці беларускага народа, перадаўшы ва ўласнасць іншай дзяржаве (мітрапаліт Філарэт прадстаўляе на Беларусі інтарэсы замежнай краіны, бо падпарадкоўваецца патрыярху Маскоўскаму) галоўны храм Беларусі, спрадвечны (з часоў Полацкай дзяржавы) сімвал яе незалежнасці і духоўнай сілы.

Наша газета з задавальненнем надрукавала б афіцыйнае абвяржэнне чутак і прынесла б прабачэнні ўраду за тое, што так кепска пра яго падумала.

П. В.

# «Узрошчаны пад Гайнай...»

## На Лагойшчыне ўрачыста адкрыты філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы

Акопы... Парослыя травой фундаменты колішніх пабудоў... Дрэвы, што з двух бакоў абступаюць былое селішча... Сімвалічны зруб на месцы, дзе раней і на самай справе знаходзіўся калодзеж. Камень-валун ці не ў самым цэнтры, а на ім радкі, напісаныя тут, у Акопах, у 1911 годзе:

Неба, сонца, месяц, зоры,
Людзі, пушча, ўся зямля,
Усё да сэрца штось гавора,
Усюды бачу моц жыцця.

Гэта тое, што нагадвае аб знаходжанні ў тутэйшых мясцінах Янкі Купалы. Першы раз да маці, якая жыла ў Акопах, пясняр наведаўся ў 1911 годзе: прыехаў з Пецярбурга ўжо знакамітым паэтам, аўтарам зборнікаў «Жалейка» і «Гусляр». Пасля гэтага на працягу ажно пятнаццаці гадоў пры любой магчымасці завітваў сюды. Да 1926 года прыязджаў, пакуль не забраў маці да сябе ў Мінск.

У Акопах Я. Купала не адпачываў, а працаваў. Плённа, мэтанакіравана. Гэтак, як А. Пушкін — у Болдзіне, М. Някрасаў — у Карабісе, Я. Колас — у Мікалаеўшчыне, М. Гарэцкі — у Малой Багацькаўцы. Акопскі перыяд у творчасці Я. Купалы — надзіва плённы. Акопы — гэта «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо», «Прымакі» і «Бандароўна», «Яна і я» і «Магіла льва». Нарэшце, гэта «Тутэйшыя», што нарадзіліся тут роўна семдзесят гадоў назад. Усяго ж у матчынай хаце пясняр напісаў 70 твораў, зрабіў пераклад неўміручага «Слова пра паход Ігаравы».

Чаму ж сталася так, што Акопы і існавалі ў паэтавай біяграфіі, і адначасова іх як быццам і не было? Прынамсі, нічога не рабілася, каб хоць неяк увекавечыць памяць аб песняры на лагойскай зямлі. А між тым тутэйшыя мясціны былі Я. Купалу вельмі дарагімі і ў вершы «Я не сокал...» ён пра гэта прама сказаў:

Я не сокал зоркавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Узносіцца з іх кажны.
Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна.
А я толькі верабейка,
Узрошчаны пад Гайнай...

Былі забыты не толькі Акопы, а і іншыя населеныя пункты Лагойшчыны, дзе даводзілася жыць паэту ў маленстве ці бываць там пасля. «Забылася», што з Лагойшчынай у жыцці яго звязана нямнога-нямала, а 35 гадоў!

І толькі некалькі гадоў назад пытанне аб увекавечанні знаходжання Я. Купалы на Лагойшчыне па-сапраўднаму стала на парадак дня. Гэтым разам ініцыятыва мела добрую глебу. Шмат парупіліся ўраджэнец Лагойшчыны Ніл Гілевіч, дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы Жана Дапкюнас. Іх намаганні падтрымалі ў Міністэрстве культуры рэспублікі.

Калі ўзнікла пытанне аб размяшчэнні філіяла музея, выбар спынілі на вёсцы Харужанцы. Колісь непадалёку знаходзіўся хутар Міхалішкі, які, між іншым, згадваецца ў «Паўлінцы». Паколькі будынкаў, якія «памяталі» Я. Купалу, не захавалася, пад музей узвялі новы ў стылі тагачасных пабудоў. Канцэпцыю ж экспазіцыі яшчэ ў 1989 годзе распрацаваў заслужаны дзеяч культуры Беларусі Э. Агуновіч, які, дарэчы, афармляў і Купалаў дом у Мінску. Над стварэннем самой экспазіцыі працавалі мастакі А. Грачоў і У. Пратасеня.

З Харужанцаў да будынка філіяла вядзе бетонная сцяжына. Сам жа будынак — на пагорку, на месцы колішняга хутара.

Дырэктар Купалавага музея Ж. Дапкюнас расказвае прысутным, наколькі стала прапісалася ў біяграфіі песняра Лагойшчына. Пра гэта ж нагадвае і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч.

Н. Гілевіч перарэзае сімвалічную чырвоную стужку і пачынаецца першая экскурсія — з экспазіцыяй знаёмяцца госці свята. А паглядзець ёсць што.

Пачатак урачыстасцяў. Кветкі Янку Купалу нясуць Ніл ГІЛЕВІЧ і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген ВАЙТОВІЧ.

Карта Купалавых мясцін на Лагойшчыне — гэта вёскі і хутары Косіна, Прудзішча, Селішча, Гаяны, Акопы, Карпілаўка, Харужанцы, Малыя Бясяды, Ляўшова, Жукаўка, Міхалішкі... І пра кожны населены пункт ёсць тут экспанат, згадваюць многія з іх радкі народнага песняра... Тут жа кніга Я. Купалы ці ўспаміны пра яго сучаснікаў, гісторыка-мемарыяльныя рэчы, творы жывапісу і графікі. Адным словам, парупіліся музейныя работнікі, каб лепей і даходлівей перадаць атмасферу, у якой жыў і тварыў Я. Купала, даць магчымасць наведвальнікам пераканацца, што і сапраўды пясняр быў «узрошчаны пад Гайнай»...

Ля летняй жа эстрады ўжо людна. Сабраліся жыхары Харужанцаў і навакольных вёсак, прыехалі аматары паэзіі з Мінска — дабрацца сюды не так і цяжка: рэгулярна ходзяць рэйсавыя аўтобусы. У цэнтры сцэны — знаёмы партрэт песняра, абапал якога бел-чырвона-белыя палотнішчы, як сімвал незалежнай Беларусі, у імя якой жыў і тварыў Я. Купала, пра якую марыў. У тым ліку і ў акопаўскім вершы «І прыйдзе»:

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі...

Пра Купалу і час гавораць выступоўцы: старшыня Лагойскага райвыканкома М. Крэсік, Н. Гілевіч, старшыня Мінскага аблвыканкома А. Цішкевіч, С. Грахоўскі, М. Аўрамчык, міністр культуры Рэспублікі Марыя Эл В. Мікалаеў, Р. Баравікова, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, В. Іпатава, А. Вярцінскі, С. Законнікаў, М. Мятліцкі, У. Някляеў, Л. Дранько-Майсюк, Б. Сачанка, дырэктар Літаратурнага музея Я. Коласа З. Камароўская і іншыя.

Над наваколлем зноў гучаць пакліныя гукі сурмы — гэта вядомы музыка-рэстаўратар У. Пузыня з сынам Алесем запрашаюць усіх на канцэрт. У ім прынялі ўдзел вядомыя самадзейныя калектывы Міншчыны. І, канечне ж, не абышлося без знакамітай Купалавай «Паўлінкі». Паказалі спектакль артысты Слуцкага народнага тэатра.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Уладзімір КРУК (фота),**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**

У філіяле музея — першая экскурсія.

Сцэна са спектакля «Паўлінка» ў пастаноўцы Слуцкага народнага тэатра.

# АКОПЫ

Бунтарыў ТУТ майго народа дух,
Калі народ, было, ў бязмоўі глух,
Калі душу сярмяга зла сцінала.
Узняўся тут між сцюжных завірух
Няскоранаю годнасцю Купала.

Адсюль глядзеў ён шырака на свет,
Зямлі шаптаў сыноўні запавет,
Паліла сэрца думка агнявая;
Вякам паслаўшы полымны прывет,
Прамовіў тут ён: Беларусь жывая!

Адсюль ступіў пуцінай хмурых дзён
Змагар за шчасце Беларусі, ён,
І веру-ўцеху ў сэрцы не зламіла
Ні зграя культу, шэпчучы праклён,
Ні чорная дачасная магіла...

Бязмоўна хмары стылыя ляглі
І адабралі сонца ў той зямлі,
Дзе дум святло Купалавых лунала.
Акопы быльнягамі параслі,
І мова ў сэрцах матчына канала.

З былля, з акопаў сечаў векавых
Купалы слова мой чаруе слых,
Вяртаецца пуцінаю збавення.
Яно — як гойнай памяці ўскалых,
Як вера ў новы поступ Адраджэння.

Я ведаю: паміж зямных нягод
Прачнецца гнеўнай годнасцю народ,
Чыя душа ў пакоры доўга спала.
І, зрынуўшы бязмоўя чэзлы лёд,
Пачуе ўсё, што тут сказаў Купала.

Мікола МЯТЛІЦКІ.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Не з'ядзім бананаў, а падпішамся

«ЛіМ», бадай, больш чым якая іншая рэспубліканская газета друкуе матэрыялы аб увядзенні дзяржаўнай мовы Беларусі як у справаводстве, так і ў быце.

Але адна недарэчнасць вымусіла напісаць вам. Агітуючы чытачоў падпісацца на «ЛіМ», у нумары за 14 жніўня раптам прыводзіцца цэтлік для падпіскі на... рускай мове, у тым ліку і правілы падпіскі. Аналагічны цэтлік змешчаны і ў іншых беларускамоўных газетах.

Думаю, не так ужо і абавязкова для Рэспублікі Беларусь карыстацца цэтлікам былога Міністэрства сувязі СССР, больш таго, тыражаваць яго на рускай мове для новай падпіскі. Можна было б ужо калі не выпрацаваць сваю рэспубліканскую форму цэтліка, дык хоць перакласці яго на беларускую мову. Дробязі? Як сказаць!

А мы, удзячныя чытачы, не з'ядзім лішні фунт бананаў і дружна падпішамся на вашу папулярную газету, балазе, цэтлік пад рукамі — выражам з газеты.

**Аляксей АНЦІПОВІЧ.**

г. Мінск.

# Чатыры з 49

Надоечы прачытаў у нашым аддзяленні «Укрдруку», што да іх паступілі каталогі перыядычных выданняў на 1993 год, і вось сёння, прыхапіўшы купоны-карбаванцы (савецкія рублі на Украіне ўжо не ходзяць у насельнікаў!), іду ў аддзяленне «Укрдруку», каб панавіць падпіску на 1993 год наступных выданняў з Беларусі: «ЛіМ», «Спадчына», «Наша слова», «Настаўніцкая газета», «Роднае слова», «Полымя», «Маладосць», «Вожык», «Бярозка», «Чырвоная змена», «Звязда», «Фізкультурнік Беларусі». Усе гэтыя выданні я пастаянна выпісваю, пражываючы ўжо звыш 20 гадоў па-за межамі Бацькаўшчыны, і нават сёння, ведаючы, наколькі разоў пайшоў кошт падпіскі ўгару ў параўнанні з мінулым годам, я не ўяўляю сабе нармальнага жыцця без сваіх любімых выданняў з Беларусі... Але калі дзяўчына падала мне каталог «Газеты, журналы, 1993» (Масква, «Роспечать»), у якім змешчаны пералік газет і часопісаў Рэспублікі Беларусь, якія можна выпісаць за межамі Беларусі, у тым ліку і тут, на Украіне, мне ледзь не зрабілася блага, бо з 22 газет і 27 часопісаў у каталог патрапілі ўсяго толькі 1 (адна!!!) беларускамоўная газета («Звязда») і 3 (тры!!!) беларускамоўныя часопісы («Беларусь», «Вожык», «Работніца і сялянка»).

Што ж гэта за незалежная, суверэнная «Рэспубліка Беларусь», калі ў каталог ад яе імя супрацоўнікі Дзяржаўнага аб'яднанага прадпрыемства «Мінская пошта» ўключылі такія антыбеларускія выданні, як «Мы и время», «Славянские ведомости», «Семь дней»... Пазіраеш на спіс выданняў, і, чэснае слова, робіцца балюча і крыўдна за сваю Бацькаўшчыну: замест «ЛіМа» і «Спадчыны» спадары з «Мінскай пошты» прапануюць нам «Ласковый май», «Ближний Запад», «Ярмарку», усё яшчэ «савецкую» «Советскую Белоруссию», «Детектив», «Коммерческий вестник НЕССИ»... Не, не Рэспублікай Беларусь патыхае з гэтага пераліку газет і часопісаў, а Северо-Западным краем! І што б там ні казалі аб Адраджэнні беларушчыны, яго Н Я М А! Наадварот, пакрысе спрабуюць вялікадзяржаўныя шавіністы дабіць тое кволае беларускае, што яшчэ неяк тлела ў былой БССР. А «начальніцкія» выступленні па радыё на расійскай мове на Беларусі сталі няпісаным «законам»: нават Г. Панфіловіч у адной з перадач «Радыёфакта» карэспандэнту, які задаваў ёй пытанні па-беларуску, шпарыла свае адказы па-расейску! А яна ж мае дачыненне да распаўсюджвання друку на Беларусі. Як кажуць, вось дзе «сабака закапаны»! Дык ці не пара ўжо асоб, якія займаюць высокія дзяржаўныя пасады і не выконваюць законаў аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў Беларусі, пазбавіць іх магчымасці перашкаджаць гэтаму Закону, нарэшце, запрацаваць?!

Дык куды ж падзеўся з каталога «ЛіМ» і шэраг іншых беларускамоўных выданняў, якія спрыяюць беларускаму адраджэнню: «Спадчына», «Наша слова», «Роднае слова», «Бярозка», «Пралеска» і шэраг іншых?! Чаму я, беларус, які жыве не на сваёй Бацькаўшчыне, магу згубіць апошняе, што звязвае мяне з ёю — беларускамоўныя газеты і часопісы?! Хто адкажа, дзе мне падпісацца на «ЛіМ», «Спадчыну», «Настаўніцкую газету», «Наша слова», «Роднае слова»?

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобл.

**АД РЭДАКЦЫІ.**
Такі ж ліст прыйшоў і ад нашага пастаяннага чытача з г. Багародзіцка Тульскай вобласці Я. Кохана. Ён таксама не знайшоў «ЛіМа» ў падпісных каталогах на 1993 год.

# І ўсё не на роднай

У № 32 «ЛіМ» за 7 жніўня 1992 г. прачытаў артыкул «Крытычная сітуацыя — радыкальныя меры» Я. Шыраева.

Цалкам згодзен з разумнай прапановай аб беларусізацыі Рэспублікі Беларусь. Лічу, што для гэтага патрэбны рухавікі. Але вось як зрабіць, каб падштурхнуць Вярхоўны Савет націснуць на гэтыя рухавікі? Акрамя ўсяго астатняга, большасць дэпутатаў размаўляюць на іншай мове, а не на роднай.

А вось яшчэ такі прыклад: 10.08.92 у 10.53 на прыпынку «Масюкоўшчына» сеў у электрацягнік на г. Маладзечна. Чую, аб'явы аб прыпынках на расейскай мове. Праз некалькі хвілін праз цягнік ідзе намеснік машыніста. Я спытаў у яго, чаму аб'явы робяцца на іншай мове, а не на нашай? Ён адказаў мне, што неаднаразова рабілі спробу аб'яўляць на роднай мове, але начальства катэгарычна забараняе. І вось праз хвіліну-другую машыністу цягніка па радыё растлумачыў, што сапраўды ім забараняюць рабіць аб'явы на роднай мове таму, што ўсе начальнікі ад малога да вялікага на чыгунцы — рускія.

Дык, людцы добрыя, мы ж знаходзімся ў сябе на радзіме, а нам забараняюць размаўляць на роднай мове? У якой краіне свету такое магчыма? Мусіць, толькі ў адной нашай замардаванай Беларусі?!

**Л. АРМОНІК,**
**ветэран вайны і працы.**

г. Маладзечна.

# У Барысаве «ништяк»

Днямі абышоў большасць кіёскаў Барысава ў дарэмнай спробе набыць штотыднёвік «ЛіМ». У адказ чуў:

— А что это такое?

Ды зрэдку:

— Не ведаем чаму, а каторы месяц не прывозяць. Пэўна, мясцовы «Саюздрук» заяўку не дае.

І не скажаш жа, што попыту няма. Як і раней, «ЛіМ» бы раскупляўся. І не толькі ж адны жонкі рускамоўных ваенных займаюць тут пасады кіяскёрак, свядома запіхваючы беларускія выданні ў куток падалей. Не, сама абстаноўка ў горадзе наводзіць на сумны одум. Часам міжволі ахоплівае пачуццё нейкай, так бы мовіць, ірэальнасці таго, што бачыш. І не таму, што ў цэнтры, ля будынка райвыканкома, можна заўсёды прачытаць вялізнымі літарамі выбітае «Мы придем к победе коммунистического труда», а на цэнтральнай плошчы ўсё нібы прыціснута гіганцкай скульптурай аўтара гэтай цытаты. І, пэўна, не таму, што часам на той жа плошчы нехта ўпарта вывешвае малаткаста-сярпастыя сцягі былога Саюза, а на спартыўных спаборніцтвах узнімаюць былы бэсэсэраўскі. І не таму, што ў горадзе, нягледзячы на галадоўку пратэсту аднаго з дэпутатаў гарсавета, пазбавіліся ад беларускамоўнай газеты. Не, складваецца ўражанне, што тут СВЯДОМА не хочуць беларускасці.

Вось таму ў кіёсках горада цесна ад стосаў такіх выданняў, як «Мы і время», у беларускай гімназіі актыўна вывучаюць... польскую мову, у царкве казанні па-расейску, а ў адноўленым касцёле, вядома, па-польску. Адных даведнікаў пра горад графаманіста выдалі аж некалькі. Усе таксама па-расейску. Рэклама кіно, аўтаадказчыкі — тое ж самае. У такім кірунку можна было б працягваць бясконца.

У блатным жаргоне ёсць такі выраз: «здесь ништяк». Так гавораць злодзеі пра горад, дзе ім вольна пачуваецца. У Барысаве, які стабільна лічыцца нечым накшталт «Палерма» і стабільна займае адно з першых месцаў па злачыннасці, вольна адчуваюць сябе не толькі крымінальнікі, а і ворагі беларушчыны. Тут ім, як кажуць, поўны «ништяк».

Зусім, лічы, нядаўна гарадскія ўлады планавалі будаваць на беразе Бярэзіны нейкую панараму ў гонар быццам перамогі над Напалеонам. Ганцы іх ездзілі ў Маскву за «высочайшим» дазволам. Бязглуздыя планы разбурыла сітуацыя ў краіне. Цяпер Бярэзіну перасекла нядаўна пабудаваная стройная і прыгожая страла новага моста. Што ж, гэта вялікі плюс гораду. Адразу ўспомніўся пісьменнік Іва Андрыч, які лічыў масты сімвалам самых вялікіх і высакародных дзеянняў, якія прыносяць карысць усім людзям.

Але ж падумалася і іншае. Калі ў тых жа людзей няма пачуцця нацыянальнай свядомасці ды еднасці, то і сам мост і дарога праз яго прывядуць у нішто, ці, што не лепш, у звычайны, пошлы «ништяк».

**Юры СТАНКЕВІЧ,**
**літаратар.**

г. Мінск.



Фота У. ПАНАДЫ.

# Падтрымліваю вашу пазіцыю

Вельмі ўдзячны за артыкул «Чаму крыўдзіцца пракурор». Прадстаўнікі злачыннай арганізацыі, якая кіравала намі, і надалей будуць змагацца за свае «ідэі» (чытай — прывілеі). Яны хочуць застрашыць усіх, асабліва супрацоўнікаў свабоднай, незалежнай прэсы, да якой адношу «ЛіМ». Падтрымліваю вашу пазіцыю. Буду выпісваць і надалей вашу газету, мяне не турбуе павелічэнне кошту падпіскі, ды папраўдзе, ён не такі ўжо і вялікі.

Поспехаў жадаю Вам!

**Анатоль ЖОЎНЕР.**

г. Мінск.

# Трэба ж дайсці да ладу

Чытаю сённяшнія газеты, а на памяць прыходзіць даўняе. Дзесьці на пачатку пяцідзесятых гадоў журналісцкія сцежкі прывялі мяне ў адзін з калгасаў Піншчыны. У канторы сядзеў толькі бухгалтар — пажылы аблыселы чалавек у акулярах, не вельмі ахвочы да размоў. Абнадзеўшы мяне, што хутка з'явіцца старшыня, ён засяродзіўся на нейкіх паперах, час ад часу адмахваючыся ад мух, што роем віліся над сталом.

Бавячы час, я падышоў да насценнай газеты. На першы погляд яна нічым не адрознівалася ад тых, што віселі на сценах многіх кантор: масіўная рамка з пафарбаваных дошак, аляпаваты загаловак «За ўраджай», спасылка на сваіх «заснавальнікаў» — «орган партарганізацыі і праўлення калгаса». А вось усё астатняе мне давялося бачыць упершыню. Рэдкалегія, відаць, не абцяжарвала сябе лішнімі клопатамі. Уся «газетная» плошча была заклеена лісткамі розных памераў, на якіх хто на беларускай мове, хто на рускай, а хто і на мясцовым дыялекце выкладаў свае заўвагі, схаваўшыся за загадкавымі прозвішчамі «Аса», «Шыла», «Вока».

Чаму ж гэта прыгадалася сёння? А таму, што многія газеты нашай суверэннай Беларусі нагадваюць тую насценную. Па загалоўку — быццам бы беларуская газета, а пераважная большасць публікацый — на рускай мове. Няўжо ў гэтым такая неабходнасць? У нас жа дастаткова рускамоўных газет. Спасылкі на тое, што многія жыхары рэспублікі не разумеюць па-беларуску, не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Паспрабуйце ў нашым раённым гарадку купіць у кіёсках, напрыклад, «Звязду» пасля дзесяці гадзін раніцы. Калі б не быў падпісчыкам, то «ЛіМа» я зусім не бачыў бы. Не залежваюцца больш двух дзён у кіёсках часопісы «Маладосць», «Беларусь», «Работніца і сялянка», «Вожык» і іншыя. Складваецца ўражанне, што хтосьці спецыяльна ставіць рагаткі на шляху адраджэння роднай мовы. Колькі ж гэта будзе працягвацца? Калі ў нас, нарэшце, будзе выконвацца адпаведны закон, прыняты Вярхоўным Саветам Беларусі?

І яшчэ аб адной, на мой погляд, вельмі важнай праблеме. Той, хто сёння імкнецца авалодаць беларускай мовай, перш за ўсё звяртаецца да перыядычных выданняў. І вось тут ён натыкаецца на непаразуменне. Нават у такіх папулярных выданнях, як «Літаратура і мастацтва», «Народная газета», адны і тыя ж словы пішуцца па-рознаму: «кампазіцыя» і «кампазыцыя», «здзівіла» і «зьдзівіла», «глобус» і «глёбус», «Маладзечна» і «Маладэчна» і г. д. Усё залежыць ад аўтараў публікацый. Зянон Пазняк, іншыя актывісты БНФ, як і прадстаўнікі беларускага замежжа, карыстаюцца правапісам Тарашкевіча і Лёсіка. Большасць жа прытрымліваецца новага правапісу. Вядома, што такі разнабой не на карысць нашаму руху да беларусізацыі грамадства.

Няма сумнення ў тым, што беларускай мове трэба вярнуць яе натуральнае гучанне. Але ўсё неабходна добра ўзважыць, памятаючы аб тым, што мова — гэта не застылы маналіт, а жывы арганізм, які пастаянна развіваецца.

Добра было б, каб штотыднёвік «ЛіМ» узяўся за вырашэнне гэтай праблемы з такой жа настойлівасцю, з якой дабіваўся прыняцця Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Хацелася б убачыць на яго старонках выказванні па гэтай праблеме вядучых навукоўцаў, такіх пісьменнікаў, як Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін.

**Аляксей КАУКО.**

г. Іванава Брэсцкай вобл.

**НОВЫЯ ВЫДАННІ**

# Для ўсіх хрысціян Беларусі




Беларуская каталіцкая грамада (БКГ) нарэшце мае свой перыядычны друк. Пабачыў свет першы нумар часопіса «Хрысьціянская думка». Праўда, на вокладцы пазначана «1 (211) 92». Гэтым падкрэсліваецца гістарычная пераемнасць. Часопіс такога ж кірунку і з такой жа назвай выходзіў у 30-я гады на акупаваных пілсудчыкамі заходнебеларускіх землях.

Часопіс друкуе афіцыйныя матэрыялы БКГ — ухвалы і звароты, прынятыя на II Сойме Грамады; аповяд пра абраз Вострабрамскай Божай Маці, малітваспевы на беларускай мове. «Хрысьціянская думка» знаёміць чытачоў з выдатнымі дзеячамі беларускага хрысціянскага руху, у прыватнасці, з жыццём і дзейнасцю ксяндза Адама Станкевіча (да 100-годдзя з дня нараджэння). Ягоная літаратурная спадчына прадстаўлена ў часопісе даследаваннем «Хрысціянства і Беларускі Народ». Гэтая ж тэма асвятляецца і ў артыкуле Часлава Сіповіча «Асновы беларускага патрыятызму» (перадрук з часопіса «Божым шляхам», № 3, 1947 г.).

Вітаўт Чаропка, ён, дарэчы, рэдактар часопіса, звяртаецца да малавядомых старонак беларускай гісторыі, да XIV стагоддзя. Ягоны артыкул «...Быў пэўны ў сваім рашэнні хрысціцца», прысвечаны асобе вялікага князя Літоўскага Гедыміна. Вялікі князь спрабаваў наладзіць добрыя стасункі з хрысціянскім Захадам і адначасова не пакрыўдзіць сваіх падданых-язычнікаў. Скончылася гэта для Гедыміна трагічна. «Так і не стаўшы хрысціянінам, прыняў за хрысціянскую веру пакутніцкую смерць».

Для прыхільнікаў духоўнай паэзіі ў часопісе вершы Казіміра Сваяка са зборніка «Мая ліра» (Вільня, 1924 г.).

Адзін з галоўных матэрыялаў нумара — нататкі Алеся Бяляцкага «Парахвія ў Браславе» — пра сённяшні дзень беларускага каталіцызму.

Язэп Янушкевіч, магчыма, адшукаў невядомы твор Янкі Купалы... Пра гэта ў допісе «Хто аўтар?»

Нечаканыя паралелі з беларускай архітэктурай і выяўленчым мастацтвам рыма-каталіцкай арыентацыі знаходзіць Яўген Шунейка ў культуры Партугаліі. Ягоны артыкул мае назоў «На ўзбярэжжах» і падзагаловак «Беларусь у каталіцкім свеце».

Не забыта ў часопісе і музычнае мастацтва. Пра гэта — артыкул Уладзіміра Неўдаха (з доўгай назвай на лацінскай мове).

Як звяртацца да Бога? — артыкул Алеся Жлуткі «Пан, Госпад, Спадар?..»

Пад рубрыкаю «У каталіцкім свеце» змешчана «Апавяданне аб жыцці Айца Піо» Караля Вагінэра ў перакладзе кс. Уладзіслава Чарняўскага.

І на заканчэнне — хроніка, кароткія рэцэнзіі і пераказ зместу нумара на італьянскай, ангельскай, польскай, летувіскай і ўкраінскай мовах. Наклад 3000 асобнікаў.

**В. БОГУШ.**

ЧАС І МЫ

# СВЯТАЯ ЗАДАЧА

НЯМА СЁННЯ больш важнай задачы, чым адраджэнне нашай вёскі, дзе за гады калектывізацыі быў вынішчаны традыцыйны сялянскі побыт з яго адвечнай любоўю да зямлі, нацыянальнай культурай, верай у высокае прызначэнне селяніна.

За тое, каб зрабіць вёску вольнай і багатай змагаецца Беларуская сялянская партыя, якая робіць усё, каб хутчэй ажыццявіць зямельную рэформу. Сутнасць яе — праца вольнага чалавека на ўласнай зямлі. Такая форма гаспадарання даказвае сваю жыццяздольнасць ужо не адно стагоддзе. І хоць яна не з'яўляецца ідэальнай, можна сцвярджаць, што лепшага чалавецтва яшчэ не прыдумала.

Але зямельная рэформа не дасягне сваёй мэты без адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, яго гісторыі і культуры, мовы і веры. Відавочна, што гэтая вялікая і святая задача кладзецца ў асноўным на плечы інтэлігенцыі.

Я цалкам згодзен з аўтарам апублікаванага ў «ЛіМе» за 31 ліпеня г. г. артыкула «Суверэнітэт. Культура. Самасвядомасць» Мікалаем Крукоўскім, што нам патрэбна беларуская нацыянальная філасофія. Як сказаў сп. Крукоўскі, носьбітам культуры і нацыянальнай самасвядомасці з'яўляецца інтэлігенцыя, і народ так ці гэтак ідзе за ёй. Настаў час інтэлігенцыі вызначыцца і зрабіць свой выбар. Бо мы фактычна жывем яшчэ ў краіне з таталітарнай сістэмай, зроблены толькі першыя крокі да дэмакратычнай прававой дзяржавы. Стварэнне такой дзяржавы менавіта цывілізаваным шляхам патрабуе намаганняў усіх слаёў грамадства і ў першую чаргу інтэлігенцыі.

Вось, нарэшце, мы і прыйшлі да пытання: што рабіць? Удзел у грамадска-палітычным жыцці, падтрымка дэмакратычных рэформ, выбар палітычнай партыі—гэта шлях кожнага сумленнага інтэлігента. Некаторыя з іх заяўляюць, што яны па-за палітыкай, што прынцыпова не ўступаюць ні ў якую партыю. Відавочна, што такая страусіная псіхалогія не да твару разумнаму чалавеку. Тым болей, што апалітычнасць — гэта таксама палітыка. Чалавек, які не падтрымлівае дэмакратычных плыняў, гэтым самым умацоўвае тых, хто хоча нас вярнуць у колішні сацыялістычны рай.

Былая сістэма трымалася на дзвюх галоўных апорах: беззаконні і падмане народа. Тое ж існуе ў нас і цяпер. Закона аб прыватызацыі няма, а па часовым падзаконным акце «прыхватызуецца» ўсё, што даспадобы людзям пры ўладзе. Хіба гэта не датычыць інтэлігенцыі? Шаноўныя, рабуюць жа і вас!

Працягваецца абалваньванне народа, асабліва на раённым узроўні. Людзям штодзённа ўбіваюць у галаву адну думку: усе беды ад дэмакратаў. Некаторыя газеты так і пішуць: «...дэмакраты ва ўладзе нядаўна, але ўжо відно, куды яны вядуць». Людзі добрыя, дзе вы бачылі дэмакратаў ва ўладзе? Уся ж былая партдзяржнаменклатура засталася на месцы, толькі перасела ў іншыя крэслы. Зразумела, чаму ўлады ўсіх узроўняў выступілі супраць рэферэндуму, чаму Вярхоўны Савет у цяжкі для краіны час зрабіў вакацыі на ўсё лета. На жаль, беларуская інтэлігенцыя сваёю маўкліваю згодаю падтрымлівае такія дзеянні. Асабліва бачна гэта на прыкладзе зямельнай рэформы.

Пасля жнівеньскіх падзей мінулага года Вярхоўны Савет прыняў некалькі законаў аб зямлі, якія дазваляюць прыдбаць зямлю і самастойна гаспадарыць на ёй. За гэты час атрымалі зямельныя надзелы каля 2 тысяч грамадзян. Законы аб зямлі вельмі не спадабаліся былой наменклатуры. Яна рабіла ўсё, каб прыпыніць іх ажыццяўленне. З высокіх крэслаў загучалі тэлефонныя каманды: «Не смейте разбазаривать землю!» Вось тады чыноўнікі і распрацавалі праект закона «Аб праве ўласнасці на зямлю», які ў выпадку прыняцця не толькі прыпыніць зямельную рэформу, але і наогул паставіць на ёй крыж.

Справа ў тым, што ён прадугледжвае калектыўную ўласнасць на зямлю. Гэта спроба закансерваваць навекі калгасны лад. Саўгасы ж цяпер паўсюдна ператвараюцца ў калгасы. І будзе гэтая зямля ўжо не «агульнанароднай», а калектыўнай. І нягледзячы на тое, што ў калгасах семдзесят працэнтаў людзей пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту і многія землі зарастаюць бадыллем, узяць іх будзе немагчыма. Гэта будзе іх уласнасць.

Калі гэты закон пачне дзейнічаць (а ён разгледжаны ў першым чытанні на мінулай сесіі Вярхоўнага Савета), то вы, шаноўныя інтэлігенты, ні для сябе, ні для сваіх дзяцей зямлі ўжо не прыдбаеце. Не атрымае яе і фермер для пашырэння сваёй гаспадаркі да аптымальных памераў. Не атрымае яе гараджанін для будаўніцтва дома ў вёсцы. Не атрымае яе былы вайсковец, які пасля скарачэння арміі стане беспрацоўным. Не атрымае прадпрымальнік. Ніхто. Як казалі раней, вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень. Пагулялі ў рэформу, і хопіць. Тое, што бюракратычны апарат хоча ўратаваць сваё карыта, з якога ён корміцца ўсе гады савецкай улады, зразумела. Незразумела, чаму маўчаць усе астатнія, і ў першую чаргу інтэлігенцыя, якая павінна растлумачыць людзям небяспеку, выказаць свой пратэст супраць падрыхтоўкі такіх законаў. Трэба адзначыць, што нідзе ў свеце калектыўнай формы ўласнасці на зямлю няма.

Хачу сказаць некалькі слоў пра тое, што зрабіла Сялянская партыя, каб прыцягнуць увагу грамадства да гэтага пытання. 20 чэрвеня г. г. мы правялі другі з'езд беззямельных, дзе абмяркавалі праблемы ажыццяўлення зямельнай рэформы. Дзвесце пяцьдзесят удзельнікаў з'езда пацвердзілі, што рэформа сабатуецца мясцовымі ўладамі, законы аб зямлі не выконваюцца, а дзяржаўныя органы, якія праводзяць зямельную рэформу, не маюць належных паўнамоцтваў для яе ажыццяўлення. Адначасова з'езд падтрымаў праект закона аб зямлі, распрацаваны Беларускай сялянскай партыяй.

Сутнасць законапраекта ў тым, што зямлі, як агульнанароднаму здабытку, надаецца статус тавара. Землі садовых кааператываў, прысядзібных участкаў, фермерскіх гаспадарак перадаюцца бясплатна ў прыватную ўласнасць з правам куплі і продажу цяперашнім уладальнікам. Усе астатнія землі аб'яўляюцца дзяржаўнымі. Дзяржава, у асобе органаў мясцовага самакіравання, здае іх у арэнду юрыдычным і фізічным асобам, гэта значыць, калгасам, саўгасам, фермерам на роўных умовах. Усе арандатары плацяць толькі арэндную плату, другіх падаткаў не павінна быць. Фермеры, пасля пяцігадовага гаспадарання на арандаванай зямлі, атрымліваюць яе ў прыватную ўласнасць.

Законапраект прадугледжвае вырашэнне некалькіх вельмі балючых праблем. Ён прымусіць калгасы і саўгасы пазбавіцца ад лішняй зямлі і арандаваць яе столькі, колькі магчыма эфектыўна апрацаваць. Колькасць зямлі ў калгасах і саўгасах паступова будзе памяншацца, калі будзе памяншацца ў іх колькасць рабочых рук.

Цяпер многа спрэчак вакол органаў мясцовай улады. Патрабуюць яе рэформы. Згодзен. Але ніякая рэформа не дапаможа, пакуль мясцовая ўлада не будзе мець свайго бюджэту. Наш законапраект прапануе ствараць гэты бюджэт з арэнднай платы за зямлю. Значная частка гэтых сродкаў магла б пайсці на карысць мясцовых жыхароў: стварэнне інфраструктуры, сацкультбыту, падтрымку пенсіянераў і маламаёмасных грамадзян.

Ёсць і праблема былых зямельных уласнікаў. Праўда, іх амаль не засталося ў жывых, вярнуць жа зямлю нашчадкам вельмі складана. Выйсце тут бачыцца адно — шляхам арэнды бацькоўскай ці дзедаўскай зямлі атрымаць яе нашчадкам у прыватную ўласнасць.

Як бачна, законапраект стварае ўмовы для радыкальнай зямельнай рэформы і каменя на камені не пакідае ад усіх гэтых размоў праціўнікаў прыватнай уласнасці на зямлю аб небяспецы спекуляцыі ёю, распродажу чужынцам.

Найбольш разумныя прадстаўнікі калгасна-саўгаснай сістэмы ўжо даўно зразумелі, што трэба яе рэфармаваць. Вось прыклады. Старшыня калгаса «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна Сямён Шарэцкі стварыў на землях калгаса больш за трыццаць фермерскіх гаспадарак. Фермеры застаюцца членамі калгаса, яны аб'яднаны ў асацыяцыю і кіраўнік асацыяцыі з'яўляецца членам праўлення калгаса. Калгас дапамагае фермерам будаваць дарогі, лініі электраперадач, жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Фермерскія гаспадаркі размешчаны на тэрыторыі калгаса невялікімі групамі і маюць магчымасць дапамагаць адзін аднаму. Яны ж аказваюць дапамогу пенсіянерам суседніх вёсак у правядзенні сельскагаспадарчых работ. На апошняе хачу звярнуць увагу, таму што апалагеты калгаснай сістэмы крычаць, што, маўляў, без калгасаў пенсіянеры загінуць.

Старшыня калгаса імя Кірава Віцебскага раёна Наталля Лемешава ужо тры гады займаецца рэформай гаспадаркі. Многае зроблена для таго, каб калгаснік адчуваў сябе гаспадаром на зямлі, каб ён атрымліваў дывідэнд ад прыбытку калгаса ў залежнасці ад долі маёмасці. Такія дывідэнды атрымліваюць і калгаснікі, што выйшлі на пенсію. Для абслугоўвання прысядзібных участкаў створаны кааператыў механізатараў.

Гэта першыя парасткі сапраўднай рэформы, і іх трэба падтрымаць. Дасканала вывучыць гэтыя працэсы, сваім словам вярнуць людзям надзею на лепшае — абавязак сумленных інтэлігентаў і ў першую чаргу беларускіх пісьменнікаў. Ад таго, працуе на зямлі гаспадар ці найміт, залежыць не толькі наша эканоміка, але і прыроднае асяроддзе, і крыміналгеннае становішча. Такім чынам, адносіны да зямельнай рэформы — той водападзел, які размяжоўвае абаронцаў таталітарнай сістэмы і прыхільнікаў дэмакратызацыі.

Ёсць і яшчэ адна праблема, вырашыць якую без удзелу інтэлігенцыі немагчыма. Беларуская сялянская партыя зрабіла аналіз прадпрымальніцкай дзейнасці на Беларусі. Вынік сумны. У нас бізнесам займаюцца ўсе, акрамя беларусаў. Гэта блага. Калі эканоміка дзяржавы будзе ў чужых руках, то ні дэмакратычны ўрад, ні прагрэсіўныя законы становішча не паправяць. Суверэнітэт Беларусі так і застанецца папяровым. Сумленная інтэлігенцыя павінна не толькі маральна падтрымаць нацыянальны бізнес, але і актыўна ўключыцца ў яго развіццё. Першы крок зроблены. Беларускімі прадпрымальнікамі ўтворана акцыянернае таварыства «Кросны». Яно будзе мець банк інфармацыі ў сферы прадпрымальніцтва, дапамагаць у арганізацыі беларускіх прадпрыемстваў і рыначных структур, садзейнічаць развіццю беларускай культуры, мовы, школы бізнесу. Падтрымайце гэтае добрае пачынанне сёння, бо заўтра будзе позна.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

У заключэнне скажу, што вакол гэтых праблем гуртуюцца палітычныя партыі і аб'яднанні Беларусі. Гэта закладвае аснову для кансалідацыі беларускага грамадства на прынцыпах дэмакратыі і рыначнай эканомікі. Спадзяюся, што ў гэтым працэсе прыме ўдзел і беларуская інтэлігенцыя.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Цэнтральнай рады Беларускай сялянскай партыі.**

# «Прачніся, адкрывай шырока вочы»

Хачу сказаць слова пра паэму Законнікава «Чорная быль», што ўваходзіць у кнігу паэзіі «Закліманне». Гэта адзін з першых у нас паэтычных твораў пра Чарнобыль і па часе напісання, і па высокай мастацкай вартасці.

«Выбух», «Зона маўчання» — гэта нібыта ўступ да прыпяцкай трагедыі. Людзі ўзрадаваны былі вясне, святу, дажджу. «Усе мы — дзеці вёскі, як насенне, вясны чакаем, каб набрацца сілы...» Ніхто не ведаў:

**Што ўчора там — за рэкамі,**
**за лесам,**
**Дзе чэрава сваё раскрыў**
**Чарнобыль,**
**Пажарнікі — заложнікі**
**прагрэсу —**
**Ад цела аддзіралі з мясам**
**робы.**

Людзі спадзяваліся, што «хутка ўсё растлумачыць Масква». Але Масква не растлумачыла, не растлумачыў і Мінск... Падманутыя людзі штодзень глыталі смерць.

Паэт пераканаўча кажа: «Мне і цяпер не хапае азону...» Не хапае азону людзям Гомельшчыны і Магілёўшчыны, якія засыпаны попелам. Засыпана наша зямля цэзіем, плутоніем і іншымі носьбітамі радыяцыі.

І санаторый пад Мінскам «стаў прытулкам палескіх дзяцей». А дзеці не хацелі скідваць чаравічкі: «А навошта? Нам добра ў сваіх». Яны зразумеюць пра вялікую бяду пазней, калі на могілках будуць пахаваны дзесяткі іх малых сяброў — ад смяротных хвароб, якія выклікаиы Чарнобылем.

Запомніцца і выгнаны з-пад Прыпяці чарнобыльскі воўк:

**Востры нюх вёў туды,**
**Дзе жывое паветра,**
**Дзе не падала семя**
**Атрутнай жуды.**
**Ён шукаў дзікі неруш,**
**Дрымотныя нетры,**
**Каб забіцца ў гушчар**
**Ад нязнанай бяды.**

Паэт сам пабываў на месцы чарнобыльскай бяды—у Хойніках.

**Я — проста чалавек.**
**Як развяду**
**Жах новы вавілонскага**
**зрушэння!**
**Сасмяглым горлам піў,**
**каўтаў бяду,**
**Аглухлы ад жальбы**
**і галашэння.**

Вялікай паэтычнай сілы С. Законнікаў дасягае, малюючы лёс людзей зоны, асабліва старых. Вось затрымалі ў зоне раніцой бабулю. Ёй напамінаюць, што наўкол радыяцыя, дык «жыўцом навошта лезці ў дамавіну?» Але старая «выцірала слёзы чорнай ссохлай жменькай»:

**Дзеці не пускалі,**
**уцякла, як злодзей.**
**Самі мае ножанькі прывялі**
**дадому...**

Бабулька знайшла абразок Міколы і цяпер — «хатку паглядзела, можна і памерці...»

Так, любоў да роднай зямлі вымагае ад родных: хачу ляжаць на могілках сваіх», і сын выконвае бацькоўскі наказ.

Тым страшнейшымі здаюцца хцівыя і жудасныя марадзёры, якія ў пакінутых вёсках «б'юць вокны і ламамі крышаць дзверы», цягнуць абразы, тэлевізары, кнігі і інш.

Але паэт не толькі піша пра пачуцці людзей, іх гора, роспач, надзеі, ён задумваецца ўвогуле пра лёс беларускага народа, «народа, які жыве без мовы», і звяртаецца да яго такімі словамі:

**Прачніся,**
**адкрывай шырока вочы,**
**Не размініся з праўдаю**
**крутою.**

А ў заключэнне паэт гаворыць:

**«Ёсць праўда адна — праўдай**
**жыць,**
**Няхай**
**і суровай,**
**і горкай...**
**У небе**
**над намі**
**стаіць,**
**Як зніч,**
**палыновая зорка».**

Лічу, што паэма «Чорная быль» — высокамастацкі твор, значнае дасягненне нашай паэзіі. Я шчыра падтрымліваю вылучэнне кнігі Сяргея Законнікава «Закліманне» на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Пімен ПАНЧАНКА.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# «Хітрыя літары»

Кніжка гэтая, без сумнення, эксперыментальная ў нашай дзіцячай літаратуры. У ёй сабраны не проста вершы, а вершы-загадкі, вершы-галаваломкі. Чытаючы іх сапраўды не раз можна было б пачухаць патыліцу, шукаючы адгадку (калі б тыя адгадкі стаялі не тут жа, пад кожным творам-мініяцюрай, а знаходзіліся хаця б у канцы кнігі). Такі чыста тэхнічны пралік можна было б дараваць, калі б выданне прызначалася самым маленькім — тым, каго называюць яшчэ не чытачом, а слухачом. Менавіта на такую аўдыторыю аказалася разлічана і вясёлае афармленне мастака Ю. Мадлінскага. Аднак змест кніжкі часам вымагае падрыхтоўкі не менш як выпускніка сярэдняе школы. Бо калі ты не знаёмы з творамі, зборнікамі і героямі Купалы, Коласа, Цёткі, Багдановіча, Лынькова, Маўра, Броўкі, Крапівы, Брыля, Мележа, Макаёнка; калі ты не ведаеш карысных выкапняў, машынных дэталяў, геаграфічных назваў, тэрмінаў з геаметрыі, заходнееўрапейскай оперы, «вялікага рускага князя» і вялікага рускага кампазітара і яшчэ шмат чаго — тады лепш не бярыся дэманстраваць сваю кемлівасць, а назапашвай веды!

Задума кніжкі «Хітрыя літары» («Юнацтва», 1991) магла нарадзіцца толькі ў чалавека, які і сам мае хітрынку ў характары, і сам любіць па-добраму разыграць, падражніць, прывесці субяседніка ў гумор. Хто хаця раз гаманіў з Іванам Курбекам (а ён якраз і ёсць аўтар), ці чуў яго ашаламляльна дакладныя і дасціпныя выступленні-імітацыі вядомых асоб, той пацвердзіць, што толькі з ягонай няўрымслівай фантазіяй можна было прыдумаць і падаць: у вершах цэлыя абоймы шарад, метаграм, лагагрыфаў, анаграм — такое вось «жанравае вызначэнне» даецца зместу аўтарам.

Іван Курбека кожнай страфою прымушае чытача не пасіўна ўспрымаць тэкст, а разважаць, прымяраючы і пераствляючы розныя гукі, заварушваць запасы сваіх ведаў, каб у рэшце рэшт назваць адзіна магчымую пару зашыфраваных слоў.

Вось шарады. Здаецца, нічога мудрагелістага ў прапанаваным заданні няма, а тым не менш:

**Прыназоўнік, дужа прыткі,**
**Даў лічэбніку руку —**
**І стварыў увачавідкі**
**Беларускую раку.**

Аказваецца, і так можна ўспрыняць назву Прыпяць! Услухоўваючыся ў разнастайныя словы аўтар падбухторвае нас на іх камбінаванне, злучэнне, абяцаючы ў выніку нараджэнне новага нечаканага слова:

**Прыправа і нота займелі**
**лады —**
**Стварылі ахвотна драбніцу**
**вады.**
**(Кроп-ля).**

Часам усяго адна літарка, адзін гук мяняюць сэнс задуманых слоў:

**З «е» дружу з будаўнікамі,**
**З «а» — купляй у хлебнай**
**краме.**
**(Бетон—батон).**

Аўтар прапануе не толькі аб'ядноўваць склады ці падмяняць літары, каб высечы новае слова, але і дабаўляць ці адкідаць літары — у пачатку, на канцы, а то і ў сярэдзіне слова.

**Слухай мяне, братка:**
**Літару ў палатку**
**Акуратна ўкінь —**
**І горнарабочы**
**З'явіцца на вочы,**
**Падзямелля сын.**
**(Шацёр—шахцёр).**

Ёсць у кніжачцы і раздзел, дзе «твораць загадку літары ў розным парадку»:

**Слова спераду чытаеш —**
**Ім паветра ты ўдыхаеш.**
**А чытаеш слова ззаду —**
**Адпачыць заўсёды рады.**
**(Нос—сон).**

Пераказваць і цытаваць кніжку можна было б і далей. Аднак, калі вам захочацца праверыць свае або вашых дзяцей, унукаў ці вучняў здольнасці, чуйнасць да слова — знайдзіце займальную кніжку «Хітрыя літары» Івана Курбекі і пагартайце яе. Сумна вам не будзе.

У. ВАСІЛЕВІЧ.

# «Нам палаць, а не цьміць!»

### З жыцця і творчасці Сяргея Хмары

Гаворка пойдзе пра таго, хто, па словах Юркі Віцьбіча, сёння «ачольвае адну з трох палітычных плыняў нашае эміграцыі». Пра Сяргея Хмару (сапраўднае прозвішча Сіняк). Яго рэвалюцыйная, грамадская, літаратурная дзейнасць для нас — міф, створаны намі ж. Не так даўно «ЛіМ» яшчэ раз даказаў гэта, надрукаваўшы ўспаміны А. Іверса.

Каб ацаніць постаць С. Хмары, прынамсі, сыходзячы толькі з дакладных фактаў, узважыць яго ўклад у беларускую літаратуру, а не кідацца гучнымі словамі, адлік трэба, мабыць, пачаць з 20-х гг. Тады малады хлопец (нарадзіўся Хмара ў 1905 г. у Слонімскім павеце) удзельнічаў у партызанскіх атрадах БНР. Пра яго дзейнасць у нас пісалася (цытую з кнігі У. Калесніка «Час і песні», таксама поўнай міфаў самага рознага кшталту): «былі, праўда, партызанскія адзінкі, у якіх верхаводзілі нацыянал-авантурысты, пераважна эсэры (атаманы Хмара, Скамарох)... У крытычны момант эсэраўскія верхаводы пераходзілі на паслугі дэфензівы, закупляючыся крывёю беларускай моладзі, завербаванай у атрады». Між тым Хмара, гэты «паслучаг дэфензівы», з'яўляўся адным з арганізатараў Таварыства Беларускай Школы, ініцыятарам закладзін 12 беларускіх школ, займаўся беларусізацыяй праваслаўнай царквы ў сябе на Казлоўшчыне. І гэта ўсё — у тыя ж, 20-я. С. Хмара, як і А. Салагуб, М. Засім, М. Васілёк, А. Гаўрылюк, прайшоў складаныя шляхі змагання і турмаў, удзельнічаў у адных з імі часопісах, аднак атрымаў іншую, незаслужаную славу. Таму, мяркую, варта хоць пункцірна пазначыць яго пакручасты жыццёвы шлях.

У 1926 г. С. Хмара арганізаваў 32 гурткі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Неўзабаве пачаўся вядомы Цэнтральны працэс Грамады ў Вільні, дзе Хмара пазнаёміўся з А. Луцкевічам. Потым былі Лукішкі, Каранова — першыя турмы ў жыцці Хмары, дзе ён сядзеў разам з Х. Ільяшэвічам, А. Салагубам, С. Рак-Міхайлоўскім. Адбывалі пакаранне яны ў адзіночках, але штодня вязняў вадзілі на прагулкі. Рак-Міхайлоўскі прапанаваў збірацца каля яго камеры, каб пагутарыць пра літаратуру. Так нарадзіліся ў турме Беларускія Літаратурныя Серады, на якіх абмяркоўвалі творы, напісаныя для нелегальнага турэмнага часопіса «Палітвязень». (Хмара змяшчаў там вершы пад псеўданімам С. Світка). Часта гаварылі пра фальклор, аматарам і руплівым збіральнікам якога быў Хмара. Нават вырашылі падрыхтаваць да друку зборнік беларускіх народных песень з нотамі. Максім Бурсэвіч рыхтаваў вялікі зборнік беларускага гумару, Шкодзіч — свой першы зборнік вершаў. Аднак усе матэрыялы, некаторыя нават падрыхтаваныя да друку, загінулі.

У 1932 г. Хмара ўдзельнічае ў другім працэсе Б. Тарашкевіча. Зноў зняволенне — Пінск, Сельцы, Грудзёндз, Быдгашч, дзе ён рэдагуе тры вастрожныя часопісы. Уся яго літаратурная і рэдактарская дзейнасць заканамерна прывяла ў 1937 г. да ўтварэння літаратурнай Сустані «Маладая Ускалось». (Ускалось — гэта трэцяя стадыя развіцця жыта. Першая — усходы, другая — рунь, трэцяя калі жыта ідзе ў каласы — ускалось). Апекуном і настаўнікам Сустані быў Гальяш Леўчык. «Маладая Ускалось» складалася з літаратурнай моладзі Заходняй Беларусі як нашчадак першай літаратурнай арганізацыі «Рунь» (Вільня, 1927—1928 гг.). Яна была створана Ігнатам Дварчанінам, тады ж выйшаў і альманах «Рунь Веснаходу», куды ўваходзілі, акрамя Хмары, П. Пестрак, Н. Арсеннева, Бартуль, Шкодзіч. Аднак дзейнасць Сустані была перапынена новым зняволеннем Хмары і іншых у лагеры Картуз-Бяроза. Пасля падзення Варшавы на нарадзе «Маладой Ускалосі» было пастаўлена пытанне: выйсці з нелегальнага становішча ці не. Прапанова абмяркоўвалася разам з М. Лыньковым, які прыехаў у Слонім як прадстаўнік СП БССР. У сваім выступленні М. Лынькоў казаў пра творчую супольнасць, абнадзейваў, даваў гарантыі. Потым былі публікацыі вершаў у слонімскай газеце «Вольная праўда», нават стварылі там літаратурную старонку. Але літаральна праз тыдзень пачаліся арышты: у менскай турме апынуліся Хмара і Іверс, Пяюн і Міско.

Пачалася вайна. Вязняў Менскай турмы гналі на Магілёў. Яны цудам засталіся ў жывых, выратаваліся пры налёце фашысцкіх самалётаў. Хмара вярнуўся ў Слонім, дзе арганізаваў брыгаду Беларускай Самапомачы. Пасля адмаўлення брыгады ўдзельнічаць у грабяжы гета, яна была зліквідавана фашыстамі, а сам Хмара зноў трапіў у турму. Меў рацыю Ю. Віцьбіч, калі пісаў, што «значную частку свайго жыцця С. Хмара правёў у турмах усіх без выключэння акупантаў нашае Бацькаўшчыны».

У 1944 г. С. Хмара ідзе ў Нямеччыну. Колькі б ні пісалася пра эмігрантаў, кожны раз адчуваеш патрэбу нібы апраўдаць іх, растлумачыць гэты крок або, наадварот, хуценька прайсці, нібы не заўважаючы яго. Можа, і гэта — вынікі нашай міфалогіі, яе канонаў? Таму, каб не ствараць новых казак, пакінем прывілею тлумачыць (ці — не тлумачыць) асобныя крокі свайго жыцця самім героям нашых артыкулаў.

Адразу ў эміграцыі С. Хмара бярэцца за адраджэнне Літаратурнай Сустані. Л. Лунь

зрабіў праект знака — «Двупагоні» — змагання з усімі ворагамі Беларусі і на Захадзе, і на Усходзе. Асновай Сустані, разам з Хмарай, сталі Мікола Вольны, Алесь Змагар, Я. Юхнавец, М. Цэлеш. Гэта былі ўжо не маладыя людзі, а загартаваныя жыццём. Таму і да назвы «Ускалось» з'явіўся дадатак «Баявая». У 1948 г. выйшаў першы нумар часопіса. У маніфесце «Баявой Ускалосі» напісана: «Наша літаратура сёння — адна з адменаў зброі ў змаганні за Волю. Няма сёння мастацтва для мастацтва, калі ходзіць гаворка аб лёсе нашага Народу, аб Ягоным жыцці і смерці». Часопіс з'явіўся яшчэ і як неабходнасць гуртавання па-за межамі Бацькаўшчыны беларусаў, каб не даць ім асіміляваццa. Пасля пераезду Хмары ў Канаду кірунак часопіса не змяніўся, яго дзейнасць не прынынілася. Наадварот, аднавілася сатырычная газета «Маланка», дзе Хмара пісаў пад псеўданімам Янка Пярун, пачала выходзіць газета «Беларускі Голас» — адзіная рэгулярная газета, што фінансавалася за кошт дабрачыннасці чытачоў, а не нейкіх фондаў.

Творчасць Хмары і яго паплечнікаў трапна акрэсліў ужо згаданы Ю. Віцьбіч: «Іх змест дамінуе над ягонай формай. Форма для іх — гэта другарадная ў параўнанні з ідэяй і ейным кірункам. Нават больш — пісьменнік на іхнюю думку мае права да пэўнае ступені занядбаць формай, абы толькі змест падбіваў ворага нашае Бацькаўшчыны». Мне думаецца, вытокі такога стаўлення да літаратуры — у ранейшых творах Хмары, калі паэзія і рэвалюцыйная дзейнасць былі непадзельныя, калі ён пісаў:

**Жадных правіл, асноваў! —**
**гэта чорт знае што!**
**лезе лапцем лазовым**
**брудзіць нам хараство!**
**Мовіць пэўна трэ шчыра:**
**між нарцызаў — асот!**
**Так! Між пэрлаў — настырай**
**крыві капліны... пот...**
**І... праз краты, праз дроты,**
**заскарузлай рукой,**
**на Парнасе ілоты**
**узнялі непакой.**
**Што ж, да звягі прывыклі!**
**Не саб'юць! Сталь не шкло!**
**Мы Сябрыны Вялікай**
**Маладая Ускалось!**

(«Жураўліным шляхам»,
1939 г.)

Яго вершы тых часоў гучалі як сапраўдны маніфест — жыцця, творчасці, змагання:

**Трэба? — галовы зложым —**
**Трэба? — целам, касцьмі,**
**шлях бяздонны пражожым...**
**Нам палаць, а не цьміць!**
**Хіба жылы разьела**
**злая ворага едзь?..**
**Сэрца вырваць збалелае,**
**запаліць і гарэць.**

(Міхасю ВАСІЛЬКУ, 1939 г.)

Безумоўна, такія погляды на паэзію абмяжоўвалі аўтараў, не давалі магчымасці развіцца талентам. І ўсё ж менавіта ён, С. Хмара, напісаў адзін з найбольш моцных вершаў на эміграцыі — пра Беларусь, пра нас:

**Усцяж Беларусь! Беларусь на вуснох,**
**у сэрцы ж — чорная здрада!**
**Дзве Беларусі ёсць!**
**Мы сваю ў снох**
**ўночы не выснілі скрадам!**
**Мы ёй крывёю з жылаў сваіх**
**ўлілі жывучую сілу.**
**Слалі дарогу касцьмі... у баі**
**шмат смерць галоваў скасіла.**
**Іншая ваша — на гандаль яна!**
**Бэрлін, Масква ці Варшава —**
**Хто даражэй дасць — напоіць каня**
**ў Нёмане...**
**Кажнаму крыкнеце — слава!**

(«Мы», 1949 г.)

Але вось што ўражвае. Калі паэзія С. Хмары развівалася ў агульным рэчышчы беларускай рэвалюцыйнай, грамадзянскай паэзіі, проза яго з'яўляецца ў пэўнай ступені з'явай унікальнай. На сённяшні дзень выдадзена няшмат (калі не лічыць асобных публікацый у «Калоссі» і «Баявой Ускалосі») — «Аб багох крывіцкіх сказы. Беларуская міталёгія» (вытрымала два выданні) і «Сказы Бацькаўшчыны». У першай кнізе пісьменнік паспрабаваў рэканструяваць самы пачатак нашай гісторыі — міфалогію. (Здаецца, да яго толькі В. Ластоўскі ў «Лабірынтах» закранаў гэтую тэму). Хмара расказвае пра нараджэнне Дальбога і яго каханне да Майі, пра стварэнне зямлі і чалавека на ёй, пра злога бога Чарнабога і шкоды яго чалавеку. Пра слова запомненае і пра нараджэнне Ярылы Сонцалікага, які за зямлю змагаўся і падарыў усяму жывому Вялікдзень, а потым і сам быў выратаваны крывіцкім народам. А яшчэ ёсць раздзелы пра Яшчара і Воласа, пра Жыцень-Спарыш і Цётку страшную. Да таго ж да кнігі дадаецца аўтарскі «Слоўнічак міталёгіі крывіцкіх багоў». Напрыклад, «Ярыла — бог веснавога сонца. Народжаны ад супалкі Дальбога з Жываю. Пераможац Чарнабога. Уладар ключоў, адчыняючых зямлю да жыцця. Эмблема — двукрыж і коннік на белым кані з мячом (пагоня). Ярылава птушка — жаваранак».

Відавочна, што ў «Міталёгіі» нешта запазычана ад грэка-рымскай міфалогіі, нешта — ад іудзейскай і хрысціянскай рэлігій. Аднак гэта не зніжае ні пазнавальную, ні мастацкую вартасць кнігі. (Прыгадваюцца словы Казіміра Сваяка — шчаслівы той, хто збудаваў сабе горную і чароўную мінуўшчыну). Як пісаў В. Каваленка ў «Міфапаэтычных матывах у беларускай літаратуры», «у некаторых савецкіх нацыянальных літаратурах тэндэнцыя міфалагізавання цесна спалучана... з ажыўленнем зацікаўленасці да вельмі далёкай гісторыі народа. Міфалагізм — пачатак народнай свядомасці. Таму абагульненне ў форме сучаснай літаратурнай міфалогіі накіроўвае эстэтычную думку ў глыбіні аддаленай гісторыі... Творы, у якіх увасоблена гэта тэндэнцыя, не з'яўляюцца строга гістарычнымі». І «Міталёгія», і проза Хмары менавіта такія творы.

Чаму С. Хмара выбірае міф — дакладна адказаць немагчыма. Можа, на гэта паўплывала тое, што пісаў апавяданні ён на Захадзе, дзе міф выкарыстоўваўся значна шырэй. Міф у адрозненне ад фантастыкі і гістарычнай прозы знаходзіць трэці, альтэрнатыўны выхад для данясення думкі. Гістарычныя творы апавядаюць пра мінулае, даюць прыклад мужнасці або папярэджваюць пра небяспеку (аналогіі гісторыі). Фантастыка расказвае пра тое, што некалі пры пэўных умовах можа адбыцца. У міфах жа ідзе гаворка пра вечнае, бо сутнасць яго — выказванне ідэі ў выглядзе гістарычнай падзеі або з'явы прыроды ў форме апавядання. Міф заўсёды адносіцца да падзей мінулага. Але значэнне яго ў тым, што падзеі, што адбыліся ў пэўныя часы, існуюць часам. Двайная структура міфа — гістарычная і пазагістарычная, часавая, пазачасавая — і тлумачыць некаторае супрацьстаўленне яго гістарычнай прозе. Гістарычны твор, нават напісаны ў стылі Дзюма або Пікуля, так ці інакш суадносіцца з рэчаіснасцю, мае ў сваёй аснове асобныя рэальныя факты, вымагае праўды жыцця. Міф жа — не першапачатковая форма навукі, скажам, гісторыі, а асобны від светаўспрымання. Міфалагічны вобраз — не проста фантастычнае адлюстраванне ці ідэалізаванае мадэліраванне нейкай гістарычнай падзеі. Ён з'яўляецца створанай ва ўяўленні іншай рэчаіснасцю. Высветліўшы гэта, будзе прасцей убачыць міф у прозе С. Хмары і зразумець яго функцыю.

Паглядзім, напрыклад, на апавяданне «Услонім-гарадок». Знешне гэта гістарычнае апавяданне пра дрыгавічоў, заснаванне горада Услонім. Дружына ўзвяла горад на беразе ракі Шчары, што мела выхад у чужыя краі — гоцкія і варажскія. Ехалі туды госці-купцы, вёўся гандаль — квітнеў горад. Багацтва горада выклікала зайздрасць вялікую ў суседзяў. Але колькі б ні прыходзілі яны з мячом на дрыгавіцкія землі, заўсёды былі пераможаны. І вырашыла тады племя мазурскае хітрасцю іх узяць: пераканаць прыняць веру мазурскую, адмовіцца ад законаў продкаў. І вось «бавіцца церамец, дзядзінец княжацкі, з хмелю ачмурэлы. З п'яна багоў родных прадае, мазурскага славіць. Не гарэлі Купальскія агні ў гэтым годзе на ўзгорках навокал гораду ў гэту ноч. Здрадзілі Купалу ўслонімцы... І адвярнуў сонечны Купала свой твар ад няверных дзяцей сваіх». Адмаўленне ад веры продкаў неадменна цягне за сабой і смерць — за духоўнай фізічную. У бойцы з мазурамі гіне малады княжыч, гіне яго дружына, гіне Услонім-гарадок.

Аднак на гэтым апавяданне не сканчваецца. Канец яго такі: «Але ўстане адной Купальскай ночай на заклік княжыча верная дрыгавіцкая дружына... Запалаюць над роднай зямлёй Купальскія агні. І ўчыніцца помста дыгавіцкая! І ўваскросне слава нашай зямлі!» Сэнс апавядання падмацоўваецца яшчэ такой паралеллю: забіты княжыч на Купальскія ночы ўзнімаецца з магілы «на кані з мячом у рукох», што вельмі нагадвае выяву пагоні.

Возьмем другое апавяданне С. Хмары — «Купала». Яно таксама мае два пласты, як і любы міфалагічны твор. Першы — вядомая легенда пра папараць-кветку, пра Ярылу, які пакінуў крывічам цудоўны крыж шасцікутны на шчасце. Другі, завуаляваны, пра нас сённяшніх, пра патрэбу еднасці ўсіх беларусаў і пра магчымасць адраджэння. Мо далёкую, але неадменную: «...будзе яшчэ свяціцца нам святое сонейка! Хоць цяпер закутае, забранае моцамі праклятымі. Што здабудзе яшчэ Крывіцкі Род сваю кветку шчасця! Кветку мрояў тысячагадовых, патаемных».

Вось пра што марыў, пра што пісаў чалавек, якога вінавацілі ў здрадзе Бацькаўшчыне, чыё імя і сёння не часта сустракаецца ў пераліку беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

**Лявон ЮРЭВІЧ.**

***Віншуем!***



Споўнілася 70 гадоў — пісьменніку Уладзіміру Шыцiку. «ЛіМ» віншуе Уладзіміра Мікалаевіча з юбілеем, жадае яму здароўя, далейшага творчага плёну.

# На арбітах зямных і касмічных

Аб творчых схільнасцях Уладзіміра Шыціка, бадай, лепей не скажаш, чым зрабіў гэта ён сам у аўтабіяграфіі, змешчанай у кнізе «Вытокі песні»: «Мне падабаецца фантастыка тым, што дае магчымасць нібы апярэдзіць жыццё, зазірнуць у будучыню, ажыццявіць тое, што навукі пакуль не па сіле. Таму я выбіраю для сваіх твораў падарожжы да далёкіх планет, сустрэчы з невядомым і таямнічым... Фантастыка, такім чынам, быццам спалучае ў сабе маю даўнюю схільнасць да тэхнікі і больш новае захапленне літаратурай. Буду і далей працаваць у гэтым жанры. Хіба толькі, магчыма, часам буду здраджваць яму для больш вострасюжэтных прыгодніцкіх твораў».

Напісана гэта ў 1968 годзе, калі на мастакоўскім рахунку У. Шыціка было ўжо некалькі кніг — «Сосны адшумелі сваё», «Апошняя арбіта», «Майская раніца», «Зорны камень». Першая і трэцяя з іх закраналі модную на той час вытворчую тэму і, сказаць па праўдзе, мастацкімі якасцямі не вельмі вызначаліся. Разумеў гэта і сам аўтар, таму самакрытычна прызнаваўся: «...вялікага задавальнення не прынеслі. Мне не ставала глыбокага ведання заводскага жыцця, на старых назіраннях далёка ехаць было немагчыма».

Назіранні назіраннямі (У. Шыцік у свой час працаваў на заводзе, тэхнікам-канструктарам на шклоўскай папяровай фабрыцы «Спартак»), але, відаць, далёка не апошнюю ролю мае і звычайная прафесіянальная арыентацыя, схільнасць аўтара манавіта да гэтай, а не нейкай іншай тэмы. У фантастыку ж У. Шыцік прыйшоў, можна сказаць, выпадкова. Ведаючы яго любоў да яе, захапленне творамі вядомых пісьменнікаў, у тагачасным выдавецтве «Беларусь», якое выпускала і мастацкую літаратуру, прапанавалі і самому нешта напісаць. Падумаў-разважыў Уладзімір Мікалаевіч, і ўзяўся за пяро. Так і нарадзілася аповесць «Апошняя арбіта», што расказвала пра першы палёт чалавека да Марса і Плутона. Была неўзабаве перакладзена на рускую, румынскую мовы.

Безумоўна, калі падысці да «Апошняй арбіты» з цяперашнімі патрабаваннямі, няцяжка адчуць і пэўную зададзенасць сітуацый, і некаторы аўтарскі дыдактызм. Сам жа пісьменнік ва ўжо згаданай аўтабіяграфіі сведчыў, што ў сваіх фантастычных творах бачыў людзей камуністычнага будучага — смелых, гуманных, магутных». Адпаведных герояў, зразумела, і паказваў.

Аднак і тая ж «Апошняя арбіта», і кніга фантастычных апавяданняў «Зорны камень» і праз нейкія дваццаць пяць-трыццаць гадоў пасля іх напісання чытаюцца з нязменнай цікавасцю. Найперш моладдзю, падлеткамі. Прычына іх папулярнасці ў тым, што У. Шыцік не проста нешта «выдумляў», а імкнуўся прадбачыць шмат з таго, што можа адбыцца, калі людзі апынуцца ў экстрэмальных сітуацыях, ладзячы далёкія касмічныя падарожжы. Кіраваўся той самай інтуіцыяй і адначасова абапіраўся на найноўшыя дасягненні навукі. Па сутнасці ішоў услед за Я. Маўрам, які ў аповесці «Фантамабіль прафесара Цыляокоўскага» стаў першаадкрывальнікам фантастычнага жанру ў беларускай літаратуры.

Плённасць шляху, выбранага У. Шыцікам, засведчылі і яго наступныя кнігі «Парсекі за кармой» і «У час не вярнуліся». Персанажы твораў, як і дагэтуль, аўтарам ставіліся ў надзвычайныя ўмовы, сутыкаліся з загадкавымі з'явамі, незнаёмымі цывілізацыямі. Ад правільнасці іх дзеянняў залежала не толькі ўласнае выжыванне, на карту ў нечым ставіўся і лёс самой планеты Зямля.

Кажучы словамі самаго У. Шыціка, «здраджваць» жанру фантастыкі ён пачаў недзе з пачатку сямідзесятых гадоў. Прынамсі, у 1977 годзе выдаў зборнік прыгодніцкіх аповесцяў і апавяданняў «Масткі над абрывам». І ў гэтай кнізе, і ў наступных («Ускосныя доказы», «Камандзіроўка ў сваім горадзе», «Падстаўка») прадстаўлены два полюсы нашага штодзённага жыцця. На адным — супрацоўнікі міліцыі, крымінальнага вышуку — тыя, хто і павінен стаяць на ахове правапарадку ў грамадстве. Другі ж полюс — усе тыя, хто не ў ладах з законам, пасягае на бяспеку грамадзян, робіць розныя злачынствы.

Ёсць у творах У. Шыціка і элементы так званай «сыскной» літаратуры з абавязковымі атрыбутамі пагонь, выстралаў, уваходжання супрацоўнікаў праваахоўных органаў у асяродзе злачынцаў. Але прысутнічае, на шчасце, і тое, што дазваляе за інтрыгуючым сюжэтам убачыць і саміх людзей. Іншая справа, што ў адных з іх лёс зламаны. Тым не менш, пісьменнік не спяшаецца выносіць канчатковы прысуд, разумеючы, што апошняе слова за судом. Задача ж літаратуры — іншая, больш удзячная — яна мусіць заставацца чалавеказнаўствам. Псіхалагічны аналіз — тонкі, дасведчаны — і выступае ў лепшых творах У. Шыціка на першы план.

Жанры, у якіх піша юбіляр, доўгі час у нас не лічылі за «сур'ёзную» літаратуру, адводзілі ім другарадную ролю. Тым большая ўдзячнасць аўтарам, якія не развіталіся з імі, не паслухаліся крытыкаў, якія «ўсё» ведаюць. А да ўсяго і дасягнулі поспехаў. Да іх і належыць У. Шыцік.

**А. АН-ЕВІЧ.**

Алесь АСТАШОНАК

# ДРУГОЕ ДЫХАННЕ

## Навела



ЁН СТВАРЫЎ мяне.

Як ні склалася маё недарэчнае жыццё, дараванае ім, я ўсё ж бясконца ўдзячная яму, бо спазнала шчасце дыхаць і адчуваць.

І не крыўдую я на яго, што зрабіў ён мяне менавіта такой, якая ёсць. Што наракаць, калі іначай і быць не магло: мне цудам дастаўся адзіны магчымы лёс.

І наогул, не думаю, што было б лепш, калі б я нарадзілася інакшая. Наўрад ці мяне задаволіла б якоесьці іншае існаванне.

Ён быў такі дзіўны, такі датклівы і тонкі, такі непадобны да ўсіх астатніх!

Памятаю, як я ўпершыню з'явілася ў яго ў галаве, дакладней, у ягонай душы.

Нават я паспела заўважыць: большасць людзей жыве пераважна галавою, некаторыя — найбольш душою.

Я зусім не ўпэўнена, што першыя — горшыя, не мне тут быць суддзёю, але назіраць за іншымі заўсёды было нашмат цікавей.

Гэтыя іншыя хоць зрэдзьчас здатныя на цуды, колькі памылак яны ні рабілі б і як цяжка ні было б з імі, адрознымі, людзям звычайным.

Таго вечара, калі я нарадзілася, ён сядзеў у сябе ў майстэрні і рабіў эскізы заказаных яму манекенаў. Ён мастак і піша карціны, аднак праз бязладнае жыццё яму заўсёды не хапае грошай, і, замест таго, каб займацца тым, дзеля чаго ён прыйшоў у гэты свет, ён змушаны зноў і зноў зарабляць сабе на хлеб.

Ён жыве адзін. Жыццё адзінокага мужчыны амаль заўсёды бязладнае. А ён яшчэ як ніхто іншы, каго я ўведала, непрыстасаваны да адзіноты—такія людзі проста не могуць жыць адны, — і таму ягонае бязладдзе, здаецца мне, непазбежнае. Інакш бы ён задыхнуўся ў мурах свайго ўтоішча сам-насам з бясконцай самотаю. Ён ніколі не змог бы стаць вечным вязнем мальберта, ніколі не заслугаваў бы аддана музе, не маючы побач, блізка, другога чалавека, адданага яму і якому ён сам быў бы аддany, — такія, як ён, не могуць жыць без **другога дыхання.**

Мне так шкада было яго вечарамі — ён тады, найчасцей, месца сабе не знаходзіў, — што я ніколі не асуджала яго, калі ягоная знямоглая душа прасіла палёгкі і яго проста несла бліжэй да людзей, бліжэй да хоць трохі падобных на сябе, да хоць трохі самотных і непрыкаяных. Яму быцо крыху лягчэй там, дзе лунала роспач або панавала нібыта радаснае забыццё: жвавасць, жыццястойкасць людзей, як ён казаў, унармаваных адно адцянялі ягоную непрытульнасць, яшчэ больш прыгіналі яго долу ва ўласных вачах — чаму ж я не такі, як яны, чаму не магу жыць прасцей, чаму нідзе не знаходжу сабе супакою?..

Вы ведаеце, дзе збіраюцца непрыкаяныя мужчыны, асабліва, калі яны мастакі і ў іх заўсёды адчынены не адзін, дык другі багемны шынок.

Так ён і жыве: спачатку парабкуе падзёншчынай грошы — на творчасць, потым, знясілены адзінотаю ды неразуменнем іншых і прыспустошаны нялюбай працаю, вышуквае душы прасвету — і вось ужо зноў залязае спакваля ў кабалу, а чым больш сябе ў яе заганяе, тым больш маркоціцца без палёгкі.

І толькі зрэдку, калі ў ім адбываецца нейкі раптоўны выбух і душа ягоная прыўздымаецца над тугою, ён піша карціны. Рука ягоная яшчэ цвёрдая, зрок востры — і карціны ў яго выходзяць адметныя. Сябры толькі тады і бачаць у ім душу, калі глядзяць на ягоныя карціны, а так — кожны ў сваёй самоце.

Дык вось, таго вечара, калі я нарадзілася, ён рабіў эскізы манекенаў.

У горадзе збудавалі новы вялікі магазін адзення, і для яго спатрэбіліся манекены.

Іх павінен быў быць дзесятак, і мастак, хоць і займаўся падзёншчынай, не мог, са сваёй душою, зрабіць іх аднастайнымі. У кожны эскіз ён уносіў нешта асаблівае.

Мая чарга была апошняя, і тут, відаць, фантазія пакінула яго.

Праз нейкую гадзіну ён апынуўся там, куды заўсёды прыносіла яго туга.

Ён мала слухаў размову прыяцеляў, а больш пазіраў у цемрадзь вакна.

Я цьмяна памятаю ўсё гэта, бо ўжо тады пачынала нараджацца.

Ён узіраўся ў цемрадзь і мроіў.

У лятунках многае бачылася яму. Мроілася, між усяго, і жанчына, з якою ён мог бы адчуць у доме сваім другое дыханне.

Тады я яшчэ толькі здагадвалася, чаму ён жыў адзін. Ён падабаўся жанчынам, і былі сярод іх і цікавыя. Я гэта бачыла па іхніх позірках на яго.

Але я ўжо адчувала, што яму патрэбная такая, як я.

Ні таго вечара, ні наступнага, які ён цалкам ужо прабавіў насупраць ваконнае цемрадзі, такая жанчына ў жыцці не не знайшлася.

Першая жанчына, якую я ўбачыла з ім у майстэрні, казала яму гарачыя словы, і я чула, што яна не хлусіць, аднак у душы ў яго было пуста і холадна.

Яна падсела да яго там — у кутку, ля вакна, дзе ён піў кілішак за кілішкам, — устрывожаная ягоным выглядам. У вачах у яго была нейкая воўчая туга, і чым больш углядаўся ён у вакно, тым больш ваўчэла яна.

Пад ранак ён развітаўся з ёю так абыякава, што мне стала яе шкада.

Але якая ж удзячная была я яму за гэта!

Другая жанчына прыйшла да яго сама, апоўначы, слабая, дзёрзкая і неўтаймавальная. Яны пілі каву, хоць была ўжо ноч, шмат курылі, яшчэ больш сварыліся, і было відаць, што яна вярэдзіць яшчэ не загоеную рану, але душа яго болем не поўнілася — я ўсё больш адчувала, што яму патрэбна я!

Жанчына пайшла ад яго ўначы. Ён яшчэ доўга не спаў, хадзіў па майстэрні, зноў курыў, падыходзіў да расчыненага вакна і глядзеў уніз — у мяне ажно галава кружылася, бо жыў ён на самым высокім паверсе. Яму за многае было сорамна з таго, што здарылася ў яго з гэтай жанчынаю, і ён амаль ва ўсім вінаваціў сябе, душа ягоная так і трымцела.

Адзінота палохала яго. Яму рабілася так роспачна, што жыццё здавалася ўжо безнадзейна, незваротна сапсаваным; шэрагам памылак, нанізаных адна на адну, адной суцэльнай бясконцай памылкаю здавалася яно яму.

Як я шкадавала яго! Можа, таму ён і не мармытаў нічога, калі нарэшце знепрытомнеў, не ўскрыкваў, не кідаўся ў ложку, як мінулае ночы. Тая жанчына таксама шкадавала яго, але, мусіць, не так, як я, бо ён быў глухі да яе шкадобы.

І я адчула раптам боль праз тое, што ўчора ён быў **не толькі са мною.**

Я адчула боль, а ён якраз тады першы раз на маёй памяці ўсміхнуўся, у сне, як дзіця.

Ён пачуў у вязніцы сваёй другое дыханне.

Назаўтра ўдзень да яго прыйшоў нейкі злы, усё роўна як разбэрсаны чалавек.

Яны пілі гарэлку, якую прынёс чалавек, і сварыліся.

Чалавек дакараў яго за тое, што ён не выконвае ў час заказ, які яму зрабілі, каб дапамагчы. Мастак усхадзіўся і вельмі гучна казаў, што гэта ён, чалавек, зрабіў яго такім, як ён ёсць цяпер, давёў яго сваімі заказамі ды частаваннямі да парабкоўства, што ён ненавідзіць усе чалавекавы грошы, усё роўна ён пакінуў іх у кутку ля вакна, аднак лепш бы ён пакінуў там яшчэ столькі ж, каб толькі вочы ягоныя не бачылі чалавека з усімі яго заказамі, а ён мог пісаць, як раней, карціны, не думаючы пра грошы, пісаць, як тады, калі хапала яму значна меншых гэтых самых праклятых грошай. Гэта ты спустошыў душу маю, ты, разам з ёю на пару, узняў ён на ўсю сваю сілу голас, схапіў чалавека за каўнер і вышпурнуў з майстэрні. Чалавек крычаў за дзвярыма, што мастак сам ва ўсім вінаваты, што яму даюць тое, аб чым іншыя толькі мараць, што ён свіння няўдзячная, вось хто.

І я ненавідзела гэтага чалавека і маліла яго ў душы, каб ён хутчэй сышоў адсюль і не нагадваў болей яму пра яе, з-за якой яму так балюча бывае, а чалавек усё крычаў ды крычаў, і нарэшце ён не вытрываў, выскачыў з майстэрні і спусціў чалавека ўніз па лесвіцы.

На калідор ужо выйшлі людзі, як я зразумела, таксама мастакі, круцілі галовамі і з папрокам паглядалі на яго, нават нешта дакорлівае казалі яму, а я плакала: няўжо яны не бачаць, які ён, чаму такія сляпыя яны, як дапамагчы ім стаць відушчымі, каб яны разгледзелі яго — няўжо ж ён пакутаваць павінен праз адну сваю незвычайнасць?!.

А яшчэ мне было сорамна за яго: як ён так папускаецца, як дазваляе ім, нявартым яго, з сябе пасмейвацца, адно таму, што яны ўсяго толькі — больш «унармаваныя».

Праз гадзіну, калі ён застаўся толькі са мною, я з'явілася на паперы.

Гэта быў накід будучай карціны.

Зрабіў ён яго вельмі хутка, дзёрзка, быццам нехта вышэйшы вадзіў ягонай рукою, бо з душы ў яго лілося святло. Я адчувала ўжо, якая прыгожая буду на карціне, як перадасць яна ўсе рухі гэтага святла, пералітага ў мяне, усе датклівасці маіх яшчэ нячутных яму шэптаў.

Але я не ўбачыла гэтай карціны.

Увечары яго зноў агарнула туга, і ён сядзеў там, у кутку, ля вакна. Ён думаў і пра мяне таксама, аднак я адчувала яго ўжо дрэнна, здалёк, бо вялікая частка мяне засталася на аркушы паперы.

А назаўтра да яго зноў прыйшоў той самы злы, разбэрсаны чалавек, і яны зноў пілі гарэлку, прынесеную чалавекам, але ўжо не сварыліся, і ён, мастак, прасіў прабачэння, і мне было сорамна за яго, хоць ён зноў здзівіў мяне сваёй незвычайнай датклівасцю: гаварыў так, быццам быў адзін ва ўсім вінаваты.

Чалавек казаў, што трэба здаваць работу, і ён даў яму паглядзець эскізы. Чалавек іх вельмі хваліў, сарамаціў яго за ўчарашнюю сварку, бо й сварыцца, як ён казаў, не было з-за чаго, эскізы ж былі як на падбор, а ён быў вельмі сумны, што яго так хваляць за гэтую халтуру, аднак нарэшце з палёгкаю ўздыхнуў і аддаў эскізы чалавеку. Той пералічыў іх і выявіў, што аднаго не хапае.

Тады ён падышоў да мяне і з сумам углядзеўся ў мяне.

Мы доўга пазіралі адно на адно.

Нарэшце ён узяў мяне і перадаў чалавеку: «На» — і тут нешта ў ягонай душы затрымцела, а я здрыганулся.

Ён адчуў мяне!

І рука яго не адарвалася ад гэтага аркуша, у якім цяпер білася маё жыццё, яшчэ кволае, — толькі часцінка майго магчымага, **сапраўднага** жыцця.

Рука яго задрыжэла. Чалавек здзіўлена ўскінуў на яго вочы, потым углядзеўся ў мяне. Ён мала што не адчуў — толькі маю вонкавую, папяровую прыгажосць, але й гэтага было дастаткова, каб нават ён зразумеў, што не трэба мяне пакуль нікому перадаваць.

Чалавек доўга пераконваў яго зрабіць, дзеля здачы, яшчэ адзін эскіз.

Але ён, мастак, не любіў адмяняць свае словы, а яшчэ больш не любіў перабольшваць, асабліва перад іншымі людзьмі, вартасці сваіх накідаў — ён не тое што накідаў, якіх зрабіў тысячы, ён карцін сваіх колькі за так параздаваў!

І я ўпершыню пакрыўдзілася на яго.

Я раззлавалася нават.

І сказала сабе, што пакахаю іншага.

Дзень я прабавіла ў чалавека.

Калі ён перадаваў мяне тым людзям, якія размяркоўвалі заказы на эскізы манекенаў, яны таксама адразу ж вылучылі мяне і ажно здзівіліся з маёй прыгажосці, доўга разглядвалі мяне, охалі, ахалі, цмокалі языкамі.

Адзін з іх хацеў забраць мяне дамоў. У мяне сэрца сціснулася ад болю. Я не хацела да гэтага чалавека. Яму падабалася вытанчанасць толькі майго твару, маіх ног, грудзей маіх і вуснаў, і ён зусім не бачыў, што святло ў маіх вачах—жывое, і зусім ужо не чуў маёй душы. У яго дома я ніколі не чула б другога дыхання.

Але мне пашанцавала. Нехта сказаў, што часу ўжо зусім няма, ніводнага год-

---

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Алесь КАСЦЕНЬ

### Як згарэлі трыццаць тысяч

Зрэдку чарка гасціла ў Івана,
Быў часцей ад работы ён п'яны.

У калгасе, ля ўласнай скаціны —
Гадаваў ён сыценькія спіны.

Ды калі ўжо прапусціць, бывала —
Бы з касой ці плужком — не памалу,

На ўвесь вечар адна ў яго песня,
І не зменіш яе ты, хоць трэсні.

У гасцях то ці ў роднае хаце
Ён сваім ганарыцца багаццем.

Жонка плюне, ідзе па суседзях,
Мужыкі пасмяюцца ў бяседзе.

А Іван пра сваё ўсё, пра гэта:
Трыццаць тысяч работай прыгрэта.

Трыццаць тысяч! — такое багацце.
«А ці маеш ты гэтулькі, браце!

Мазалём назапашаны грошы,
Бо не зломак, за іншых не горшы.

І памром як, — тут хліпаў Іване, —
То нажытае нашым стараннем

Будзе дзеткам, каб толькі вялося,
Падымалася далей калоссе.

Дзесяць тысяч сынку на машыну,
Дзесяць зяцю — харошы мужчына.

І пляменнічку, ён жа на свеце
Без бацькоў. Не пакрыўдзяцца дзеці!..»

Ды смяяліся мала з Івана,
Ён за працай сваёй пастаяннай

Нават зрэдку ўключаў тэлевізар,
Што ўвесь свет нам паказвае зблізу.

Не сачыў ён за з'ездам ці рухам,
Дзе адзін аднаго пхаюць зухі,

Не пачуў нат за працай ад ранку,
Што назвацца б дараіла Янкам.

Толькі неяк Іван схамянуўся:
«Нешта ў горад даўно не збяруся.

Не, на дзень развітаюся з гноем,
Мо й табе дзе надыбаю строі».

Вось шыбуе па крамах вясковец,
Пакупнік пры грашах, так бы мовіць.

Ды чым болей глядзіць на тавары,
Тым бялейшы ён робіцца з твару.

Кажа ўрэшце: «А мой ты харошы,
Мо не тыя ўжо ўвогуле грошы!

Чалавеча, сусед, гараджанін! —
Што за цмок такі «падаражанне»!

За сарочку — паўтысячы цэлых,
Хто выдумвае гэткія цэны!

А паўтысячы тыя агораць
Спрабаваў на зямельцы каторы!

У вітрыне звычайная куртка —
Хоць жагнайся рукою нягнуткай,

Бо каштуе ж пятнаццатку тысяч!
Валасы ў мужыка падняліся.

Сеў на лаўку Іван: дзесяць сыну!
Дзесяць зяцю — харошы мужчына!

І пляменніку! Ох, пасмяяцца:
На дзве курткі хапае багацця.

...П'е Іван сёмы дзень самагонку,
Жылы рве са скацінаю жонка.

нага эскіза пад рукою не знайшлося, — і я трапіла неўзабаве на фабрыку, дзе робяць манекенаў.

Рабочы, малады чалавек з прыемнымі сумнымі вачыма, аж застыў, як толькі дакрануўся да мяне. Ён так доўга здзіўлена ўзіраўся ў мяне, з такім захапленнем паказваў мяне сваім таварышам, што калі ўзяўся за працу, дык ствараў мяне ўжо нанова, з мёртвай сінтэтыкі: увесь час саграваў мяне цяплом сваіх добрых сумных вачэй — і іхняе цяпло з'ядналася з маім і перaлілося ў ляльку, зрабіўшыся ў ёй яшчэ меншай часцінкаю майго магчымага, сапраўднага жыцця, чым у накідзе-эскізе, але ўсё-такі — жыцця!

Я жыць хацела, мець такую ж постаць, як тыя жанчыны, што бывалі з ім, постаць прыгажэйшую, і перадусім, чым у той, з-за якой яму было так балюча, хацела, каб ён убачыў мяне і пачуў...

Я шмат чаго хацела і шмат у што верыла.

У магазіне мяне паставілі на самае віднае месца.

Спачатку я была шчаслівая.

На нейкі час я нават забылася на яго.

Удзень людзі, асабліва мужчыны, спыняліся ля мяне, захапляліся прыгажосцю майго цела, а жанчыны дык нават зайздросцілі.

А ўначы я ўспаміналa, якая я паглядная.

Але хутка я зразумела, што жудасна памылялася.

Праз некалькі дзён у магазін забрыў ён. О не, зусім не наўмысна, не паглядзець на мяне — выпадкова. Ён накідамі раскідваўся, карцінамі, куды ўжо было яму памятаць пра манекенаў!..

Праўда, ён ведаў, у якім магазіне стаяць ягоныя манекены, і, апынуўшыся тут, затрымаўся ненадоўга каля нас. На мяне ён глядзеў відавочна больш, чым на астатніх.

О, як затрымцела душа мая!

Але ён адно ацаніў бездакорнасць маёй постаці і пекнасць твару і пайшоў далей.

Дык вось што здарылася, зразумела я.

Я набыла прыгажосць рэльефных абрысаў, але хіба можа праступаць святло душы праз сінтэтычныя зрэнкі?!

Ён ніколі не пачуе мяне! Я назаўсёды застануся для яго мёртвая. Буду жыць сама па сабе ў сваёй сінтэтычнай абалонцы. Жывая — і мёртвая!

Я так доўга плакала, што слёзы праступілі на вачах маіх.

І калі ён прыйшоў наступным разам, то адразу ж заўважыў мяне. Ён ажно здранцвеў, спыніўшыся ля мяне.

Мы ўзіраліся адно ў адно, і я ўсёй сваёй душою крычала:

«Мілы, пачуй мяне!»

Мне здавалася, мяне чуў увесь магазін, увесь горад, мне сорамна было, так гучна я крычала.

Ён падаўся да мяне, і вочы ў яго шырока раскрыліся — я ўбачыла ў іх жах.

Людзі вакол спыняліся і здзіўлена паглядалі на яго, як на вар'ята. І мне стала гэтак крыўдна за яго, гэтак сорамна за сябе, што праз мяне (але, праз мяне, праз тую, якая кахала яго, разумела і адчувала, як ніхто ў свеце) так смяяліся з яго людзі, што я адвяла вочы ўбок.

І калі ён няўпэўненай хадою выйшаў з магазіна, дык першымі ягонымі словамі, якія ён мармытаў, ледзь бачна варушачы вуснамі, былі блаславенні Творцу, што не пазбавіў яго розуму.

Я жорсткая, сказала я сабе, калі кахаюць, не робяць людзям так балюча. Я ж падобная цяпер на тую жанчыну, з-за якой ён падыходзіў уначы да адчыненага вакна!

І калі я ўбачыла яго тут зноў, то ўся сцішылася.

А ён адразу ж насцярожана накіраваўся ў мой бок. І я зразумела, што не патрэба якаясьці, а жаданне ўбачыць мяне прывяло яго сюды і цяпер, і нават папярэднім разам, бо ўжо толькі ўгледзеўшыся ўпершыню ў маё ляльчына аблічча, ён адчуў ува мне нешта неверагоднае, ужо тады штосьці ў ім зварухнулася, але я не заўважыла гэтага. Інакш чаму б ён прыйшоў паглядзець на мяне другім разам?..

Хіба ж я, стварэнне ягонае, магу бачыць лепш за Творцу свайго?..

І мне зноў захацелася крычаць, як я кахаю яго, як не магу жыць без яго, а галоўнае, як я яму патрэбная — я, я і ніводная іншая!

Але я стрымалася, бо памятала, як блаславіў ён Бога.

Мы стаялі адно насупраць аднаго, і ён узіраўся мне ў вочы. Ён ірваўся душою да мяне, а я нават з ягонага погляду выслізгвала.

О, як цяжка мне было, але я вытрывала.

Ды толькі слёзы ў вачах маіх праступілі скрозь сінтэтычныя зрэнкі навечна.

Ён пачаў прыходзіць да мяне штодня.

І кожны раз я, дурніца, выстойвала.

Ён падоўгу стаяў ля мяне, і людзі на яго азіраліся і нават пасміхаліся. А ўжо як смяяліся прадаўшчыцы, якія даўно ўжо заўважылі яго!

Але я, памятаючы ягоны жах, душу сваю ад яго хавала.

А ўначы плакала.

Нарэшце я, здавалася мне, выплакала ўсе свае слёзы. Вочы мае набрынялі слязьмі.

Нават прадаўшчыцы пачалі звяртаць на мяне ўвагу і, самі не разумеючы чаму, паддаючыся нейкаму бессвядомаму страху, адыходзілі ад мяне як найхутчэй.

Я ўжо з апошняе сілы трывала, калі ён прыходзіў да мяне.

Праўда, усё роўна ўдзень было нашмат лягчэй. Я кахала яго. Было светла, магазін поўніўся людзьмі, яны дзівіліся з мяне, і, забываючыся, я нават зноў пачынала цешыцца сваёй прыгажосцю.

А ўначы рабілася цёмна і ціха, і невыноснай была гэтая цішыня, калі побач няма другога дыхання.

І як разумела тады я, чаму вечарамі ён, найчасцей, уцякаў са свайго ўтоішча — туды, у куток, да вакна. Я шкадавала яго цяпер стакроць больш, бо сама зведала, што гэта такое — адзінота.

Потым я пачала адчуваць сябе няшчаснай увесь час. Мне стала крыўдна глядзець на безліч жанчын, за якіх я была нашмат і прыгажэйшая, і танчэйшая ў пачуццях маіх, ды толькі не я, а гэтыя жанчыны прыходзілі сюды, і ніводная з іх не была такой адзінокай, як я!

І мне нясцерпна стала пакутліва кахаць яго, увесь час шкадуючы ягонага розуму, які можа замуціцца. Пакінь яго, пачаў нехта ўва мне падказваць, знайдзі мацнейшага, знайдзі танчэйшага, які так напоўніць цяплом сваіх вачэй душу тваю, што ты перальешся ёю ў святло, у паветра, у пахі — і ажывеш целам!

Я пачала ўзірацца ў мужчын.

Угледзьцеся ў мяне, крычала я ўсім, хто мне падабаўся, угледзьцеся, якая я, лепшая нашмат за тых жанчын, што вакол вас, нават за тых, што з вамі, чаму вы не бачыце мяне?!.

З ім адным я маўчала.

Ды толькі хто мог быць танчэйшым за яго?..

Аднойчы ён прыйшоў да мяне п'яны. Потым яшчэ і яшчэ раз. Дзень у ягоным жыцці пераблытаўся з ноччу, і ці світала калі-небудзь у яго ў душы?.. Я ўжо не сумнявалася, што ён ні над чым не працуе, ні над якой падзёншчынай, бо не мог чалавек ні над чым працаваць, калі ён заўсёды такі п'яны. Спачатку я шкадавала яго, думала, што ён зусім спакутаваўся, потым пачала злаваць, бо ўгледзела ў гэтым яго самаспальванні разбэшчанасць, але нарэшце маланка здагадкі асвяціла маю душу: ён піў, баючыся звар'яцець — ён убачыў мяне, адчуў!

І я насмелілася рызыкнуць — ягоным, ягоным розумам! — і прыадкрыцца яму на поўніцу сілы сваёй, каб мы маглі нарэшце з'яднацца і ён перастаў пакутаваць.

Рашыўшыся, я ўсю ноч не спала, чакала, калі ж настане дзень і ён прыйдзе да мяне, і я... Я баялася думаць пра гэта, але я ўпэўненая была, што позіркі нашыя злучацца так моцна, што я адразу ж ступлю крок насустрач яму, і ён стане Творцам найвялікшага ў свеце цуда.

Уранку першай жа прадаўшчыцы, якая зірнула на мяне, стала блага, і яе адвезлі, непрытомную, у бальніцу.

А ён... А ён не прыйшоў. Не прыйшоў ні таго дня, ні назаўтра, ні праз месяц.

Я ўжо думала, што памру ад болю і вочы мае назаўжды згаснуць, але чалавек, асабліва жанчына, можа перамагчы любое гора.

І калі ён прыйшоў праз паўгода, я нават цёпла, нібыта мы проста добрыя знаёмыя, усміхнулася яму.

А ён толькі зірнуў на мяне.

З ім была жанчына. Яна спадабалася мне.

Мне здалося, яны шчаслівыя, і я адно прашаптала яму:

«Будзь шчаслівы, мой мілы!»

Я нават дапамагла яму выбраць ёй найлепшы падарунак, накіраваўшы на сукенку, што спадабалася мне, ўсё святло маіх вачэй.

І ледзь не памерла другі раз.

А яшчэ праз паўгода, уначы,— калі я ўпершыню за ўсё сваё жыццё скарылася з лёсам, развіталася з мрояй пра другое дыханне і пачала жыць толькі ўспамінамі аб ім і (прызнаюся, я ж жанчына) захопленымі позіркамі ў мой бок,— ён праходзіў міма нашага магазіна.

З ім была жанчына, тая самая, што і апошні раз, калі я яго бачыла, яны былі крыху нападпітку, відаць, вярталіся аднекуль з гасцей, яны смяяліся і зноў здаліся мне шчаслівымі.

Я нават парадавалася за яго.

І ружы ў яе руках, вялікія, найрадзейшага чайнага колеру ружы на даўжэзных сцяблінах, такія духмяныя, што я пачула іх пах, ледзь не паранілі мяне.

Але ён зірнуў раптам у мой бок — і, праз шкло вітрыны, не, праз шкло некалькіх шкляных радоў, што раздзялялі нас, я ўбачыла ягоны позірк.

О, які ж няшчасны ён быў, як пакутаваў ад адзіноты!

Усё ўва мне скаланулася.

І тады нешта ўзарвалася ўва мне, узнялося наверх, да вачэй, з самае глыбіні душы...

«Я кахаю цябе!» — крыкнула я і прапаліла сваім позіркам шкло гэтых усіх радоў.

Дык вось на што я была здатная!

Калі я зразумела, што паміраю, спустошаная, я сабрала ўсе свае апошнія сілы і, як магла, дацягнулася да яго ў пацалунку, сваімі вачыма — упершыню насмелілася пацалаваць яго, хоць бы так.

Ён і цяпер прыходзіць у магазін і шукае манекена, якога даўно спалілі.

Прадаўшчыцы ўжо не смяюцца з яго.

Калі ён залішне парушае парадак, выклікаюць міліцыю, і яго гвалтам выводзяць.

Я бачу адтуль, дзе калі-небудзь сустракаемся мы ўсе, як цягнуцца па падлозе ягоныя схуднелыя ногі ў парваных брудных штанах і дзіравых чаравіках, бачу яго непрамытыя зранку вочы і даўно нячэсаныя валасы, бачу сівое шчацінне і вечна рассечаныя, з белым шумным налётам вусны.

Слёзы свае я пакінула на зямлі.

А заўчора, відаць, зацугляўшы
Таго коніка, што не на пашы,

Ён у печы спаліў свае грошы
І паглядам сачыў нехарошым,

Як агонь паядае са смакам
Дабрабыту ілжывыя знакі.

І траслося павека ў Івана
Над бялком набрыняла-крывавым.

г. Паставы.

Паўлюк ПРАНУЗА



## Небяспечная зона

Небяспечная зона,
Дзе малавата азону.

Яе адчувае араты,
Рассейваючы нітраты.

Яна ў глухім кабінеце,
Дзе не гасцюе вецер.

Яна ў пустых прамовах,
Дзе кошту не маюць словы.

Небяспечная зона
Дзе сквапнасць вышэй закона.

## Памяць

Памяць — невычэрпная крыніца
З нараджэння да апошніх дзён.
У яе люстэрку да драбніцы
Шлях, табою пройдзены, відзён.

## Не выбіралі мы прафесій...

Не выбіралі мы прафесій:
Дарог прад намі шмат было.
А кола жорсткае рэпрэсій
Праз нашу маладосць прайшло.

## Балючы ўспамін

У горле ад слёз — камяк,
А галава — сівая.
Іншы ад гора згарэў даўно,
А яна — жывая.

Зведала і Калыму,
І люты мароз, і замець,
І ўсё да балючых драбніц,
Усё захавала памяць:

Як з рук вырывалі
Падлетка-дзіця,
І крык яго ў роспачы... «Мама».
Не загаіла лекар-жыццё
На сэрцы бязвінным шрама.

## Свіцязянскі дуб

Гісторыя за трыста налічыла.
Ён — вартавы мінуўшчыны сівой.
У Свіцязь углядаецца асілак,
Трымаючы нябёсы над сабой.

А сосны—залатыя абеліскі —
Шумяць, шумяць над аксамітам траў.
Адпачываў тут украінец-Рыльскі,
І Колас бессмяротны гасцяваў.

Вясёлае цяпельца асвятляла
Іх твары ў вечаровай цішыні.
Прыгадвалі Міцкевіча, Купалу,
Свайго дзяцінства, маладосці дні...

Учэпістая памяць не забыла,
Што Колас сябру-брату гаварыў:
— А гэты дуб, нібы мой сын Даніла... —
І далонёю гладзіў па кары.

## Дзецям

Неўгамаваныя званочкі,
Яны пяюць, звіняць, звіняць,
Пытлівыя, жывыя вочкі
На свет упэўнена глядзяць.

Калі пачуюць пра гарматы
І цяжкіх боек даўніну,
Запытваюць трывожна ў таты:
— А ты не пойдзеш на вайну!

Ах, дзеці, дзеці — арляняты,
Прад вамі — выраю гады.
Вам высяваць жыцця зярняты,
Вырошчваць, даглядаць сады.

Вам раскрываць навук сакрэты,
Каб жыў шчасліва чалавек.
Вачыма вашымі планета
Няхай глядзіць у новы век.

Мікола СТАРЧАНКА

## Чырвоная кніга

Чырвоная кніга прыроды —
Не радасць твая, чалавек,
А вынік празмернай свабоды,
Дзе правілі сквапнасць і здзек.
Ты ходзіш у футрах, алмазах,
Ты ездзіш у хуткіх аўто,
Ты хочаш забыцца у джазах,
У шуме валютных вятроў.
Ты хочаш... Ды толькі прырода
Спакою табе не дае,
Былая твая асалода
У горычы дзён растае.
Чырвоная кніга прыроды —
Сумлення запознены крык...
Плямёны, істоты, народы —
Сціскае душу пералік.
Былі, засталіся, знікаюць...
Няўжо ў які-небудзь век
Дзе-небудзь яшчэ прачытаюць,
Што жыў на Зямлі чалавек!

## Сумненне

Сумненне — непагадзь душы.
Яно, як путы.
Навошта пішаш! Не пішы,
Забудзь пакуты.
А думкі просяцца ў радок —
Не да спакою...
Дае не лёгкі мне урок
Жыццё парою.
Душа, пераступі свой страх,
Адкінь сумненне,
Сама ты выбрала свой шлях —
На ім каменне.
А ты ідзі, душа, ідзі —
З табой цярпенне.
Назад ты толькі не глядзі,
Бо там — сумненне.

## Вечар

Сонца — палавіна апельсіна —
За Дняпром над вербамі вісела,
Хмарак лёгкакрылых павуціна
Сарамліва ў небе ружавела.
Лугавы пяшчотна-цёплы вецер
З берага на роўнядзь вод зрываўся,
За далёкім грэбнем лесу вечар
Нетаропка ў цемень апранаўся.
Ніклі ў травах, заціхалі гукі
На спакой сыходзячага дня,
Над зямлёю расхінула рукі
Ў зоркавых пярсцёнках цішыня.

АДРАДЖЭННЕ

# КАПЭЛА—ГЭТА І ЗНАК ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**«Беларуская Капэла» — гэтыя два словы, што нядаўна ўвайшлі ва ўжытак музычнага асяроддзя рэспублікі, зрабіліся зыходным пунктам знаёмства з цэлым пластом культуры, раней нам невядомым. 29 мая 1992 г. загадам міністра культуры арганізаваны творчы калектыў з гэткай жа назвай. Чым мы маем займацца! Пра тое і гаворка ў сённяшніх нататках. Ды перш чым перайсці да канкрэтных спраў, трэба ўсвядоміць, дзеля чаго мы іх робім», — разважае мастацкі кіраўнік творчага калектыву «Беларуская Капэла» Віктар СКОРАБАГАТАЎ, чый артыкул працягвае серыю лімаўскіх публікацый на тэму нашага музычнага адраджэння.**

ПАДРУЧНІКІ, па якіх вывучалі й вывучаюць беларускую музыку ў нашым краі, сцвярджаюць, што прафесійнае музычнае мастацтва на беларускіх землях з'явілася толькі з прыходам савецкай улады, г. зн. блізка 20-х гадоў. На папярэднія стагоддзі развіцця прафесійнага мастацтва адведзена ў іх каля 20 старонак. Відавочнае глупства такой канцэпцыі не выклікае сумневу. І тым не менш, у выніку ўкаранёнага ў нашу практыку выкладання так званай гісторыі беларускай музыкі выгадавалася некалькі пакаленняў музыкаў-спецыялістаў, якія нават не падазраюць, што музычная культура была і да 20-х гадоў, і не ўяўляюць, якою яна была. Тым самым амаль дасягнута мэта, пастаўленая яшчэ Кацярынай II: вытруціць са свядомасці беларусаў, што яны — беларусы. Сацрэалізм амаль завяршыў распачатае расійскім імперыялізмам.

А між тым без гісторыі і культуры, як вядома, нацыі не бывае. Узровень развіцця нацыі ў прынцыпе вызначаецца узроўнем развіцця прафесійных відаў мастацтваў. Некалі І. В. Гётэ заўважыў: «Калі вы хочаце стварыць нацыю, стварыце спачатку тэатр». Савецкая ўлада стварала, хаця й небагата, савецкія тэатры — нацыянальныя па форме, ды сацыялістычныя па змесце. Да падзелу ж Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Беларусі функцыянавала 26 оперна-балетных тэатраў і каля 30 сімфанічных аркестраў. Вось гэта размах! Па ўсім відаць — нашы продкі больш за нас апекаваліся стварэннем нацыі.

Такім чынам, узнаўляючы «Беларускую Капэлу», мы тым самым ствараем беларускую дзяржаўнасць. Бо мець атрыбуты дзяржаўнасці — герб, сцяг, парламент, — гэтага мала. Неабходна напоўніць беларускім зместам усе сферы жыцця дзяржавы.

Гісторыя культуры мёртвая, калі яна не населена людзьмі. Гісторыя беларускай музычнай культуры пададзена безаблічнаю — пра тое красамоўна сведчаць фундаментальныя артыкулы Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі «Барока», «Ракако», «Класіцызм», «Сентыменталізм». Паглядзіце гэтыя артыкулы. Няма там людзей! А вялізная колькасць беларускіх дзеячаў культуры і мастацтва «зрабіліся» альбо польскімі, альбо рускімі, альбо літоўскімі, альбо ўкраінскімі. Як зрабіліся? А вось так, напрыклад.

В. Разанаў, аўтар шматтомнага, бліскучага, дарэчы сказаць, даследавання «Драма ўкраінская», адзін з тамоў назваў «Драма ўкраінская на Маскоўіі» і даў падзагаловак — «Творчасць Сімяона Полацкага» (!). Такая вось «Драма ўкраінская». Або яшчэ прыклад. У Прапойску (цяпер Слаўгарад) нарадзіўся Восіп Казлоўскі. Музычную адукацыю ён атрымаў у манастыры св. Яна ў Варшаве. Быў запрошаны троцкім ваяводаю Андрэем Агінскім для музычнага выхавання дзяцей. І выхаваў... Міхала Клеафаса Агінскага, прадцечу Ф. Шапэна. Пасля таго В. Казлоўскі некалькі гадоў служыў у рускай арміі. На ўзяцце Ізмаіла напісаў «Гром победы, раздавайся» — паланез, які быў у свой час гімнам Расійскай імперыі. Займаў пост дырэктара імператарскіх тэатраў С.-Пецярбурга, але пасля інсульта вярнуўся ў Прапойск, дзе да канца сваіх дзён кіраваў мясцовай капэлай, прытым часцяком адведваў у Залессі свайго знакамітага вучня М. К. Агінскага. Прынята лічыць В. Казлоўскага, і на Беларусі з гэтым чамусьці пагаджаюцца, рускім (!) кампазітарам польскага (!) паходжання. А вось для ўкраінцаў няма сумневу ў тым, што Бартнянскі ды Беразоўскі, пецярбургскія калегі Казлоўскага, якія ў раннім узросце з'ехалі з Глухава і ніколі ўжо туды не вярталіся, — класікі ўкраінскай музыкі.

Міхал Казімір ды Міхал Клеафас Агінскія лічацца польскімі кампазітарамі на той падставе, што яны палякі. Дазвольце з гэтым не пагадзіцца. Калі вядома мне, што радавод Агінскіх пачынаецца ад князя Дзмітрыя Іванавіча Глушонка, дык самі Агінскія тым болей гэта ведалі. Апроч таго, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага палякі, згодна са «Статутам ВКЛ», не мелі права валодаць нерухомай уласнасцю. Якія яшчэ патрэбныя доказы, таго, што Агінскія — беларусы? Кажуць, яны палякамі пачуваліся. (З якіх часоў?). Дапусцім. Аднак хацелася б, між іншым, удакладніць: а кім, напрыклад, пачуваўся вялікі рускі архітэктар Барталамеа Растрэлі? Няўжо рускім? Авохці мне!.. Дык вось, хачу падкрэсліць, што калі яны і лічылі сябе палякамі, дык аб'ектыўна Агінскія ўсё роўна развівалі беларускі музычны працэс. Апроч таго, няўжо Вялікае княства Літоўскае, трон Вялікага князя якога ў выпадку ўзнаўлення дзяржавы заняў бы Міхал Клеафас Агінскі, ён мог паблытаць з Каралеўствам Польскім? Ды самы для мяне пераканальны доказ далучанасці яго да беларускай музычнай культуры ў тым, што амаль усё яго творчае жыццё прайшло ў Залессі й было звязана з беларускім краем.

Цяпер паблукаем па XIX стагоддзі. Рамантызм... Розніца паміж ім ды папярэднікам — класіцызмам найперш у эстэтыцы. Адмаўляючы эстэтыку касмапалітызму рамантыкі шукалі й знайшлі апірышча ў народных вытоках. Не трэба быць вялікім знаўцам музыкі, каб адчуць у «Барысе Гадунове» рускія карані, а ў «Травіяце» — італьянскія. Так, паняцце нацыянальнага ў мастацтве з'явілася акурат у эпоху рамантызму.

У 30 кіламетрах ад Мінска ў маёнтку Убель (цяпер рыбгас «Волма») нарадзіўся Станіслаў Манюшка. Улетку сям'я жыла тут, зімой у Мінску — хлопчыку трэба было вучыцца. Музычную адукацыю Станіслаў атрымаў пад кіраўніцтвам Д. Стафановіча ў Мінску, а потым удасканальваў свае музычныя веды ў Берліне. Жыў ён то ў Мінску, то ў Вільні. З В. Дуніным-Марцінкевічам ставіў оперы на ягоныя лібрэта таксама ў Мінску. У Вільні ўпершыню прагучалі і двухактовы, і чатырохактовы варыянты «Галькі». У «Сялянцы» (першапачатковая назва «Ідылія») упершыню з опернай сцэны прагучала беларускае слова.

Патрэбны былі грошы, сям'я была вялікая, Убель даходаў не прыносіў, і Манюшка тройчы спрабаваў уладкавацца ў прыдворную пеўчую капэлу ў Пецярбурзе. (Пецярбургскія сябры, сярод іх А. Даргамыжскі, садзейнічалі яму ў гэтым). Ды не ўладкаваўся. Атрымаў запрашэнне з Варшавы. Паехаў. І прабыў там апошнія, падкрэсліваю, апошнія 12 гадоў свайго жыцця. І... зрабіўся польскім класікам. А калі б уладкаваўся ў Пецярбурзе?

Навошта гэткая доўгая біяграфічная даведка? А вось навошта. Калі мы характарызуем Манюшку як рамантыка (а як жа яшчэ?), дык сказаўшы «А», мы мусім сказаць і «Б». Мы абавязаныя характарызаваць яго як класіка беларускай му-

ФЕСТЫВАЛІ

# ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ ў стылі «наменклатурны поп», або Бывай, «Славянский базар»!

«Культура не можа жыць без датацый. Культура павінна быць з'явай некамерцыйнай. Асабліва, калі гаворка ідзе пра адраджэнне культуры нацыянальнай. Ды і ўсёй славянскай культуры ў цэлым». Так было заяўлена арганізатарамі фестывалю «Славянский базар» на прэс-канферэнцыі напярэдадні музычнага свята.

Мне зусім незразумела, у чым прынцыповае адрозненне сучасных поп-песенек, якія выконваюць славянскія артысты, ад сучасных поп-песенек у выкананні, скажам, скандынава або англасакса. За 30 гадоў існавання жанр папулярнай песні паказаў, што ён у стане паспяхова перамалоць і знівеліраваць любыя нацыянальныя ўплывы — менавіта гэта і гарантавала яму поспех на ўсіх кантынентах. Праўда, ва ўсім свеце цяпер мода на этнамузыку — але гэтая з'ява да таго, што адбывалася ў Віцебску, адносін не мае.

У многіх адносінах фестываль эстраднай песні «Славянский базар» стаўся з'явай адметнай. Няшмат можна назваць айчынных музычных форумаў, дзе была такая велізарная колькасць ганаровых гасцей, новай наменклатуры, банкетаў, бесталкоўшчыны і дарэмна патрачаных грошай.

Не будзем падвяргаць сумневам кампетэнтнасць членаў журы: у рашэнні не прысуджаць гран-пры нікому яны, безумоўна, мелі рацыю. У конкурсных праграмах, відавочна, не было артыста, дастойнага атрымаць прыз у сто тысяч рублёў. Выступленні канкурсантаў былі роўнымі і ў цэлым крыху вышэй за сярэднія. Немагчыма сказаць, ці стане хто-небудзь са спаборнікаў заўтра сапраўднай «зоркай». На мой погляд, найбольшы патэнцыял мае масквічка Сабіна. Ужо сёння ў яе салідны спіс перамог на фестывалях, яна аўтар каля васьмісот песень. Вакальная манера Сабіны, якая злёгку нагадвае «мяккі варыянт» Жаны Агузаравай, мае адбітак індывідуальнасці. Моцнае ўражанне пакінула таксама выступленне Агнешкі Янас з Польшчы. Гэта прафесіяналка высокага класа з выдатнымі вакальнымі дадзенымі. У яе выступленні адчуваўся магутны, яшчэ не ў поўнай меры раскрыты патэнцыял. Безумоўна, адораны лаўрэат першай прэміі Алэкса Бэраст з Кіева, хоць яго выступленне не кранула душу.

Можна б парадавацца за поспех беларускіх вакалістаў, якія атрымалі другія месцы. Але Іну Афанасьеву і Андрэя Хлястова мы досыць часта бачым па рэспубліканскім ТБ і добра ведаем, што гэта ўжо спрактыкаваныя артысты, якія, нягледзячы на моцную «эфірную» падтрымку, «зоркамі» пакуль яшчэ не сталі. На жаль, сярод песень, якімі забяспечваюць гэтых выканаўцаў беларускія кампазітары, фатальна няма хіта, няма тых самых «Ксюш» або «Лаванд», якія заспявала б уся краіна. Але галоўнае ўражанне: вялізная колькасць узнагарод увогуле знізіла іх каштоўнасць — з 27-мі канкурсантаў 18 так альбо іначай былі адзначаны. Апафеозам сталася ўзнагароджанне аргкамітэтам... самаго сябе, г. зн. свайго сустаршыні, кампазітара Ігара Лучанка. Гэта нагадала бяздарныя палітычныя шоу з «глыбокапаважаным» генсекам у галоўнай ролі. У цэлым фестываль «Славянский базар» атрымаўся чыста палітычнай акцыяй, у якой музыка іграла дапаможную ролю. Пра тое, наколькі важным для арганізатараў фестывалю быў конкурс маладых выканаўцаў, красамоўна сведчыць той факт, што тэлебачанне «Астанкіна» конкурсныя канцэрты не здымала наогул, пакінуўшы гэтую радасць, як было сказана ў афіцыйна распаўсюджаных праграмках, «рэгіянальнаму ТБ» (трэба разумець — Беларускаму нацыянальнаму тэлебачанню). Сапраўды галоўнымі зрабіліся 3 канцэрты ганаровых гасцей трох краін-заснавальніц. Абвясціўшы ў канцэпцыі фестывалю аб'яднанне славянскіх культур, арганізатары чамусьці падзялілі артыстаў паводле нацыянальнай прыкметы. У выніку ў гэтых канцэртах было незразумела чаго больш: запэўніванняў у вечнай дружбе або нацыянальных амбіцый. Даходзіла да бязглуздзіцы: беларуская дэлегацыя ўмацавала велізарную бел-чырвона-белую тканіну высока над эстраднай пляцоўкай — украінцы прывязалі свой сцяг да дырыжабля, які завіс над горадам. Я нічога не маю супраць жоўта-блакітнага сцяга. Але мне здаецца, больш лагічным у дні славянскага свята было б вывесіць над Віцебскам не толькі яго.

У мешаніне з фальклорных калектываў, цяжкаметалічных груп (выступалі пад фанаграму!), нейкіх антырускіх частушак, якімі яўна злоўжывала Украіна, псеўдамаладзёжнай папсы і унікальных наменклатурных выканаўцаў тыпу Уладзіміра Правалінскага (рэдкае спалучэнне поўнай адсутнасці голасу, музычнасці і артыстызму), моцна не хапала балетнага нумара з «Лебядзінага возера». Тады падабенства з парадными канцэртамі да партыйных юбілеяў было б поўным.

Сучасны «зоркавы» ўзровень прадэманстраваў толькі Валерый Лявонцьеў. Акрамя цудоўнага адточанага шоу толькі ягоныя фанаграмы адзначыў Станіслаў Фіялкоўскі, вядомы дырыжор і аранжыроўшчык з Польшчы, адзіны прадстаўнік заходняга шоу-бізнеса сярод гасцей фестывалю, — як зробленыя на належным узроўні. Даслоўна ў інтэрв'ю польскі дырыжор сказаў так: «З такім музычным узроўнем увайсці ў Еўрапейскую асацыяцыю музычных фестываляў «Славянскому базару» няма чаго і думаць». Джан Лука Берцінета, пасол Італіі ў Беларусі, таксама госць фестывалю, хоць і непрафесіянал, але на пытанне пра свае ўражанні доўга адшукваў слова і адказаў досыць дыпламатычна: «Ну, гэта тыпова руская эстрада».

Дарэчы, Станіслаў Фіялкоўскі прывёз маладую спявачку Ёланту Яшкоўску, якая вельмі пераканальна паказала, як і што трэба спяваць, каб гучаць сучасна. Яе выступленне было адным з нямногіх па-сапраўднаму моцных. Большасць астатніх гасцей дэманстравала, трэба думаць, «славянскі ўзровень». Заключаўся ён у выкананні песень у неўміручым, відаць, стылі «ВІА», які з часоў папулярнасці «Самоцветов» ніякіх істотных зменаў не перажыў. Месца электрааргана цяпер заняў сінтэзатар, а то і сэмплер, але ні ў гучанні, ні ў аранжыроўцы, ні ў тэматыцы песень нічога не змянілася. Затое, як і раней, тужлівая песня «пра родную хату» дае калектыву тыпу «Сяброў» гарантыю ўдзелу ў афіцыёзным канцэрце. Сярод беларускіх артыстаў арганізатары фестывалю не здолелі знайсці нікога, хто змог прадставіць музычнае мысленне на ўзроўні 90-х гадоў. Затое прысутнічала крайне аматарскай якасці мастацкая самадзейнасць з-за акіяна. Музыканты, усе вартасці якіх абмяжоўваліся толькі тым, што некалі іх славянскія продкі перабраліся праз Атлантыку, пераканаўча прадэманстравалі: пра славянскую культуру яны маюць вельмі слабое паняцце.

Паўтарамільённая Эстонія гэтую праблему вырашыла ўжо даўно. На грандыёзным пеўчым полі штогод збіраюцца выканаўцы фальклорнай музыкі, у тым ліку эстонская дыяспара з усяго свету. І там жа праходзіць «Рок-самер» —фестываль, гасцямі якога сёлета былі Боб Гелдоф, Кінг Дайманд, Ніна Хаген — рок-зоркі першай велічыні, якія адразу задалі фестывалю самы высокі ўзровень, а разам з тым і прывабілі гледачоў.

З беларускай артыстычнай

зыкі рамантычнага перыяду. Прытым неабходна прызнаць, што Казлоўскі, Агінскія, Манюшка, якія ўнеслі агромністы ўклад у развіццё рускай ды польскай музычных культур, зусім справядліва шануюцца ў Расіі ды ў Польшчы, але забытыя на радзіме як нацыянальныя таленты.

Такім чынам, другая задача «Беларускай Капэлы» — узнаўленне праўдзівай, а не фальсіфікаванай гісторыі музычнай культуры Беларусі. Калі ўявіць культурную карту Еўропы як табліцу Мендзялеева, дык можна сказаць, што адна з яе клетачак яшчэ не запоўненая. І ў запаўненні яе аб'ектыўна маюць патрэбу ўсе народы Еўропы, бо без гэтага запаўнення на квяцістым палатне музычнага мастацтва кантынента застаецца прагал.

СІТУАЦЫЮ, якая склалася, некалькі гадоў таму асэнсавалі музыканты-энтузіясты і пачалі рыхтаваць паасобныя праграмы. Можна згадаць тут «Полацкі сшытак» у выкананні ансамбля «Кантабіле», нізку кантаў у інтэрпрэтацыі Мінскага камернага хору пад кіраўніцтвам І. Мацюхова, «Анталогію беларускай вакальнай музыкі», якую мы выконваем разам з піяністкай Г. Каржанеўскай, запісы на радыё фартэпіянных твораў М. К. Агінскага і К. Марцінкевіч у выкананні І. Алоўнікава і скрыпічных — М. Ельскага ў выкананні Л. Гарэліка...

Урэшце, з'явілася патрэба скаардынаваць намаганні. Саюз музычных дзеячаў Беларусі ўзяў на сябе гэту функцыю, і дзякуючы гэтаму ўвосені 1991 г. адбыўся першы фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы». Сёлетняй восенню адбудзецца другі фестываль, рыхтуецца трэці, абмяркоўваецца чацвёрты. Кожны з іх мае сваю адметную тэму. Калі на першым прагучала пераважна беларуская музыка мінулага, дык сёлетні будзе прысвечаны творам замежных класікаў, у асноўным XVIII ст., якія мелі непасрэднае дачыненне і ўплыў на музычную культуру Беларусі (І. Гайдн, Д. Паізіела, Э. Ванжура і інш.). Наступны фестываль адлюструе прынцыпы працы капэлы — учора напісанае сёння выконваецца: праграму складуць творы сучасных беларускіх і замежных аўтараў. Тэмай чацвёртага фестывалю мы абралі музычны рамантызм Беларусі XIX ст.

Фестывальны цыкл «Адраджэнне беларускай капэлы» ёсць прыярытэтны клопат групы даследчыкаў ды выканаўцаў на бліжэйшы час. Але неабходна глядзець і ў будучыню. Дык якою ж нам бачыцца «Беларуская Капэла» ў будучым?

У Заходняй Еўропе капэлы ніколі не пераставалі існаваць. Яны мянялі сваю назву, і толькі. Сёння яны называюцца «Моцартэум», «Бахаўскае таварыства», «Гендэлеўскае», «Шуманаўскае» і да т. п. Існуюць два падыходы да дзейнасці капэл. Першы: ёсць дырэкцыя і мастацкае кіраўніцтва, што ажыццяўляюць творчыя акцыі — фестывалі, конкурсы. Такая практыка Зальцбургскіх фестываляў, такая і цяперашняя практыка «Беларускай Капэлы». Па-іншаму жыве лейпцыгскае «Бахаўскае таварыства». Вось ягоная структура: дзве канцэртныя залы «Гевандхауз» са сваімі творчымі калектывамі, дом-музей І.-С. Баха, Томаскірхе, дзе ён працаваў, нотнае выдавецтва «NBA», студыя гуказапісу, бахаўскі архіў — фактычна навукова-даследчы інстытут па вывучэнні жыцця й творчасці майстра і ягоных дзяцей. Вось гэткая структура для нас з'яўляецца ўзорам.

А ў такім разе нам неабходна мець будынак з дзвюма заламі. Першая месцаў на 500 для паказу опер, балетаў, сімфанічных, аратарыяльных праграм. Другая зала месцаў на 100 (магчыма, салон) для камерных канцэртаў. Адміністрацыйны комплекс і архіў могуць месціцца тамсама. Капэла ў перспектыве — гэта творчыя калектывы і навукова-даследчая група, выдавецтва і студыя гуказапісу. На такой базе можна ладзіць і выканаўчыя конкурсы, і тэматычныя фестывалі, і майстаркласы па розных музыканцкіх спецыяльнасцях.

Вяртацца ў сусветны музычны працэс, інтэграваць у яго сваіх выканаўцаў немажліва без міжнароднай кааперацыі. Гэта даўно зразумелі нашы заходнія ды ўсходнія калегі. Галівуд, у творчых адносінах амерыканскі, — фінансава на трэцюю частку японскі. Лонданскі «Ковент-Гардэн» скаапераваўся з Марыінскім тэатрам Пецярбурга і г. д. Таму мы ўжо сёння думаем наконт стварэння ўмоў для паўнацэннага супрацоўніцтва з замежнымі фірмамі, творчымі партнёрамі, выканаўцамі.

Дзе ж «Беларуская Капэла» мусіць размясціцца?

Мы цалкам падзяляем палажэнне праграмы «Спадчына» наконт таго, што ў межах Верхняга Горада ў Мінску трэба аднавіць будынак тэатра, у якім адбылася прэм'ера Манюшкавай «Сялянкі». І менавіта ў гэтым будынку, на нашу думку, неабходна пасяліць «Беларускую Капэлу». Абгрунтую гэтыя прэтэнзіі. На Саборнай плошчы (сённяшняя плошча Свабоды) і суседніх вуліцах часткова ёсць цяпер, астатнія ж будуць адноўлены, такія асяродкі культуры нашай сталіцы, як магазін «Ноты», Саюз кампазітараў, Музычны ліцэй, кафедральныя каталіцкі й праваслаўны саборы, уніяцкі храм, гарадская ратуша з ратушным тэатрам, музей музычнай і тэатральнай культуры Беларусі, дом-музей Ваньковіча; будынак, у якім у XIX ст. была мінская гарадская мужчынская гімназія, дзе вучыліся Манюшка, Лучына, Ельскі, іншыя дзеячы беларускай культуры; дом, у якім жыла сям'я Манюшкаў; кансерваторыя (або па новым статусе — Акадэмія музыкі). Сама гісторыя музычнай культуры мінулага і дзён цяперашніх абрала для сябе гэтую плошчу. Таму і неабходна аднавіць будынак тэатра і размяшчаць у ім «Беларускую Капэлу». Гэта будзе лагічна і справядліва ў адносінах да гістарычнай памяці. Аднаўляць жа будынак трэба такім чынам, як гэта зрабілі са старым МХАТам у Маскве: рэканструяваць толькі фасад, а далей будаваць тое, чаго вымагаюць сучасныя патрэбы.

Чаму навуковы калектыў, архіў «Беларускай Капэлы», мае быць яе часткай?

Сёння гісторыяй музычнай культуры Беларусі займаюцца адзінкі даследчыкаў: Г. Барышаў, В. Дадзіёмава, А. Капілаў, А. Ахвердава, Л. Касцюкавец, І. Назіна, яшчэ некалькі чалавек. Выданні іхніх прац разыходзяцца з паліц кнігарань у лічаныя дні. Без развіцця даследчыцкай працы наша дзейнасць вельмі хутка зойдзе ў тупік: немагчыма ўвесь час выконваць адно і тое ж. Як вядома, гістарычна склалася так, што цікавыя для нас матэрыялы знаходзяцца за межамі Беларусі. Думаю, няма патрэбы тлумачыць, як складана вяртаць на радзіму знойдзенае ў архівах Польшчы, Англіі, іншых краін. Зараз яшчэ ёсць магчымасць плённа працаваць у архівах Львова, Вільні, Масквы, Пецярбурга, але не трэба забывацца, што гэта ўжо замежжа і з кожным днём працаваць у тамтэйшых архівах будзе ўсё больш складана. Вось чаму стварэнне архіва «Беларускай Капэлы» — праблема неадкладная.

Неабходна асэнсоўваць музычны працэс на Беларусі, супастаўляючы яго з іншымі мастацкімі працэсамі, якія адбываліся на нашых землях. Неабходна яго супастаўляць з працэсамі, што адбываліся ў Еўропе. Словам, патрэбны фундаментальныя даследаванні, якія дагэтуль не ажыццяўляюцца, бо адсутнічае належная навуковая база.

Аднаўленне капэл у месцах іх гістарычнага існавання — таксама неабходнасць для працэсу адраджэння нацыянальнай музычнай культуры. Канечне, адразу гэта немагчыма зрабіць. Бачацца тут, так бы мовіць, тры стадыі. Напачатку неабходна адрэстаўраваць гістарычныя памяшканні капэл у Слоніме, Нясвіжы, Ружанах, Гродне. Яны могуць функцыянаваць як стацыянарныя канцэртныя пляцоўкі, прымаючы выканаўчыя калектывы і асобных выканаўцаў. На другой стадыі было б мэтазгодна арганізаваць пры капэлах невялікія музычныя калектывы кшталту струннага квартэта, духавога квінтэта. І толькі на трэцяй стадыі ўзнаўляць капэлу ў поўным аб'ёме са сваім творчым калектывам, а то і з навуковым аддзелам, грунтуючыся на вопыце краязнаўчых музеяў, якія ёсць нават у мястэчках.

Аднак прыклад стварэння, ці ўзнаўлення, «Тызенгауз-капэлы» ў Гродне, пра што ўжо распавядалася ў «ЛіМе», сведчыць: многае можна спраўдзіць ужо і зараз. Галоўнае, справу рабіць. І ўсведамляць, што адраджэнне капэл у краі беларускім — справа таксама дзяржаўная.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ.**

---

дэлегацыі па-сапраўднаму «ўпыні» апынуліся «Песняры». У сваім жанры фолк-рока яны застаюцца унікальным калектывам з дзівоснымі вакалістамі. Апрацоўка «Лявоніхі», якую паказалі «Песняры», — чарговы маленькі шэдэўр. А калі меркаваць па прыёме публікі, самымі буйнымі «зоркамі» сённяшняй беларускай эстрады з'яўляецца дуэт Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча. Яны ведаюць, чаго чакае ад іх публіка, робяць менавіта тое, і гледачы адказваюць гэтым сімпатычным артыстам гарачай любоўю. Ліка Ялінская выходзіла на эстраду шмат разоў, але толькі ў адной кампазіцыі ў яе прагучала штосьці, што магло б зрабіцца яе індывідуальным стылем, якога ў артысткі пакуль няма (лёгкі варыянт неаджазу хораша прыдаўся да яе гнуткага, але слабога голасу).

Асобна варта сказаць пра работу на фестывалі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Аркестр абсалютна заслужана павёз з фестывалю цэлых 5 узнагарод. Толькі суправаджаючы канкурсантаў, музыканты выканалі больш за паўсотню партытур. На канцэрце «Джаз апоўначы» калектыў пераканаўча паказаў, што мае ў сваім складзе ансамбль салістаў-інструменталістаў самага высокага класа і што ён здольны з бляскам выконваць партытуры любой складанасці. Сёння аркестр М. Фінберга з'яўляецца унікальным калектывам, якім Беларусь па праву можа ганарыцца. Акрамя таго, аркестр быў сузаснавальнікам фестывалю, прадаставіўшы сваю гукаўзмацняльную апаратуру.

Аднак гэта не выключае тыя пытанні, якія задаў фестываль і на якія адказу атрымаць не ўдалося. Ёсць пытанне і да паважанага Міхаіла Якаўлевіча: «Ці шмат шанцаў трапіць у каманду канкурсантаў маладому выканаўцу, калі ён не з'яўляецца салістам аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга?» З васьмі выканаўцаў, выстаўленых ад Беларусі, чацвёра аказаліся штатнымі работнікамі аркестра. Выступілі яны някепска, але ж і магчымасці рэпеціраваць з аркестрам у іх былі інакшыя.

Але ёсць і зусім няпростыя пытанні.

Як атрымалася, што ў гэты ж час і ў гэтым жа рэгіёне разам са «Славянскім базаром» праходзілі яшчэ два эстрадныя фестывалі: «Юрмала» і «Басовішча»? Плюс да гэтага літаральна ўслед пачынаўся фестываль у Сопаце, які ўжо традыцыйна зрабіўся фестывалем прыбалтыйскага рэгіёна. Чым канцэпцыя «Славянского базара» прынцыпова розніцца, каб вылучыць гэты фестываль з шэрагу іншых?

Як магло здарыцца, што фестываль паралельна і незалежна адзін ад аднаго здымалі дзве тэлевізійныя брыгады? Нечуваная рэч: у «жывы» эфір адначасова па двух каналах ішлі дзве розныя карцінкі. Якая колькасць дарагой тэхнікі была прывезена з Масквы і Мінска, колькі занята людзей, каб упустую дубліраваць адзін аднаго пад акампанемент патэтычных заяў пра тое, што грошай на культуру не хапае!

Думка старшага рэдактара музычнай рэдакцыі Беларускага ТБ Аляксандра Вавілава: «Да таго, як ехаць сюды, я спрабаваў даведацца, што збіраецца рабіць «Астанкіна», ці збіраецца яно выкарыстаць нашу тэхніку, нашы рэлейныя сувязі. І атрымаў адказ, што ўсё будзе аўтаномна. Больш за тое: што мы зможам працаваць разам, толькі падпарадкоўваючыся іхняму рэжыму. Аргкамітэт, спонсары, якія давалі грошы для правядзення фестывалю, выдаткавалі для «Астанкіна» 5 мільёнаў рублёў за паказ у эфіры пяці праграм з рэкламай спонсараў. Гэта мне паведаміў галоўны рэдактар



Фестывальны амфітэатр.



Госці з Украіны.



Іна Афанасьева — лаўрэат 2-ой прэміі фестывалю.

Фота А. ХІТРОВА.

забаўляльных праграм «Астанкіна». Атрымліваецца, што эксклюзіўнае права на відэазапісы мае «Астанкіна». Дапусцім, «Астанкіна» сёння — агульны канал, і такія рэчы зусім магчымыя. Але валодаючы на канцэрце тэхнікай, якой рэдка валодае любы іншы еўрапейскі фестываль — адных тэлекамер амаль 20! — можна было скаардынаваць намаганні. А магчыма, аддаць гэтае права Беларускаму ТБ, каб потым Беларусь магла прадаваць гэтыя праграмы і тым самым атрымліваць нейкія сродкі, а таксама магчымасць прапагандаваць сваю культуру. А так матэрыял будзе манціравацца ў Маскве, там жа будзе вырашацца, што менавіта пойдзе ў эфір. Так, «Астанкіна» тэхнічна лепш экіпіравана, больш сучасна — і не трэба тлумачыць, чаму гэта адбылося. Але пра творчыя сілы можна паспрачацца. Мы хацелі б працаваць разам, але мы хацелі б таксама ствараць сваё ўласнае, нацыянальнае тэлебачанне».

Ва ўсім свеце галоўнай крыніцай фінансавання пры правядзенні відовішчных мерапрыемстваў заўсёды з'яўляецца продаж эксклюзіўнага (выключнага) права на асвятленне мерапрыемства той альбо іншай тэлекампаніяй. Пытанне: як жа гэта атрымалася, што «Астанкіна» атрымала ад аргкамітэта і грошы, і эксклюзіўнае права?

Агульнае пакланенне перад Масквой пакінула непрыемны прысмак. Адзін з канцэртаў тэлерэжысёр не пасаромеўся спыніць пасярэдзіне і патрабаваць пачаць усё спачатку — у тэлевізійшчыкаў падвяла тэхніка — ішоў жа запіс для **Масквы!** І фестывальны канцэрт паслухмяна пачалі з ура-чыста-цырыманіяльнага пралогу! Што з таго, што Беларусь глядзела ўсё гэтае абуральнае бязладдзе ў «жывым» эфіры! Сапраўды, талерантнасць беларускіх гледачоў не мае межаў. Яны спакойна цярпелі ўсё: і

(Працяг на стар. 12).

Алесь ЖЫГУНОЎ



# РОДНАСЦЬ ЛЮДСКУЮ ДУШОЮ ПАСЦІГ

●

Жыццё без радасці — які вялікі смутак.
Без радасці пакутуем усе.
Шукаю свой адзіны першапутак.
І на яго выходжу пакрысе.

А колькі год патрачана на пошук,
Бо па стаптаных сцежках я хадзіў.
А сёння траў і дрэў звычайны пошум —
Як нанава мяне ён нарадзіў.

Яршысты быў, таму мяне забылі.
Ды радасць уваходзіць у душу.
І не прашу, каб вы мяне любілі,
Я раўнадушша вашага прашу.

●

У бога паверыў, а лепшым не стаў.
Ляжу на пасцелі, пасланай мне з траў,
Бо іншай пасцелі ну проста няма,
А восень лютуе, а заўтра зіма.
Ды роднасць людскую душою спасціг,
Я сёння смуткую адразу за ўсіх.
Чужы чалавек, толькі ён мне радня.
І сонца узыдзе над намі штодня.
Як сталася так, як магло гэтак быць,
Што мы развучыліся проста любіць
І крычма крычаць: чалавек у бядзе,
А хтось усміхнецца, як ён прападзе.

●

Дзень халодны, вецер нізкі,
Аблачынкі з-пад павек.
Без жылля і без прапіскі
Недзе ходзіць чалавек.
Лёс так хочацца зычыць,
Спрэс на сэрцы халадок.
Ды ніхто яго не бачыць,
Як раней, хадзі, хадок.
І ніхто яго не чуе,
Хай даходзіць у журбе.
Пад стагамі заначуе
І ўсміхнецца сам сабе.

●

Расстаўлены кропкі над «і»,
Забыў дарагія імёны.
Аціхлі наўкол салаўі,
І каркаюць глуха вароны.

Ужо не крычу, а маўчу.
І здраду і жорсткасць прымаю.
Вось толькі дазнацца хачу:
Каго я кахаў і кахаю.

Як лёгка, як весела жыць,
Калі пры грашах, дыпламаце.
Каханка табой даражыць,
Спакой уладарыць у хаце.

Калі пасліхнешся падчас,
Убачыш грымасы другія.
Успомніў я проста пра вас,
Сябры вы мае дарагія.

●

Прымірыцца яны не маглі,
Два грудочкі зямлі прымірылі.
Два грудкі парыжэлай зямлі —
Дзядзькі Мішкі і цёткі Марылі.
Уставайце, гарэлкі прынёс,
Возьмем кроплю за мір і за згоду.
Вершаліны цямнютких бяроз
Так гамоняць, шумяць на пагоду,
Колькі маем таго мы жыцця,
Эх вы, людзі, эх вы, чалавекі,
Тут бы нам прымірыцца хаця
І застацца сабою навекі.

●

Божа, якія набожныя
Сталі сягоння мы ўсе.
Зноўку навіны трывожныя
Дзень мой будзённы нясе.
Зябка ад гэтай трывожнасці,
Спальвае восень лісты.
Вось каб да нашай набожнасці
Крышку яшчэ дабраты.

●

Звыкся з тым, што ніхто не праводзіць,
Як у доўгі збіраюся шлях.
Толькі вецер рукамі разводзіць
І галёкае ў смутных палях.
Нада мной нахіляюцца цені
Аблачынак, узгоркаў і траў.
Вось такую свабоду мы цэнім,
На хвіліну свабодным я стаў.
Між душой і прыродаю згода,
Пачынаю свой дзень у журбе.
Мне навошта такая свабода,
Калі мушу я жыць без цябе.

●

Выгнанніку, і што мне застаецца —
Блукаць маўкліва ў роспачы, слязах.
Як хвораму, усё часцей здаецца
Мне воблік твой на хатніх абразах.
А мы з табою хораша любілі,
І думаю, хоць сталася чужой,
Што абразы няйначай падмянілі,
Укленчыўшы прад святасцю тваёй.
Цябе не ўбачыць, не сустрэць баюся.
І пачынаю раніцу сваю
Малітвай, на цябе адну малюся,
Цябе у матцы боскай пазнаю.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# Сотвар, Вялес і іншыя

З вялікай цікавасцю прачытала ў часопісе «Спадчына» № 3 артыкул Ліі Салавей «Пантэон багоў у міфалогіі беларусаў». Аўтар спрабуе знайсці карані беларускай міфатворчасці ў далёкіх дагістарычных часах, у прыватнасці, у старадаўніх індыйскіх ведах. Сапраўды, індыйскі бог сонца Савітар прыадчыняе таямніцу імёнаў славянскіх багоў Сотвара і Стварога; імя бога агню Агні зразумелае без перакладу; у Ваю (богу ветру) пазнаём продка нашага няўрымслівага і буйнага пана Падвея.

Але славянскі пантэон не з'яўляецца цалкам ідэнтычным індаарыйскаму (як, напрыклад, рымскі — элінскаму). Гэта своеасаблівая з'ява, якая ўзнікла на глебе поліэтнічнасці земляў, каланізаваных славянамі. Таму здаецца натуральным, што Л. Салавей, аналізуючы беларускі пантэон, шукае паралелі з багамі суседніх народаў (напрыклад, славянскі Вялес — і балцкі Велс).

На жаль, Л. Салавей цалкам ігнаруе міфатворчасць фіна-уграў, старэйшых насельнікаў нашай зямлі. (Варта паглядзець хоць бы на карту Тацыта, надрукаваную ў кнізе Я. Шыраева «Беларусь: Русь Белая, Русь Чорная і Літва ў картах». Там амаль палову тэрыторыі сённяшняй Беларусі займаюць фіны і эсты). Нават той, хто не згодны з гіпотэзай І. Ласкова аб фіна-угорскім паходжанні летапіснай літвы, не можа адмаўляць, што ў час славянскай каланізацыі на землях Беларусі жылі фіна-угорскія плямёны. І напэўна ж, яны ўносілі свой «творчы ўклад» у стварэнне беларускага пантэона.

Прывяду прыклад, які здаецца мне бясспрэчным. Пярун і Баба-Яга былі вельмі паважанымі багамі ў крывічоў. Як піша ў «Шляхціцу Завальні» Ян Баршчэўскі, менавіта іх вялізныя ідалы стаялі ў дахрысціянскім Полацку. Баба-Яга лічылася ўладарніцай царства звяроў і душ нябожчыкаў-продкаў.

Па комі-пярмяцку **лес** — гэта **яг.** Так сведчыць слоўнік. Але комі-пермякі, з якімі мне даводзілася гутарыць, сцвярджаюць, што словам **яг** у іх называецца не кожны лес, а толькі той, у якім хаваюць нябожчыкаў, г. зн. лясныя могілкі. А дзе ж, як не там, царства звяроў і нябожчыкаў? Зразумелым робіцца і выраз, да якога мы прызвычаіліся: «Баба-Яга, касцяная нага». Злавесная і магутная, паўжывая, паўмёртвая...

Зноў вяртаюся да Вялеса. Л. Салавей лічыць магчымым, што імя гэтага бога можа паходзіць ад слова **вялікі.** «Вяль — вялікі, рослы, як можна меркаваць па выразу, калі гавораць пра вялікага хлопца — гэткі Вяль вырас!»

Л. Салавей прыводзіць імя Вялес у сённяшнім беларускім вымаўленні. А ў летапісах, мы ведаем, ён пісаўся **Велес,** ці **Волас.** Чаму летапісцы чулі і так, і гэтак?

Рызыкну даць сваё тлумачэнне. Па комі-пярмяцку **конь — вӧл.** Літара ӧ перадае кароткі рэдуцыраваны гук, якога няма ў славянскіх мовах (нешта сярэдняе паміж **о** і **э**). І вось калі бог называўся **Вӧлӧс** (конскі), то славянскія летапісцы маглі на слых успрымаць яго імя па-рознаму, а пераклад давалі — **скотий бог.** Тады і народны выраз, што прыводзіць Салавей, тлумачыцца па-іншаму: «Гэткі конь вырас!»

Ян Баршчэўскі расказвае пра незвычайную здольнасць старажытных багоў Полаччыны: у лесе яны былі высокія і магутныя, як дрэвы, а ў лузе рабіліся маленькімі, ніжэй травы. Ці не адтуль пайшла назва «божая кароўка»? А можа, быў і «божы конік»? У беларускай мове ёсць проста **конік.** А вось у комі-пярмяцкай застаўся **божы конік.**

Усе мы — хто больш, хто менш — ведаем прыгоды грэчаскіх багоў, німфаў, сатыраў. Любое дзіця адкажа на пытанне, хто такія эльфы, феі ці гномы. Не ведаем толькі сваіх багоў (а калі і ведаем, то акарыкатураных мюзікламі і мультфільмамі). Між тым наш фальклор падказвае, што беларускі пантэон — сапраўды неацэнны скарб. Жывуць у ім побач з вялікімі багамі — уладарамі зямлі і нябёсаў — духі лесавыя, вадзяныя, дамавыя, палявыя, лугавыя, гаравыя, цмокі і змяіныя цары — русалкі — вадзяніцы, лесавіцы, балотныя начніцы. Кожнае дрэва, кожная травінка мае жывую душу. І ў гэтай адухоўленасці прыроды — такая спрадвечная, шчырая, трапяткая любоў да яе!

Не проста гэта — узнавіць свой пантэон, які стагоддзямі знішчаўся хрысціянскімі святарамі, а потым савецкімі чыноўнікамі. Але так хочацца паставіць на кніжную паліцу побач са слоўнікам грэчаскай і рымскай міфалогіі хоць маленькі слоўнічак міфалогіі беларускай!

**Святлана КЛІМКОВІЧ.**

## Віншуем!



*Святлане ЯЎСЕЕВАЙ — 60*

Сёння дзень нараджэння ў паэтэсы Святланы Яўсеевай. Віншуем Святлану Георгіеўну з 60-годдзем, зычым ёй далейшых поспехаў на паэтычнай ніве і ў галіне перакладу.

## НЕ ЗГІНЕ ПЕСНЯ...

ВЯЗАНКА

Так сказаў у сваім першым беларускім вершы Янка Лучына. Перад гэтым былі ўжо ў яго творы на рускай мове, на польскай — і Янка Лучына (сапраўднае імя паэта Іван Неслухоўскі) тут не выключэнне. Цяжка, вельмі пакутліва прабівала сабе дарогу беларускае слова. Ды ўсё ж знаходзіла яе. І паэт-дэмакрат Я. Лучына, калі ў 1887 годзе пачуў на Беларусі выступленне ўкраінскіх артыстаў, павітаў іх па-свойму, па-тутэйшаму:

Братцы, сястрыцы! — праўды нясыта
Маці-Зямліца! Ой, не забыта
Роднага слова святая сіла!

Пасля ў яго былі іншыя творы, напісаныя па-беларуску. Яны і склалі невялічкі паэтычны зборнік Я. Лучыны «Вязанка», які ў 1903 годзе, праз шэсць гадоў пасля смерці аўтара, пабачыў свет у Пецярбурзе.

Цяпер «Вязанка» зноў прыйшла да чытача, у тым жа выглядзе, як і амаль дзевяноста гадоў назад. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ажыццявіла факсімільнае выданне кніжкі Я. Лучыны (падрыхтавана яно па экземпляру, што знаходзіцца ў асабістай бібліятэцы Барыса Сачанкі). Наклад зборніка 2 200 асобнікаў, кошт на сённяшні дзень мізэрны (усяго рубель!), так што паспяшайцеся прыдбаць першую кніжачку Я. Лучыны.

Песня яго і сапраўды не згінула. Не згіне і беларуская мова, калі будзем руплівіцца пра яе адраджэнне.

# ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ ў стылі «наменклатурны поп»

(Пачатак на стар. 10—11).

калі фанаграма «падплывала», і калі яе не далі наогул і музыканты хвіліны дзве разгублена глядзелі ў залу, не ведаючы, што рабіць.

Чаму, нарэшце, на фестывалі немагчыма было купіць ніводнай пласцінкі, ніводнай касеты з запісамі хоць бы артыстаў — ганаровых гасцей фестывалю? Значкі, вымпелы, стыкеры, плакаты з сімволікай — усё, што заўсёды складае салідны пабочны даход, аказваецца, было падрыхтавана, але ў продаж чамусьці не паступіла. Праўда, выходзіла на добрым узроўні зробленая фестывальная газета «Славянский базар». У горадзе спецыяльна да фестывалю было адкрыта мноства цікавых выстаў. Але ўсе яны, за выключэннем выстаўкі «З небыцця», былі падрыхтаваны намаганнямі віцябчан. Улады горада наладзілі гасцям і ўдзельнікам фестывалю дадатковыя забавы, правёўшы ў час фестывалю традыцыйнае свята горада, якое ў Віцебску заўсёды праходзіць на вельмі высокім узроўні. Горад сапраўды жыў у тыя дні ў атмасферы свята. Неабходна адзначыць таксама каманду тэхнічнага дырэктара фестывалю Радзёна Баса. Ад'езд, прыезд, размяшчэнне ў гасцініцах, харчаванне і іншыя праблемы, заўсёды вельмі важныя для артыстаў і журналістаў, вырашаліся хутка і з высокім узроўнем сервісу.

Нарэшце, даць прагноз будучага лёсу «Славянского базара» я папрасіў кіраўніка штаба беларускай дэлегацыі Анатоля Матвіеўскага:

— Конкурс-фестываль беларускай эстраднай песні мы праводзіць будзем. І тое, што было закладзена тут, будзем прадаўжаць.

— Але ці маеце вы намер змяніць канцэпцыю фестывалю?

— Так, канцэпцыя зменіцца, гэты фестываль можна лічыць проста пераходным.

Такі ўніклівы адказ дае спадзяванне, што і сярод адміністрацыі фестывалю ёсць падазрэнні, што, нягледзячы на авацыі і шматлікасць лаўрэатаў, не ўсё прайшло добра.

...Беларускі і Астанкінскі каналы паказвалі Віцебск, расійскі ў гэты ж час — фестываль у Юрмале. Бліц-апытанне знаёмых паказала: большасць аддалі перавагу якасці, а не колькасці і непатрыятычна пераключылі тэлевізары на рэпартаж з Прыбалтыкі...

**Юрый БУДЗЬКО,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа».**

Віцебск—Мінск.

**Працягваем публікацыю адказаў дзеячаў беларускай эміграцыі на пытанні Леаніда Пранчака. У мінулых нумарах вы ўжо пазнаёміліся бліжэй з Наталляй Арсенневай, Кастусём Акулам, Янкам Золакам, Масеем Сяднёвым. Сёння наступнае знаёмства — з філосафам, перакладчыкам, літаратарам Янам ПЯТРОЎСКІМ.**

**Нагадваем пытанні анкеты:**

**1. Раскажыце пра свой творчы лёс, назавіце. вашы асноўныя творы.**

**2. Як вы ацэньваеце феномен беларускамоўнага замежжа і яго месца ў беларускай культуры!**

**3. Творы якіх пісьменнікаў беларускай эміграцыі, на вашу думку, сталі з'явай у беларускай і сусветнай літаратуры!**

**4. Ваша думка пра сучасную беларускую літаратуру! У чым яе адрозненне ад літаратуры эміграцыйнай! У чым падабенства!**

**5. Чым з'яўляецца для вас Беларусь! Як і чаму ў далечыні ад радзімы вы зберaглі родную мову!**

**6. Над чым працуеце зараз!**

**БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ**

# Ян ПЯТРОЎСКІ: «УСЯ МАЯ ПРАЦА — ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ПАЧАТКАМ»

Лёс? — магчыма будзе гэта найлепшы канцэпт, які спатыкаецца ў жыцці з чалавекам і ўмешваецца ўва ўсе ягоныя дзейнасці на працягу трывання самога жыцця.

Кажны чалавек, каторы прыходзіць на свет, нясе з сабою першапачатак таго нечага, што пазней выльецца ў ягоных асягненнях або ў змесце творчага жыцця. Называюць гэта здольнасцю, схільнасцю, пакліканнем да нейкае будучае творчае дзейнасці...

Гэтая характэрная рыса здольнасці часта болей прыкметна праяўляецца ў дзяцей ужо ў ранніх гадох і вырознівае іх сабою, як паэтаў, майстраў тону, беглых матэматыкаў і г. д. Гэтакіх дзяцей прынята называць геніяльнымі. Пра іх, як выняткавых, я не буду тут казаць.

Тое, што я памятаю са свайго дзяцінства, я запісаў у першай кнізе «Мэмуараў», у раздзеле «Слуцак». Пазней праяўляецца сведамасць назірання навакольнага свету і пазнавання самога сябе. Усё гэта накіравалася ў адным напрамку: прабуджэнне самастойнага думання, чытання твораў сусветных думаннікаў, у вапрычонасці спатканне з Метадызмам, сустрэча з думкаю Льва Талстога і спробы пісання.

Калі ідзе гутарка пра назіранне, тады трэба сцвердзіць, што не было тут ніякага планавання з майго боку. Усё выплывала з падсведамасці або з прычыны інтэрвенцыі лёсу ці Лёсу.

Ці глядзімо мы на падобную з'яву з пункту гледжання чыста матэрыяльнага, ці, як платанізм хоча, з пункту гледжання чыста духова-ідэальнага, факт астаецца фактам: існуе нешта такое, што прынята між людзьмі называць лёсам, доляю.

Паважны другі перыяд у мяне выступае тады, калі я спатыкаюся з амерыканскім метадызмам. Амерыканцы любяць пытанне і адказ на яго. Натуральна, падобнае з'явішча спатыкаем сярод кажнае нацыі і, магчыма, у кажнага чалавека. Але ў амерыканца характэрным ёсць тое, што ён не баіцца спаткаць любы адказ.

Выразным і відавочным было тое здарэнне лёсу, калі аднойчы Міс Броўн падала мне першы томік выбраных думак чалавека пад тытулам «Круг чтения» Льва Талстога. Тое, з чым я цяперака спатыкаюся, прабудзіла паўспячую ў мяне схільнасць у напрамку таго, што ў культурным свеце прынята называць філязофіяю.

Трэці перыяд пачынаецца пазней, пасля якіх пяцідзесяці гадоў я зноў спатыкаюся з Платонам і ўжо ў ролі ягонага вучня. У між часе паступ будзе паглыбляцца і да свайго зеніту дойдзе ўжо ў Злучаных Штатах недзе ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў і будзе трываць да сягоннишняга дня.

Чытаючы дыялогі Платона і вывучаючы іх разам з перакладам, я дазнаю вялікую радасць і заахвоту. Чытаю я камэнтары ангельскіх перадавых людзей, амерыканскіх, нямецкіх, і пачынаю ўсведамляць сабе, чаму іхныя народы з'яўляюцца тым, чым яны з'яўляюцца. Я прыходжу да высновы, што прычыны іхных паводзін ляжаць у пазнанні імі і прысваенні сабе спадчыны вялікіх грэкаў. Адсюль я чэрпаю перакананне, што гэтак, як яны і мы можам, і павінны падысці да свету старажытных элінаў, калі мы маем стацца тым, чым стацца мы хочам. Не толькі займець палітычную незалежнасць, але праявіць сябе ў ёй значна лепей.

Мне цяжка адказаць Вам на другую частку пытання, адносна маіх твораў, бо ўсе яны, надрукаваны на васьмі бачынах друку ці на трыстапяцідзесяці бачынах — усе яны з'яўляюцца маімі дзяцьмі, ці будзе якое з іх называцца «Палітэя», ці «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік», ці хай сабе «Унутраная хворма мовы» — усе яны з'яўляюцца складовымі часткамі аднаго дыяпазону рознаколернасці, якія разам сабою твораць адзін прыгожы вобраз Розуму і Прыгажосці.

Хацеў бы тут сказаць гэтак сабе, як і ўсім, з кім мне даводзіцца спатыкацца, што ўся гэтая мною праробленая праца — ёсць толькі вельмі маленькім і скромным пачаткам. Хто і калі захоча далей працягваць падобную працу і ўзбагачваць духова нашую не толькі літаратуру, але беларускія розумы і сэрцы?

У перыядзе амерыканскім выдадзенам друкам:

Пачынаючы з 1962 года, выходзіць першы нумар «Сьветача Хрыстовае Навукі», апошні нумар якога выйшаў у 1966 годзе. Разам выдадзена 24 нумары.

У гэтым самым 1966 годзе наступае крызіс, у выніку якога ў 1967 годзе выходзіць першая своеасаблівая ў нас кніга, на 212 бачынах, з адносна доўгаю прадмоваю, якая ўпершыню нашага стагоддзя прадстаўляе беларускаму чытачу Сакрата, Платона і іхнюю філязофію. У кнізе знаходзяцца тры дыялогі Платона, перакладзеныя на беларускую мову: «Абарона Сакратаса», «Крытон» і «Файдон».

Тры гады пасля гэтага ў 1970 годзе выходзіць з друку другая кніга Дыялогаў Платона з дыялогамі — «Сымпозыён», «Іён», гэтаксама з уводзінамі і ўпершыню падаецца тут першая спроба класічнага грэцка-беларускага слоўніка (77 бб.).

У між часе паклікваем мы (я з сынам Юркам) да жыцця беларускую друкарню, з поўным тэхнічным заспасабленнем — лінатып, аўтаматычны прэс, інтралігаторня. Пераважна друкаваліся беларускія і ўкраінскія кнігі і перыёдыкі. Першыя ўспомнутыя дзве кнігі Платонавых дыялогаў друкаваліся ў нас, асабліва пасля таго, як пераехалі мы з Цэнтраль Сквэр у Сіракузы, Нью-Ёрк.

Доля хацела, што друкарня наша праіснавала толькі да 1971 года. Дня першага травеня г. г. пераехалі мы сям'ёю з Сіракузаў у штат Фларыда і асяліліся ў месце Гейнсвіль, дзе сын наш Юрка ў гэтым часе ўжо займаў становішча прафесара ў Дэпартаменце механікі ў тутэйшым універсітэце (Фларыдскі Універсітэт).

Тут пачынаецца новы этап нашага жыцця ў Злучаных Штатах.

Страту друкарні я яшчэ і сягоння не магу адшкадаваць. Але, кажуць, нічога няма дрэннага, каб не выйшла на добрае. Адсутнасць друкарні дала мне болей свабоднага часу, які прысвячаю пісьменніцкай дзейнасці і асабліва на пераклады Платонавых твораў, якія я ўважаў і сягоння ўважаю за найбольшае дабро для беларускае літаратуры і гэтым за праўдзівую адукацыю для сябе і беларускага народа.

У 1973 годзе выходзіць ужо ў Гэйнсвіле новая кніга, якая змяшчае ў сабе дыялог Платона «Горгіяс», з дадаткам «Грэцка-беларускага слоўніка». (102 бачыны).

У 1975 годзе выйшла чарговая кніга, два дыялогі — «Протагорас» і «Гіппіяс Вялікшы». У гэтым самым годзе выходзіць з-пад прэсу ў беларускай мове «Ўніверсальная Дэкларацыя Правоў Чалавека».

У 1976 годзе выйшла з друку кніга з двума Платонавымі дыялогамі — «Пармэнідэс і Мэнон».

У 1977 годзе, пасля праўнага ўстабілізавання карпарацыі пад назовам Яна і Аліцыі Пятроўскіх Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд, выходзіць першы нумар «Анаграфаў» афіцыяльнага воргану Карпарацыі.

«Разважанні» («Роздумы») Марка Аўрэліюса ў перакладзе на беларускую мову выйшлі з друку ў 1978 годзе. (бб. 140).

У наступным годзе выходзіць з-пад прэсу Яна Пятроўскага «Старажытная Грэцкая Клясыка», бб. 28.

У гэтым самым годзе (1978) выйшаў з друку № 2 «Анаграфаў».

Кніжыца: Вернэр Егэр, «Тэалёгія грэцкіх думаннікаў» у перакладзе Яна Пятроўскага выйшла з друку ў 1980 годзе. У гэтым самым годзе выходзіць з-пад прэсу другі том «Лепшых думак чалавека».

У 1981 годзе пад даглядам Сакрата Яновіча ў Беластоку перавыдаецца «Універсальная Дэкларацыя Правоў Чалавека» ў апрацаванні Яна Пятроўскага.

У 1981 годзе першы раз у нас выдаецца першараднае важнасці адзін з двух Платонавых дыялогаў «Політэя» (другі дыялог —«Правы»), бб. 340.

У гадох 1983 і 1985 выдаюцца дзве кніжкі, якія твораць сабою цэласць: «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік», у апрацаванні Яна Пятроўскага.

У гэтым самым годзе Ян Пятроўскі друкуе фрагменты са свае аўтабіяграфіі: «На васьмідзесятыя ўгодкі».

У 1986 годзе выйшла з друку малюпаценькая рэч, бо налічвае ўсяго 8 бачын друку ў вокладцы. Брашура рассылалася толькі на эміграцыі і не была высыланаю ў Беларускую Рэспубліку ці Польскую. Яе доўгі тытул гаворыць сам за сябе: «Слова да ўсіх, каму справа беларускае культуры ляжыць на сэрцы». Змест друку не павінен ацэньвацца вагою паперы, на якой ён друкуецца, але паводле зместу, які знаходзіцца на ягоных бачынах. Наша маленькая кніжачка забрала нам шмат часу, каб зрабіць яе малюю.У ёй гаворыцца, што культура народа з'яўляецца рашаючым мамэнтам для нацыі — жыцця ці смерці. Асабліва ў нашым часе, калі ў Заходняй гэмісферы культура, цывілізацыя б'юць жывою, сільнаю фантанаю.

Год 1987 прыносіць новае выданне «Старажытнае грэцкае класікі», якая ўпершыню друкавалася ў 1979 годзе.

З прычыны хуткага разыходу выдання першае кнігі Платонавых дыялогаў («Абарона Сакратаса», «Крытон» і «Файдон»), сталася неабходным перавыдаць яе. Гэтак, асобнаю кніжыцаю ў 1987 годзе выйшлі два дыялогі —«Абарона Сакратаса» і «Файдон». Трэці дыялог, «Крытон» знаходзіцца ў другім томе «Лепшых думак чалавека».

У 1988 годзе з нагоды навагодняга сезону выйшла з друку ў ангельскай мове ў апрацаванні Аліцыі Пятроўскай брашура «To our Friends».

Першая кніга ўспамінаў Яна Пятроўскага «Мэмуары» выйшла з друку ў 1988 годзе.

«Унутраная хворма мовы» Вільгельма фон Гумбольдта ў перакладзе на беларускую мову замыкае нашу дзейнасць восемдзесятых гадоў бягучага стагоддзя.

●

Феномен беларускамоўнага замежжа? Гэта феномен у **нас.** Сярод іншых народаў (немцы, палякі, расейцы, кітайцы, японцы... каб не вылічваць іх усіх)— гэта звычайная з'ява. У нас падобная з'ява можа быць уважанаю за феномен, бо, магчыма, у большым маштабе ўпершыню беларусы апынуліся за мяжою свае Бацькаўшчыны.

Гісторыя гэтага палітычнага «феномену» ў нас датуецца з 1918 года, калі створаныя расейскаю рэвалюцыяю палітычныя абставіны змусілі лепшых нашых людзей пакінуць Бацькаўшчыну і падацца на Захад. Прага чэская, Берлін, Парыж; некаторыя апынуліся ў Паўночнай Амерыцы, як і ў Паўдзённай. Адпаведна да агульнага ўзроўню нацыянальнае сведамасці, лікава першая эміграцыя не была вялікаю.

Падчас Другое сусветнае вайны выявілася, што тэрор акупантаў — Савецкае Расеі і Польшчы — які трываў 20 гадоў, не здолеў знішчыць імкненняў Беларускага Народу да Свабоды, да адбудовы свае дзяржавы. У часе нямецкае акупацыі беларусы з вялікай энергіяй зноў узяліся за адбудову асноў свае дзяржаўнае незалежнасці. У барацьбе супроць бальшавіцкае, польскае і расейскае дыверсіяў, беларусы ахоплівалі сваім актывам адміністрацыю, паліцыю, школьніцтва, суд, сацыяльную апеку ды іншыя дзялянкі грамадскага жыцця. У Менску ў 1942 годзе адбыўся Праваслаўны ўсебеларускі Сабор, які пастанавіў арганізаваць Беларускую Праваслаўную Царкву на асновах аўтакефаліі. Беларуская Народная Самапомач арганізавала густую сетку сваіх аддзелаў на ўсім абшары Беларусі, працуючы не толькі ў галіне харытатыўнай, але і ў напрамку агульна-нацыянальным.

Вялікае развіццё беларускае вызвольнае працы ды няўдачы нямецкае арміі на франтах, змусілі нямецкую акупацыйную ўладу пайсці на значныя ўступкі беларусам. У такіх абставінах арганізавалася Беларуская Цэнтральная Рада, як нацыянальна-беларускае кіраўніцтва краю. БЦР арганізавала свой арганізацыйны апарат у форме намесніцтваў, ахопліваючы абшары па-за прыфрантовае паласы, узначаліла школьніцтва, ахову здароўя, сацыяльную апеку, суд, ды правяла мабілізацыю ў рады свае нацыянальнае арміі — Беларускае Краёвае Абароны.

Распачынаць вайну за незалежнасць на два франты — супроць бальшавікоў і немцаў — раўназначна было б самагубству. Такі крок зрабіць было немагчыма. Бальшавікоў усе добра ведалі і з імі змагаліся, а што да немцаў — дык былі ўпэўненыя, што Захад звяжа ім рукі. У гэтакай сітуацыі трэба было асягнуць найболей і пры тым у легальны спосаб.

Падчас агульнага адступлення нямецкіх армій з усходу вытварыліся абставіны, якія давалі магчымасці склікання агульна-нацыянальнае беларускае прадстаўніцтва — Кангрэс — для выяўлення волі беларускага народа адносна свае будучыні. З гэтаю мэтаю БЦР склікала Другі Усебеларускі Кангрэс, пасяджэнні якога адбыліся дня 27 чэрвеня 1944 года ў Менску ў зале сталічнага тэатра.

Абставіны ваеннага часу і спецыфічнае нямецкае акупацыі пакінулі свае сляды на падзеях Другога Кангрэсу. Прапарцыянальнае прадстаўніцтва ў Кангрэсе было праведзена на абшарах, ахопленых у той час кіраўніцтвам БЦР. З прыфрантавой паласы Беларусі на Кангрэсе прымалі ўдзел тыя прадстаўнікі, каторыя змаглі прыбыць на Кангрэс. Прадстаўнікі ад частак Беларусі, далучаных акупацыйнаю ўладаю да іншых краёў, як: з Віленшчыны, далучанае да Літвы; з Горадзеншчыны і Беласточчыны — далучаных да Нямеччыны; з Дзвіншчыны, далучанае да Латвіі — гэтаксама прымалі ўдзел у Кангрэсе, як і прадстаўнікі ад беларусаў за мяжою, каторыя, як ваеннапалонныя ці дэпартаваныя на працу ў Нямеччыну, маглі пры першай магчымасці вярнуцца ў вольную Беларусь.

Вуснамі дэлегатаў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу беларускі народ заявіў свету, што ёсць **дзяржава БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА.**

Каб уявіць сабе, як аграмаднаю магла быць беларуская эміграцыя, трэба паклікаць на ўспамін усе тыя арганізацыі, урадавыя і паўурадавыя ўстановы,

**(Працяг на стар. 14—15).**

# «УСЯ МАЯ ПРАЦА — ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ПАЧАТКАМ»

(Пачатак на стар. 13).

гэтаксама як і царкоўнае жыццё. Усё гэта ў часе нямецкае акупацыі на працягу ўсіх гадоў было чынным.

Перад усім, варта і трэба ведаць, што нацыянальны ўзровень беларускага народа перад пачаткам вайны быў асабліва высокім, хоць і заставаўся прыціснутым і неспасцярожным для людскога вока. Аб гэтым даведаліся мы ў бегу вайны як і пасля заканчэння яе. Сяляне Заходняе Беларусі, як і Усходняе выняткава сільна праявілі сваю беларускую сведамасць. Жаўнеры з польскага войска, як і з савецкага звязваліся з існуючымі беларускімі інстытуцыямі, праяўлялі сваю беларускую сведамасць і ўключаліся ў актыўнае беларускае жыццё. Царкоўныя арганізацыі асабліва на Ўсходзе, дзякуючы скліканню Сіноду Праваслаўнае беларускае царквы, актывізаваліся на ўсіх занятых абшарах. Гэтаксама і беларускія неапратэстанты, каторыя раней былі аслоненыя расейскасцю, дэманстравалі сваю беларускасць.

У прадмеце адукацыі, уся тэрыторыя пакрываецца густою сеткаю школаў, пачынаючы народнымі школамі і канчаючы вышэйшымі. Зактывізаваны тэатр агортваў сабою значную колькасць тэатральных артыстаў, мастакоў і пісьменнікаў, як і гледачоў. Беларусы ахоплівалі сваім актывам адміністрацыю, паліцыю, школьніцтва, суд, сацыяльную апеку. Самае галоўнае з усяго, гэта факт, што аграмадныя беларускія кадры, як і паасобныя адзінкі, у сваёй цэласці ведалі сваю адказнасць у часе гэтакае шалёнае вайны, якая агарнула сабою ўвесь наш цывілізаваны свет. Тым не меней яны не адступалі ад свайго маральнага абавязку перад сваёю Бацькаўшчынаю і шматлікія з іх проста ахвяравалі саміх сябе для беларускае справы, беларускае Свабоды.

Характэрнае здарэнне займела месца ў тым часе на сектары сельскае гаспадаркі. Немцы першы раз пабачылі калхоз. Яны самыя нічога не мелі супраць таго, каб калхозы асталіся недаткнутымі. Але што сталася? Не паспелі немцы яшчэ прадпрыняць пастановы, што да калектыўных гаспадарак, як калхознікі зараз жа разабралі сваю зямлю. Яны ведалі, дзе кожнага зямля і колькі яе было.

Чалавек ведае, што, як голым ён радзіўся, гэтак голым павінен пакінуць гэты свет. Але на працягу ўсенькага свайго жыцця, гэтак, як і ўсе іншыя звеы навакол яго, ён абдораны натуральнаю схільнасцю мець сваю ўласнасць, у дадзеным выпадку — сваю ўласную зямлю. Схільнасць мець сваю ўласную зямлю — гэта схільнасць, дадзеная яму Натураю. Натуры не можна зваяваць, і ніхто ніколі і нідзе яе не зваяваў. Усё, што астаецца,— гэта пазнаць яе і прыспасобіцца да яе. Сам уласнік — гаспадар з'яўляецца найлепшым даглядчыкам, працаўніком і адміністратарам на сваёй зямлі. Вынік гэтак зарганізаванае гаспадаркі — добры ўраджай, якім собснік корміць свет.

Сягоння, здаецца, усе расейскія камуністы пачынаюць разумець, што, калі яны хочуць мець удосталь хлеба, памазанага маслам і прываленага добрым куском шынкі, зямля павінна быць вернута праўным яе гаспадаром — сялянам.

Беларуская эміграцыя, паводзіны беларускага сялянства, рэарганізацыя царкоўнага жыцця — гэта беларускі плебісцыт. Беларускі народ сказаў на цэлы свет, што ён не хоча мець ані расейскага, ані якога-небудзь іншага камунізму.

Вернемся на заканчэнне зноў да пытання: як вялікаю беларуская эміграцыя лікава была? На гэта ніхто не можа дакладна сказаць. Яна адбывалася ў атмасферы вялікага тэрору, тэрору, які цяперака хоць і змалеў, але ўсё яшчэ знаходзіцца між намі: людзі зьначвалі прозвішча, месца нараджэння, нацыянальнасць або проста зашываліся ў новае наваколле і канулі назаўсёды ў вечнасць.

●

На ўступе няхай будзе дазволена сказаць, што на заслугу беларускае эміграцыі павінны быць запісаны чатыры наступныя гістарычныя факты ў хворме асягненняў.

1. Беларуская эміграцыя ў сваёй цэласці ўтрымала сваю нацыянальную сведамасць. Яна гэтаксама падтрымлівала і падтрымлівае веру і непахіснасць што да сваіх беларускіх ідэалаў, якія выражаюцца імкненнем да Свабоды і палітычнае Незалежнасці.

2. На заслугу беларускае эміграцыі павінен быць запісаны факт, што яна захавала беларускую літаратурную мову ў тым часе, калі дома, у Рэспубліцы, выкарчоўвалі яе сістэматычна.

3. У дапаўненне да беларускае мовы, беларуская эміграцыя здабыла іншаземныя мовы — ангельскую, нямецкую, французскую і першыя ўводзіны да класічнае грэцкае мовы.

Мы не можам і не павінны ў нашым культурным поступе заўсёды раўняцца на Маскву. Надыходзіць час, калі беларусы, для прыкладу, павінны адкінуць хрушчоўскі беларускі правапіс, накінуты нам указам, а пачаць самастойна пісаць правільна па-беларуску, не чакаючы на нечы дазвол.

4. Беларуская эміграцыя захавала ў сабе пачуццё ініцыятывы, ініцыятывы гэтак свомае для заходняга свету. Мы з кожным днём набліжаемся бліжэй да тае пары, калі, магчыма, ініцыятыва будзе адзіным вырашаючым фактарам і найважнейшым ключом да ўзняцця энергічнае дзейнасці, што вядзе да здзейснення беларускіх ідэалаў. Будзе гэта гістарычны момант. Калі ініцыятыва не спаткаецца з гэтым момантам, Беларуская Справа дазнаціме значнае паразы.

Штоколячы мы разумеем пад словам «літаратура», адно, агульна прынята мець на ўвазе — гэта сказанае, напісанае ці надрукаванае слова вольнага чалавека, вольнага — пад кажным кутом гледжання.

Атмасфера, у якой ён піша, мусіць запэўніць яму свабоду думкі, бязбоязнасць, што ён за сказанае сягоння ім слова, можа заўтра апынуцца за кратамі, у лепшым для яго выпадку.

Пісьменнік можа стацца вартасным у сваёй прадукцыі, калі ён з'яўляецца гэтаксама і эканамічна незалежным. Возьмем для прыкладу расейскую літаратуру мінуўшчыны: Пушкін, Лермантаў, Тургенеў, Талстой і г. д.— гэта ўсё былі людзі, каторыя маглі бестурботна сядзець за пісьмовым сталом і пісаць, і не клапаціцца зусім пра заўтрашні дзень, пра кусок хлеба на стале.

Маючы на ўвазе вышэй сказанае, можна зноў вярнуцца да пытання дэфініцыі канцэпту літаратуры. І калі літаратураю ёсць усё, што было так ці гэтак выражана свабодным і паняволеным чалавекам, тады мусім прыйсці да высновы, што прадукцыю, вытвараную ў свомых для іх абставін, можна падзяліць на добрую, меней добрую і без значэння.

Ужо пасля спынення ваенных дзеянняў Другое сусветнае вайны, пачала паяўляцца беларуская літаратура на эміграцыі. Спачатку, з прычыны матэрыяльнае галечы, вонкава выданні праяўляліся бедна — пераважна рататорныя. З часам, калі эканамічны статус папраўляўся, беларускія друкі на эміграцыі пачалі прыбіраць болей апратны выгляд, а думка зраўнаважанаю.

Пісалася многа і ўсюды. Рэлігійная літаратура, ці ляпей сказаць — царкоўная — мела не малое паводжанне. Часта нават пісаліся працы на розныя іншыя тэмы і не абавязкова на царкоўныя, але і тут аўтары паддаваліся і сведама, і падсведама царкоўнай рэчаіснасці і гэтым іхныя працы ставіліся ў цень праблематычнасці.

Выняткам тут можна ўважаць дзейнасць Вітаўта Тумаша, каторы распрацаваў наспапулярызаваную тады яшчэ ў нас тэму г. зв. Скарынады — у цэнтры якое знаходзіцца Францішак Скарына. Другім з чаргі можа быць упомнуты Ул. Глыбінны, працы каторага публікаваліся на беларускай як і ангельскай мове, разам уліку 12 кніг і 330 артыкулаў, пераважна расцярушаных па розных перыёдыках.

Юры Стукаліч (Віцьбіч), як літаратар, выбітна адзначаўся гэтак зместам як і хвормаю. Працы ягоныя, захварбаваныя здаровым патрыятызмам, пераважна астаюцца ўсё яшчэ несабранымі ў цэласць, расцярушанымі па розных газетах, якія даўно спынілі сваё існаванне, часапісах і, вельмі магчыма, у рукапісах.

Аўгена Калубовіча пазнаў я ў Берліне. Магчыма, быў ён адзіным, каторы вонкава як і перадусім думкаю перавышаў шматлікіх. Адзначаўся вялікаю інтэлігентнасцю і ведамі. У 1978 годзе выйшла з друку ягоная праца «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства», якая адзначаецца вялікаю дакладнасцю і гэтакаю ж ведаю прадмета. У 1986 годзе, коратка перад ягонаю смерцю выйшлі з друку ягоныя ўспаміны. «На крыжовай дарозе». Тут аўтар расказвае чытачу пра свае пакуты, якія перажываў на дарозе ў Сібір з падрабязным ахарактарызаваннем савецкіх уладаў у канцэнтрацыйных лагерах.

На гэтым не канчаюцца імёны тых на эміграцыі, каторыя ў такой ці іншай ступені праявілі сябе, як пісьменнікі, у вапрычонасці, як рэдактары паэты, гісторыяграфы і г. д.

Што з пісьменніцкае творчасці сягоняшняе беларускае эміграцыі належыць сусветнасці, час толькі адкажа.

●

Мая думка наогул пра сучасную савецкую літаратуру самая сумная.

З духам савецкае думкі, якая агарнула сабою і беларускую (згэтуль ужо «савецкую») літаратуру, абазнаным з'яўляючы ад часу пачаткаў самое расейскае рэвалюцыі. Пазней па-за межамі Бацькаўшчыны стала трымаю руку на пульсе справы. Праўдзіва ці непраўдзіва, але ў мяне стварылася ўражанне, што літаратура гэтая нудная і аднабаковая, непраўдзівая ў падаванні агульна ведамых фактаў. Савецкая літаратура стаецца нуднаю, бо пры кожнай нагодзе і пры кожнай тэме паўтараецца адно і тое самае: вялікі Сталін, вялікі Карл Маркс, вялікі Ленін — і гэтак бясконца, каб пасля ўсяго гэтага зноў пачаць, перастаўляючы словы, і казаць далей: Сталін вялікі, Карл Маркс вялікі, Ленін вялікі і гэтак далей і да г. п.— аднабаковасць.

Ёсць вялікія людзі, для прыкладу, Галілей Галілео, Капернік. Яны «заатрымалі Сонца і рушылі Зямлю». Мы ведаем, што яны ўнеслі свой вялікі ўклад у галіну асветы чалавецтва. Але якраз з гэтае прычыны, з прычыны іхняга асягнення і пашаны да іх — мы не надужываем іхнымі імёнамі. Дзеля чаго атуманьваць людзей (пры шчыльна запертых граніцах і заглушанні гаворанага слова) «лямпачкаю Ільіча», калі электрычная лямпачка барджэй мусіла б быць названаю лямпачкаю Эдысона, каторы абдарыў нас электрычным святлом.

Аднойчы, перад гадамі, адведаў мяне нейкі свяшчэннік (быў ён з Савецкага Саюза). У гутарцы з ім я сярод іншага сказаў: «хто не працуе, той няхай і не есць». «Так!— уключыўся хутка свяшчэннік, гэта сказаў Ленін». Чуючы, што ён кажа, я сказаў: «Не, гэта не Ленін сказаў, але ап. Паўла ў сваім другім пасланні да царквы ў Тэссалёніках». Ён здзівіўся пачутым, я адкрыў Новы Запавет і даў яму прачытаць: «Хто не хоча працаваць, няхай гэтаксама і не есць».

Апошнія мінулыя гады і асабліва мінулы год прыносяць навасць у савецкай літаратуры. Стаецца гэта, што праўда, з болем у сэрцы. Рвуцца ланцугі паняволення, і беларуская савецкая літаратура пачынае ставацца толькі беларускаю літаратураю. У ёй адразу вычуваецца імпульс свабоднага чалавека, каторы не саромеецца шкадаваць і каяцца, што «навуковая» тэорыя Карла Маркса і ягоных саратнікаў — гэта мана. І тут чалавек тужыць да слёз, няма нічога на свеце, што магло б вярнуць яму страчаны час і нагоду праўдзівае адукацыі.

З атрымліваных тут лістоў з Бацькаўшчыны выразна выступае думка, што аўтары бачаць вялікую літаратуру на эміграцыі. І гэта праўда. Яна ёсць вялікаю. Але мы, каторыя жывем на эміграцыі, гэтае вялікасці не спасцерагаем. Наадварот, нават папракаем з прычыны маласці яе. Чаму яна цяперака раптам сталася вялікаю? Вялікасць гэтая толькі тады стаецца сцярожнаю, калі да яе прыстаўляем маласць — маласць нацыянальнае літаратуры на Бацькаўшчыне.

Тут, натуральна, я не маю на ўвазе вагу паперы задрукаванае беларускімі словамі, але адно змест. Змест гэты гаворыць, што ёсць ён нацыянальны, свабодалюбны. І тут ляжыць велічнасць эміграцыйнае літаратуры.

Беларуская савецкая літаратура — гэта літаратура, якая загадзя планавалася некім. Яна радзілася, падрастала і даспявала, каб стварыць атмасферу падсведамага камплексу няпоўнавартаснасці чалавека.

Гэтую літаратуру няпоўнавартаснасці для беларуса стварыў ягоны старшы брат.

Перш старшы брат хоча ўдаўбіць у галаву маладзейшаму брату пашану, якую апошні павінен мець для старшага брата. З гэтаю мэтаю выстаўляюцца імёны людзей небеларускага паходжання, якім трэба аддаваць пашану.

Анойчы мне трапіла ў рукі кніжка з цэласці беларускае савецкае літаратуры. Калі я добра памятаю сягоння была яна пад тытулам «Рабінзоны» ці «Беларускія Рабінзоны». Фабула простая і непрывычная: на Палессі пастушкі знаходзяцца ў лесе, чуюць яны нейкі шорах між кустамі і дрэвамі і падазраюць. У выніку падазрэнне яны паведамляюць у адпаведныя ворганы бяспекі. Тут сугеруецца думка дзецям, што і яны павінны займацца даносніцтвам.

Перада мною ляжыць невялікіх памераў кніжачка «Тарас на Парнасе» з падзагалоўкам «народная паэма». Тут прыблізна на пяцідзесяці бачынах друкуецца тлушча, якая прадназначаецца для дзяцей, недаспелае моладзі, непісьменных людзей і для ўсіх зубаскалаў, і тых, што ўмеюць мацюгацца. Тут, як і сам тытул кажа, Тарас расказвае, як ён папаў на грэцкі Парнас, каго ён там спаткаў і што бачыў. Кніжачка друкуецца на дзвюх мовах, беларускай і расейскай. Ведама, падобная публікацыя, выдадзеная ў дваццацітысячным тыражы, ёсць шкоднаю для беларускае адукацыі. Але яна патрэбна для дарэвалюцыйных як і паслярэвалюцыйных расейцаў. Чаму? Бо гэтым, як яны думаюць, даючы ў рукі беларускаму народу падобны друк, асягваюць некалькі мэтаў на адзін раз. Падобнаю казачкаю яны накіроўваюць беларускую ўвагу нібы ў старажытна-грэцкі свет, але фактычна, вядуць нас да таго, каб мы не цікавіліся старажытна-грэцкаю літаратураю, бо там, бачыце, кажуць яны, усё гэтакае самае, як і ў гэтым тлустым апавяданні Тараса.

Калі б здарылася, што нехта асмялеў сярод беларусаў і захацеў бы ведаць болей з грэцкага свету, скажам — грэцкую філязофію, таму яны маюць адказ у тым сэнсе, што, бачыце, ёсць пераклад на расейскую мову і вы ведаеце гэтую культурную мову.

Характэрна. Калі ўпершыню ў Сіракузах, Нью-Ёрку, друкавалася першая кніжка з трыма дыялогамі Платона ў перакладзе на беларускую мову, тамтэйшыя ўкраінцы, даведаўшыся пра гэта, выражалі думку са шкадаваннем, што ў іх яшчэ няма падобнага перакладу. Пасля нейкага часу адзін з украінскіх прафесараў падараваў мне кніжку ў перакладзе з расейскае мовы на ўкраінскую «Легенди и мифи стародавньоі Грэціі» з расейскага выдання, Кіеў, 1967. Значыцца, украінцы, як і беларусы, пра міфы старажытнае Грэцыі чытаць могуць, але да істотнае спадчыны Грэцыі дакранацца не смеюць.

●

Беларусь для мяне — гэта кампаўнд, на змест якога прыпадаюць гэтакія элементы: у першую чаргу гэта родны дом, сям'я, дзіцячыя гады, любоў да мяне і мая любоў да майго жывога асяроддзя. Падобнае з'явішча ёсць натуральная і свомае для кожнага жывога існавання.

Мы, каторыя стала жывем, скажам, у Слуцку і з дня на дзень бачым усе добраслаўленні роднае зямлі, нашае ўспрыманне перанасычаецца і пачынаецца псіхалагічны працэс недаацэны таго, што наша Маці-Зямля распасцерла перад намі.

Кантраст гэты асабліва тады стаецца спасцярожным, калі чалавек, з тае ці іншае прычыны, пакідае родную зямлю на нейкі час або і назаўсёды. Два жыцці выступаюць, жыццё на лоне натуры і жыццё мадэрнае. Адно сумуе па другім.

На Ваша другое пытанне адносна зберажэння роднае мовы, я мог бы адказаць пытаннем, чаму гэта нашыя людзі ў сябе дома, на Бацькаўшчыне не захавалі найбольшае дарагацэннасці ў форме нашае мовы.

Мне ніколі не прыходзіла на думку сцерагчы свае мовы, хіба што між іншым, як тэма. Мова мая беларуская была проста мне моваю, як нямецкая — немцу, эскімосу — эскімоская ці амерыканцу — ангельская або расейцу — расейская.

Праўдападобна, падсведама мова перахоўвалася, дзякуючы любові да той зямлі, дзе радзіўся і гэтае самае любові, якая распасціралася на ўвесь абшар, які называўся Беларусь, а з часам, калі гістарычнае пазнанне Бацькаўшчыны паглыблялася, любоў гэтая распасціралася на тое паняцце і тую рэчаіснасць, якая называлася Вялікае княства Літоўскае.

Абагульняючы сказанае, трэба сцвердзіць адзін фактар, з якім спатыкаюцца ўсе эміграцыйныя рухі. Гэтым фактарам ёсць наяўнасць агульнае адукацыі з аднаго боку і з другога — адсутнасць яе.

Для прыкладу, мы ведаем, што ў часе індустрыяльнае рэвалюцыі (чытайма — «трансфармацыі») у Злучаных Штатах адзін з яе этапаў прыпадае на пачатку нашага стагоддзя, шматлікія маладыя людзі нашае нацыі пакінулі родны край і эмігрыравалі ў Паўночную Амерыку. Між імі, сярод іншых, у 1912 г. быў і мой родны брат Косцік (Канстанцін).

Калі апошняя хваля пасля Другое сусветнае вайны прыбыла сюды, яна тут і там спатыкала прадстаўнікоў эміграцыі з 1912 г. Усе спробы навязаць з імі беларуска-духовы кантакт не ўвянчаліся поспехам. І сталася гэта з тае простае прычыны, што хваля гэтая ў сэнсе адукацыйным як і ў сэнсе нацыянальным, была хваляю анальфабэтаў. Калі мы спрабавалі гаварыць з імі пра Беларусь, яны проста не разумелі нас. Аднойчы я прыпадкова спаткаў аднаго тут амерыканца. Увага мая была звернута на яго з тае прычыны, што ён сярод спатканых нас быў маламоўным. Калі я знайшоўся з ім сам-насам, я падышоў да яго і пачаў гаварыць з ім. Ён быў мне прадстаўлены як чалавек з французскім прозвішчам, накшталт Ніколяэ. Цяперака, у гутарцы са мною, пасля таго, як я загаварыў да яго па-беларуску, ён сказаў мне, што ягонае сапраўднае прозвішча Няхай, і паходзіў ён з нейкае вёскі з-пад Менску. Быў ён тады недзе ў веку каля шасцідзесяці гадоў. Праз увесь гэты час ён мала меў нагоды гаварыць па-беларуску і пачуць ад некага беларускае слова. Быў ён вельмі рады, што спаткаў мяне. Пра Беларусь ён нічога не ведаў. Прычына ягонае нацыянальнае нясведамасці ляжала не ў «чужой» краіне, але ў ягонай адукацыі.

Як кантраст да ведамага нам у нас з'явішча, хацеў бы супрацьставіць габрэйскую нацыю, якая на працягу не пару стагоддзяў, але на адлегласць двух тысячалеццяў, пераходзячы ад народа да народа, здабывала іхныя мовы і адначасна не згубіла аніводнага свайго слова, і бадай што аніводнага чалавека са свае нацыянальнай сям'і. Прычына сярод габрэяў ёсць тая, што яны мелі аграмадную сваю культуру, якая бараніла іх. Гэтае самае можна сказаць пра немцаў, французаў. Гэтыя апошнія ў Канадзе маюць нават сваё «гаспадарства».

Хачу пры гэтай нагодзе зноў вярнуцца да таго, аб чым выражаўся ўжо вышэй. Культура, у дадзеным выпадку, гэта не тая навука, якую чаляднік здабывае, вучачыся на шаўца, краўца, лекара ці муляра або інжынера. Праўдзівая адукацыя, яна толькі здольнаю ёсць утрымаць нас пры нацыянальным жыцці.

Зразумеўшы гэту сутнасць нашае справы, я прысвяціў шмат часу і многа грошай, каб звярнуць увагу маіх суродзічаў на адсутнасць у нас праўдзівае адукацыі.

Усе ведамыя нам культуры: расейская, нямецкая, французская, ангельская пачалі з таго, што звернута імі была ўвага на Атэны, выражаючыся агульна.

Тое, што была дабром для іх, будзе гэтаксама дабром і для нас. Я іншага выхаду не бачу. Калі Вы яго ведаеце, дайце мне ведаць, я буду ўдзячны.

З перспектывы часу варта яшчэ раз перагледзець справу.

Калі я першы раз спаткаўся са школьнаю граматаю, была гэта расейская грамата. Расейская была мая школа, расейскім быў першы мой падручнік Клаўдзіі Лукашэвіч — «Добрые Съмена». Ніхто з майго наваколля, у хаце ці па-за хатаю ніколі не звярнуў маю ўвагу на факт, што мы, беларусы, павінны чытаць па-беларуску і мець беларускую школу. Ніхто і ніколі не ўспамінаў пра Беларускую гісторыю.

Будучы ў гэткім стане, Косцік выехаў у Амерыку. Апанас быў узяты ў армію, натуральна, у расейскую. Падсведама людзі ў маім наваколлі хіліліся ў бок «лепшага». І гэтым лепшым была расейская мова, была расейская царква. Быў 1914 год. Надышла Першая сусветная вайна, а з ёю расейская рэвалюцыя. Вось прыблізна ў гэткай атмасферы паехаў я ў Вільню. Тут пачаў адчуваць першы павеў беларускасці, хоць і ўплыў яго быў вельмі марудны. Усе іншыя з блізкае і далёкае радні засталіся там, у «Расеі». І прыблізна гэтакае з'явішча палажэнне рэчаў аставалася ўсюды. Нічога затым дзіўнага, што Маскве было лёгка затрымаць падобны стан і паглыбіць яго да гэткае ступені, што «народ нат імяні свайго ня знаў».

У першай кнізе маіх «Мэмуараў» я падаю абставіны, у якім я першы раз пачуў, што я беларус. Чалавек, каторы пытаў маю маму адносна нашае нацыянальнасці, быў украінец.

Аднойчы ў часе міжваенным адведаў я места Пшэмысль. Я быў здзіўлены, калі, ідучы на вуліцы, я пачуў як людзі, што ідуць перада мною як і за мною — усе гавораць па-ўкраінску! І ў мяне адразу выступіў кантраст нашае рэчаіснасці ў Вільні, дзе ніхто і ніколі, з малымі выняткамі, не чуў на вуліцы беларускае мовы. Гэта нічога, што Вільня знаходзілася ў асяроддзі, густа заселеным беларускімі вёскамі і людзі там ужывалі ў штодзённым жыцці беларускую мову.

Нехта сказаў, што калі кожны чалавек замяце вуліцу перад сваім домам — уся вуліца будзе чыстаю.

Гэтая самая максіма абавязвае кожнага з нас — хай кожны пачне гаварыць па-беларуску і па-беларуску загаворыць увесь народ. Інакш кажучы, народ будзе шчыльным, задзіночаным, адважным і сільным.

І калі ён гэтакім будзе, ніякая расейшчына яго не пераможа.

У дадзеным часе я канцэнтруюся над другою кнігаю маіх «Мэмуараў». Я спадзяюся, што напрыканцы гг. кніжка выйдзе з друку.

Другою рэчаю на чарзе стаяць «Лепшыя думкі чалавека». Будзе гэта трэці томік.

Трэцяю рэчаю ёсць «Нямецка-беларускі слоўнік». 50 працэнтаў гэтае працы выканана, а рэшта памалу даробляецца. Усе нашы выданні маюць той самы памер паперы. Слоўнік мае налічваць да 1000 бачын.

Апошняе з гэтае чаргі — гэта «Анаграфы» — часапіс нашае арганізацыі, які, на жаль, не выходзіць перыядычна. Сюды назбіралася матэрыялу, які часамі стаецца неактуальным, але выдрукаваць яго трэба.

21 лютага 1990 г.

**Публікацыя Леаніда ПРАНЧАКА.**

(У публікацыі зроблены скарачэнні з дазволу доктара Яна Пятроўскага).

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПЕРАМОГУЦЬ УСЕ

Як вядома, ужо амаль два гады працягваецца конкурс на праект помніка ахвярам сталінскага генацыду ў Курапатах. На старонках перыядычнага друку за гэты час было выказана шмат цікавых меркаванняў і прапаноў. Мне хацелася б падзяліцца сваімі думкамі па гэтай важнай для ўсіх нас праблеме, выказаць сваю канкрэтную ідэю.

За апошнія семдзесят гадоў і ў нас на Беларусі, і па ўсім былым Саюзе ўзведзена безліч абеліскаў і скульптурных ансамбляў, пакладзена памятных камянёў, адліта мемарыяльных шыльдаў. Сёння ўжо гэта нікому нецікава і, на жаль, мала каму патрэбна. Бо вельмі часта пры ідэалагічнай выверанасці ў іх адсутнічае мастацкая выразнасць. То ці варта зноў затрачваць высілкі і і сродкі на штосьці падобнае ў Курапатах — у месцы нашай агульнай жалобы і неўтаймоўнага болю, у месцы, якое павінна пастаянна нагадваць жывым пра вялікую пакуту і цярпенне, пра тую крыжовую дарогу, якую прыйшлося прайсці тысячам бязвінных людзей. А каб гэтая згадка пастаянна жыла, каб памяць пульсавала разам з біццём нашых сэрцаў — павінен жыць помнік, які там будзе ўзведзены.

Мне ён уяўляецца своеасаблівым духоўным экуменічным цэнтрам у выглядзе капліцы. Сам жа помнік-капліца бачыцца ў выглядзе ліліі ці, можа, лотаса, г. зн., не традыцыйным збудаваннем, а такім дасканалым васьміграннікам, у якім вокны — вітражы з выявою крыжовай дарогі нашага народа і наверсе — крыж. Святыня гэтая павінна быць агульнаю для вернікаў усіх канфесій — для каталікоў, праваслаўных, уніятаў, пратэстантаў, іудзеяў і г. д., бо ў Курапатах пахаваны людзі ўсіх веравызнанняў. Вырашэнне такой задумы даволі простае. У невялікім памяшканні помніка-капліцы робіцца ўзвышэнне. У часе набажэнстваў, калі збіраецца шмат людзей, алтар гэты можа быць бачны ўсім, дзякуючы таму, што ў сцяне галоўнага фасада капліцы будзе некалькі дзвярэй, якія лёгка рассоўваюцца. Гэта дасць магчымасць удзельнічаць у набажэнстве вялікай колькасці людзей.

За алтаром — пакоі для кожнай канфесіі. Ключы ад аднаго з іх — у праваслаўнага святара, ад другога — у каталіцкага і гэтак далей. Калі ўзнікне патрэба, напрыклад, адправіць набажэнства праваслаўнаму брату, ён прыходзіць, адчыняе свой пакой, бярэ крыж, абраз і ўсё, што яму неабходна ў такім выпадку. Абраз, дарэчы, можна павесіць на шторы, там жа замацаваць іншую абавязковую атрыбутыку. Пасля набажэнства ўсё зноў збіраецца і заносіцца ў свой пакой. Гэтаксама робіць святар любой іншай канфесіі. Разам з тым такія асобныя канфесійныя пакойчыкі маглі б служыць своеасаблівай канцылярыяй кожнаму святару. Бо прыехаўшы за гадзіну-другую да набажэнства, ён мог бы і паспавядаць людзей і адказаць на пытанні тых, хто, можа, і не ходзіць ні да касцёла, ні ў царкву, а прыйшоў менавіта сюды. Час ад часу, скажам, у нейкую гадзіну, каля алтара могуць адпраўляцца супольныя набажэнствы.

Сама святыня бачыцца мне даволі высокаю, з вежаю, якая б узносілася над лесам і каб з яе кожны мог убачыць усе Курапаты, каб адкрывалася панарама таго страшнага і святога месца. Наверсе помніка-капліцы — крыж з прыгожымі падсветкамі, можа быць устаноўлены і Вечны агонь.

У гэтай святыні я бачу таксама адкрытую галерэю на другім паверсе для таго, каб там маглі выступаць харавыя калектывы, выконваць духоўную музыку: такія своеасаблівыя хоры анёльскія. Усё гэта, несумненна, прыцягвала б людзей.

Пры ўваходзе ў Курапацкі лес, на маю думку, трэба абавязкова ўзвесці браму-арку, бо гэта пачатак крыжовай дарогі.

Сам лес у Курапатах і тэрыторыя вакол яго вельмі запушчаныя. Трэба было б навокал парабіць дарожкі, пасадзіць кветкі. Ад святыні таксама пракласці прамянямі ва ўсе бакі, да ўсіх захаванняў сцежкі. Каб людзі маглі пахадзіць у спакоі, падумаць...

Пэўна ж, на ажыццяўленне такога праекта патрэбны немалыя грошы. Эканамічная сітуацыя ў дзяржаве, як вядома, складаная. Але, калі будзе будавацца ў Курапатах сапраўды святыня, духоўны цэнтр, то можна заклікаць людзей рабіць ахвяраванні, працаваць на будаўніцтве, удзельнічаць у суботніках.

Калі архітэктараў зацікавіць мая гэтая ідэя, і яны зробяць цікавы праект, то фінансаванне часткова касцёл возьме на сябе. Што датычыць догляду гэтай святой мясціны, то ўтрымаць парадак на такой вялікай тэрыторыі таксама няпроста. Але ізноў жа, калі там будзе святыня і, калі, напрыклад, кожныя два месяцы пачаргова якаясь канфесія будзе адпраўляць сваё набажэнства, то заўсёды перад тым вернікі пойдуць туды і навядуць парадак. Увогуле, з часам можна было б устанавіць там дзяжурства па месяцах. Бо, сапраўды, колькі ўжо за ўвесь апошні час было ў краіне грандыёзных задумаў, праектаў. І людзі браліся, выконвалі іх, а пасля неяк адразу кідалі ўсё, забывалі, аддавалі нябыту. Гэтак і ў дадзеным выпадку. Можна ўзвесці любы, самы арыгінальны помнік і... занядбаць яго, успамінаць, хіба, у лепшым выпадку, раз на год.

І самае страшнае, пра што хацелася б сказаць. Конкурс ідзе ўжо даволі працяглы час. Прапанавана шмат праектаў, якія заслугоўваюць увагі і права на жыццё. На маю думку, каб нікому не было крыўдна, можна зрабіць наступнае. У Курапатах шмат захаванняў, шмат магіл, а таму найбольш цікавыя помнікі можна было б адліць і паставіць на гэтых магілах. І такім чынам усе аўтары праектаў, усе ўдзельнікі конкурсу пераможуць у гэтай агульнай святой справе.

У самой жа святыні можна зрабіць план Курапат з указаннем помнікаў і іх аўтараў, каб людзі змаглі пайсці да кожнага і пабачыць.

**Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК,**
**ксёндз**
**(касцёл святых Алены і Сымона).**

**ФОТАФАКТ**

## ВОІНАМ-«АФГАНЦАМ»

Скульптары У. Жбанаў і В. Каструкоў працуюць над помнікам нашым землякам, загінуўшым у Афганістане. Помнік для Светлагорска. Каля трохсот хлопцаў з гэтага горада ўдзельнічалі ў той вайне, дзесяць з іх не вярнуліся... Відавочна, што аўтары ў сваёй працы абапіраюцца на традыцыі савецкай манументальнай пластыкі, на вопыт утварэння ваенных мемарыялаў (Брэст, Валгаград, Кіеў...).

**В. БОГУШ.**



На здымку У. ПАНАДЫ — фрагмент помніка.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міколу Маляўку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Калектыў часопіса «Вясёлка» выказвае шчырае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі Маляўку Мікалаю Аляксандравічу з прычыны вялікага гора — смерці МАЦІ.**

СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

# ГІСТАРЫЧНЫ МІФ ЦІ РАЗУМЕННЕ ГІСТОРЫІ?

Якімі шляхамі пойдзе развіццё гісторыі беларусаў у яе навуковым і папулярным увасабленнях? Гэтае пытанне ставяць перад сабою шматлікія навукоўцы і выкладчыкі, тэарэтыкі гістарычнай навукі і практыкі. Адзін з іх — кандыдат гістарычных навук А. Літвін, з якім гутарыў Ю. Залоска ў «ЛіМе» (22.05 г. г.). Гісторык праяўляе занепакоенасць тым, што змены да большай разнявоненасці нашай ментальнасці «зусім не ёсць натуральныя, бо яны таксама навязваюцца грамадству», што існуе «заказ на новую зададзенасць у фармуляванні гісторыі, зададзенасць ад зваротнага. Але навукі не будзе і тут, бо навука — гэта найперш праўдзівая інфармацыя і аналіз усяго комплексу фактаў, а не дактрыны ці ўстаноўкі».

Наконт першага сцвярджэння А. Літвіна варта задумацца. А што дрэннага ў большай пластычнасці, раскаванасці і нармальнасці сучаснай ментальнасці? Ці гэта кепска, што такія перамены адбываюцца? Ці лепей было заставацца такімі, якімі мы былі раней? Наконт жа зададзенасці, то калі прыпомніць, то і Фукіцыд пісаў сваю «Гісторыю» зададзена, і Тацыт, і Таціш-чаў, і Пічэта, і той жа Улашчык і іншыя. І атрымлівалася няблага. Толькі ўсё залежыць ад таго, што лічыць зададзенасцю. Тым гісторыкам, якія перапісваюць зараз скрыўленую за дзесяцігоддзі гісторыю, ніхто грошай не плаціць за іхнюю працу. І раней не плацілі. Затое добра плацілі за напісанне зададзенай звышфальшывай гісторыі, гісторыі перакручанай, непраўдзівай. А тое, што А. Літвін спасылаецца, што ён не зрабіў манаграфіі за пятнаццаць год працы на гісторыка-партыйнай ніве, а іншыя пісалі іх, гэта, па-мойму, наўрад ці апраўданне. Бо, апроч манаграфій, навукоўцы Гістпарта выпускалі і артыкулы, якія мала чым адрозніваліся ў той час ад манаграфій.

А. Літвін кажа, што, працуючы ў Гістпарце, ён, каб хацеў надрукаваць манаграфію, то зрабіў бы гэта, але ён «не хацеў падладжвацца пад афіцыйную танальнасць». Хто ж перашкаджаў шаноўнаму аўтару інтэрв'ю ўсе гэтыя пятнаццаць год, што ён працаваў у Гістпарце, абраць шлях А. Бембеля, А. Грыцкевіча, М. Ермаловіча, Г. Каханоўскага, У. Конана, А. Мальдзіса, М. Ткачова, М. Чарняўскага. Ім ліха хапіла, кожнаму ў сваёй меры. Адных бэсцілі і выкідалі з працы, як М. Прашковіча і А. Бембеля, другім давалі «капняка ўверх», каб яны «не псавалі» акадэмічнае паветра незалежнасцю сваёй думкі, іншых прапрацоўвалі ў ЦК КПБ, даводзілі да сардэчнай хваробы, а большасці проста перашкаджалі выдавацца. Але яны ўсё ж выдавалі, калі маглі, манаграфіі, артыкулы, ды не такія, што выдаваліся ў Гістпарце і ў іншых афіцыйных установах.

Наконт зададзенасці гісторыі сёння. Гэтая зададзенасць была раней. Толькі яе, у адрозненне ад сучаснай зададзенасці, надта добра аплачвалі, разбэшчваючы тагачасных афіцыйных гісторыкаў. Зараз жа гэтая зададзенасць — гэта грамадскі попыт не на зашмальцаваныя сюжэты гісторыі з загадзя вядомай афарбоўкай і трактоўкай, а на тыя тэмы, якія знарок абміналіся адміністратарамі ад гісторыі, ці так фальсіфікаваліся, што з імі нецікава было знаёміцца, бо наперад усё было вядома. Быў і застаецца попыт на іншае — на адабраную ў нас спадчыну.

Скаргі на сучасную зададзенасць гістарыяграфіі ўяўляюцца мне сумам аб мінулых часах, страчаных пазіцыях, манапалістычных і прывабных для супрацоўнікаў — «байцоў» ідэалагічнага фронту гістарыяграфіі. Тады «папамі марксісцкага прыходу» з навуковымі ступенямі вырашалася «кому быть живым и хвалимым, кто должен быть мёртв и хулим».

На зададзеныя жыццём тэмы можна пісаць як аб'ектыўна, так і дактрынальна. Калі нацыянальная гісторыя пішацца па чужых дактрынах, гэта, як мне здаецца, і ёсць шкода для нацыянальнай гісторыі. Калі ж яе пішуць зыходзячы з нацыянальнай канцэпцыі, то не бачу нічога ў гэтым дрэннага. Дактрынальнасць, вядома, узнікае тады, калі адмаўляюцца ад аб'ектыўнасці, ад рацыянальнага аналізу, гэта значыць ад такога спосабу, які высвятляе мінулае не схематычна, не аднабакова, а шматгранна.

Хацеў бы далей звярнуць увагу на нататку кандыдата гістарычных навук А. Краўцэвіча «Патрабуецца міф» («ЛіМ», 17.04 г. г.), у якім прапануецца стварыць і ўвесці ў дзеянне агульную схему папулярнага варыянта канцэпцыі гісторыі Беларусі ў выглядзе новага міфа. Згодзен з аўтарам у тым, што адсутнасць новай нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі адмоўна ўплывае на стварэнне нацыянальнай гістарычнай самасвядомасці беларусаў (бо ім навязвалі і працягваюць навязваць фальшывую рускацэнтрычную міфалагему гісторыі, якая псуе розум моладзі). У гістарыяграфію гісторыі Беларусі, аднак, за мінулае стагоддзе трывала ўвайшло некалькі міфаў. Вось некаторыя з іх: аб чыста славянскім этнагенезе беларусаў; аб непадзельнасці адзінага ўсходнеславянскага этнасу ў старажытнарускія часы (і адсюль аб вядучай ролі Кіеўскага, а не Полацкага княства ў аснове ўтварэння беларускага этнасу і ягонай дзяржаўнасці); аб заваёве Беларусі літоўскімі князямі-захопнікамі; пра іманентную цягу беларусаў да кіравання з боку маскоўскіх валадароў; аб вызваленчых намерах Масквы пры заваёве Беларусі; аб цалкам адмоўным значэнні для жыхароў краю Берасцейскай уніі, каталіцызму і уніяцтва наогул; аб прагрэсіўнай ролі падзелаў Рэчы Паспалітай; аб масавым удзеле народа Беларусі ў руска-французскай вайне 1812 г. І шмат чаго яшчэ.

Вядома, што трэба вярнуць гісторыі яе аб'ёмнасць, але як пры гэтым не спакусіцца міфалагізатарствам? У адказ на ідэалагізаваную хлусню мінулага, якая «ўздымала», можна атрымаць такую ж «уздымальную» міфалогію, у якой лексема «камуністычнага» будзе заменена «нацыянальным».

Слушна ўвогуле адмовіцца ад «міфаў» і перайсці да рацыянальнага тлумачэння адпаведных крыніц і фактаў, якія ў іх адлюстраваныя. Толькі не дзеля замены іх новымі міфамі, як гэта паспрабаваў зрабіць, напрыклад, у дачыненні да вайны 1812 г. гісторык М. Цуба ў «ЛіМе» за 7.06.1991 г. (цікаўных дасылаю да свайго водгука на артыкул М. Цубы ў «ЛіМе» за 20 верасня мінулага года).

Яшчэ прыклад. У змястоўнай добра напісанай карыснай кнізе І. Саверчанкі «Канцлер Вялікага княства» (Мінск, 1992), мне здаецца, занадта катэгарычна выказваецца думка пра тое, што «Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — гэта поліэтнічная сярэдневечная беларуская дзяржава, што існавала ў XIII—XVIII ст.» Гэтае тлумачэнне крыху разыходзіцца з прынятай навуковай трактоўкай Вялікага княства як беларуска-літоўскага ці літоўска-беларускага гаспадарства. Атрымліваецца, згодна І. Саверчанкі, што можна назваць каралеўства Галіцыю і Ладамерыю ў складзе Аўстрыі поліэтнічнай польскай тэрыторыяй (калі б гэта пісаў польскі гісторык), ці поліэтнічнай украінскай тэрыторыяй (калі б гэта рабіў украінскі даследчык). Альбо каб Бельгію фламандскі гісторык назваў поліэтнічнай фламандскай дзяржавай, а валонскі ягоны калега — поліэтнічнай валонскай дзяржавай. Такое пішацца аўтарам кнігі без уліку таго, што ў складзе Вялікага княства адміністратыўнай мяжы між Беларуссю і Літвой не было да 1918 года, што літоўскія і беларускія паветы і паветы са змяшаным насельніцтвам уваходзілі ў склад адных ваяводстваў, а потым губерань... Далей І. Саверчанка ўжывае такія выразы, як «беларускае рыцарства», «беларуская шляхта», «беларускія жаўнеры», «беларускія евангелікі», «беларускія радныя паны», «беларускі канцлер», «беларускае гаспадарства» і г. д. Ва ўсіх гэтых выпадках размова ў кнізе ідзе пра беларуска-літоўскіх ці пра беларускіх і літоўскіх радных паноў, шляхту, жаўнераў, рыцараў і г. д. Лічыць беларускімі пісьменнікамі, як гэта робіць І. Саверчанка, братоў Зізаніяў, М. Сматрыцкага цяжка, бо яны былі беларуска-ўкраінскімі пісьменнікамі, і памянёны ў іх шэрагу Сільвестр Косаў увогуле быў украінскім пісьменнікам.

Дык што, кінемся абганяць адзін другога ў новай міфатворчасці? Пераасэнсаванне гісторыі можа падмяніцца простай зменай знака з плюса на мінус...

На маю думку, пытанне аб «дэмакратычнай» ці «нацыянальнай» міфатворчасці — праблема не толькі гісторыкаў. Без рацыяналізацыі гістарычных ведаў выпрацаваць адэкватную дэмакратычнаму, нацыянальна свядомаму грамадству палітычную свядомасць немагчыма. Пошукі вінаватых увогуле маюць даўнія традыцыі. Русіфікатарскія гісторыкі абвінавачвалі ва ўсіх бедах беларусаў — гэтых «маленькіх рускіх», аматараў польскіх інтрыг, а паланізатарскія колы даследчыкаў бачылі вінаватымі дзеячаў Расіі. А ці нельга прызнаць вінаватымі ў шматлікіх бедах саміх сябе? Г. зн. прызнаць сваю адказнасць за сваю гісторыю?

Гэтаму і перашкаджае міфалагізатарства. Таму прапаную звярнуцца да такога прызнання аўтарытэта «левай думкі», як Ралан Барт, аўтар кнігі «Міфалогіі», часткова перакладзенай на рускую мову. Міф і рацыянальнае навуковае пазнанне гісторыі — гэта рэчы супрацьлеглыя. Міф, згодна меркавання Ралана Барта, пазбаўляе рэч, аб якой ён апавядае, усялякай гістарычнасці; міф ёсць найбольш выніковым сродкам утрымання існуючага парадку, найпэўнейшым сродкам дысцыплінавання мас, бо ён «знішчае складанасць чалавечых учынкаў, прыдае ім прастату сутнасцяў і зацямняе ўсялякую дыялектыку, спыняе ўсялякія спробы пранікнуць па той бок непасрэднага назірання; ён стварае свет без супярэчнасцяў, таму, што ў ім няма глыбіні...» «Міф не ёсць ні хлуснёй, ні шчырым прызнаннем, ён ёсць скажэннем», — піша Р. Барт.

Дзе ж выйсце — не міфатворчае, а рацыянальнае — з сённяшняга становішча ў гістарыяграфіі? На мой погляд, яно да празрыстасці відавочнае. Патрэбная падрыхтоўка спецыялістаў у сферы тэорыі і методыкі гістарычнага крыніцазнаўства, гістарыяграфіі, метадаў гістарычнага даследавання, а пакуль што — зваротанне да дапаможнікаў А. Пранштэйна, В. Мядушэўскага, Л. Пушкарова, М. Варшаўчыка па першай дысцыпліне, а па дзвюх другіх — да дапаможнікаў І. Кавальчанкі і польскага спецыяліста Е. Тапольскага.

Калі ж і надалей будзе квітнець міфатворчасць на базе аматарства і саматужніцтва ў галіне пералічаных ведаў, тады да беларускай гістарыяграфіі надалей можна будзе стасаваць тыя словы, якія, на вялікі жаль, можна аднесці і да пераважнай большасці матэрыялаў спадчыны беларускай гістарыяграфіі апошніх шасцідзесяці гадоў.

Без рацыянальнага (замест міфалагічнага) асэнсавання крыніц наша гістарыяграфія не зрушыцца з месца, бо дылетантызм у навуцы — справа малавыніковая.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ,**
**дацэнт Пецярбургскага інстытута культуры, старшыня рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбурзе.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## НОВЫ ШКОЛЬНЫ КУРС

**Зноў, як у колішні перыяд адраджэння беларускасці, сёння з новай сілай паўстала пытанне аб увядзенні школьнага курса «Беларусазнаўства». Звышінтэрнацыянальная рабская палітыка ранейшых уладароў Беларусі патрабавала пакланення іншым, адмаўляла ў вывучэнні сапраўднай гісторыі свайго народа, яго быту, вялікай духоўнай спадчыны. Мы больш ведалі пра далёкія і чужыя народы, чым пра сябе.**

**Сёлета часовы творчы калектыў Міністэрства адукацыі (кіраўнік Алесь Лозка, кандыдат філалагічных навук) распрацаваў інтэграваны курс «Беларусазнаўства» для ўсіх класаў школ, ліцэяў, гімназій, які прапануецца для вывучэння па выбару. У першы зборнік, які выйшаў да новага навучальнага года, увайшлі тэмы: «Беларускія народныя гульні, карагоды» (1 клас). «Фальклор. Літаратурная апрацоўка фальклору». (2), «Беларуская лялька» (3). «Беларускі народны каляндар. Старажытныя абрады, святы, забавы» (4). Акрамя метадычных рэкамендацый і праграм, змешчаны практычны матэрыял для настаўніка.**

**У наступных зборніках знойдзецца месца «Легендам і паданням зямлі беларускай», «Народнаму мастацтву», «Краязнаўству», «Этнаграфіі», «Музыцы», «Дойлідству Беларусі». Новы курс, які распрацоўшчыкі мараць зрабіць у будучым абавязковым школьным прадметам, паслужыць справе выхавання нацыянальнай свядомасці дзяцей.**

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», № 8

**Думаць, разважаць аб супярэчлівасці і своеасаблівай вабнасці нашага сённяшняга часу, пільней асэнсоўваць складаныя працэсы мінуўшчыны па-ранейшаму запрашае часопіс «Беларуская думка». І робіць гэта праз самыя розныя жанры. У нумары — творы Я. Брыля, П. Панчанкі, інтэрв'ю А. Марціновіча з А. Мальдзісам «Вярнуць гісторыю народу»; нарыс А. Рогалева «Фельдмаршал Паскевіч-Эрыванскі», спроба Э. Яснага зірнуць на нашу рэчаіснасць вачыма В. Легасава і амерыканскага прафесара Цэнтра мастацтваў і рамёстваў Бруна Лусата «Па лесвіцы ўніз»; гутарка А. Сілянкова з намеснікам старшыні праўлення Таварыства майстроў народнай творчасці Беларусі Ю. Івановым «Здзіўляе, як яшчэ сёння існуюць народныя рамёствы...»**

**Самы шырокі аспект праблем закранаецца ў артыкуле І. Сачанкі і А. Шарапы «Агульнаеўрапейскі дом: ідэя-фікцыя ці рэальнасць?», публіцыстычным роздуме Г. Лыча «Насілле над эканомікай», нарысе М. Панасюка «Іванаў хутар», успамінах ветэрана журналістыкі А. Сімурава «І братам дапамагалі», іншых матэрыялах.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 3.09.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**



**Індэкс 63856** **П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**Тыраж 18068** **М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**